




КАНТАКТЫ:
А/с 82, 220030, Менск-30, БЕЛАРУСЬ
тэл. (017) 225 51 10
факс (017) 206 59 09
ngo@user.unibel.by
www.ngo.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.



## тэма

АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: "КОЖНЫ СЯБАР АСАМБЛЕІ МУСІЦЬ ВЕДАЦЬ, ШТО МЫ ІСНУЕМ ДЛЯ ТАГО, КАБ БЫЦЬ АСАМБЛЕЯЙ САЛІДАРНАСЬЦІ" .......... 3

Алёна Валынец
ВЫКАНАЎЧАЕ БЮРО Ў СЕТЦЫ
існуючай і будучай Асамблеі .......... 7

Сяргей Мацкевіч
MISSION IS POSSIBLE .......... 9

Беларуская прэса пра кангрэс .......... 11

Жэня Місілевіч
ШТО НАМ ТРЭБА ДЛЯ ПОЎНАГА ШЧАСЬЦЯ .......... 13

## рэгіён

Ю.Сівец
КАШАЛЁК ЦІ ЖЫЦЬЦЁ!
Гомельшчыну дэзактывавалі .......... 16

ВІЦЕБСКІ ЗАСТОЙ
інтэрвію на фоне 5-годзьдзя
моладзевага "трэцяга сэктару" .......... 17

Андрэй Мялешка
БЕЛАРУСЬ - У ЭЎРОПЕ
у Горадні прайшоў Форум НДА эўрарэгіёну "Нёман" .......... 19

## асамблея

"ПАРТНЭРСТВА БЯЗЬ МЕЖАЎ"
першая справаздача .......... 22

## інфарматар

.......... 23

## зробім лепш!

СЬВЯТЫ МІКОЛА "ЗРОБІЦЬ ЛЕПШ!"
прапановы па кампаніі .......... 24

## кампанія

МАФІЯ - НЕСЬМЯРОТНАЯ?
Польскія НДА "Супраць карупцыі" .......... 25

## лікбез

Вольга Шастакова
ЛІЧБЫ ПІШУЦЦА ЛІЧБАМІ
Прэс-рэліз вачыма журналіста "Комсомолки" .......... 29

## ініцыятыва

НЕ - РЭПРЭСІЎНЫМ ЗАКОНАМ!
кампанія БАЖ .......... 30

## аргразьвіцьцё

Ала Кос
БАЧАНЬНЕ, ЦІ "КАРЦІНА"
БУДУЧЫНІ ВАШАЙ АРГАНІЗАЦЫІ
вучыцеся марыць рэальна .......... 31

## асамблея

Натальля Кожурава, Алёна Андрэева
FROM BELARUS WITH LOVE
зьехалі прадстаўнікі валійскіх НДА .......... 34

## de facto

Алёна Андрэева, Ян Міхевіч
"РАЗАМ У БУДУЧЫНЮ"
падаецца, моладзь выбрала .......... 36

Ян Міхевіч
ПЯЦЬ ГОД "ІНФАРМАЦЫЙНАЙ БОМБЕ"
"Аб'яднаны шлях" рыхтуе новы "Даведнік" .......... 39

## кансультацыя

Вольга Смалянка
АСНОВЫ АРГАНІЗАЦЫІ І ВЯДЗЕНЬНЯ СПРАВАВОДЗТВА Ў ГРАМАДЗКІХ АБ'ЯДНАНЬНЯХ .......... 40

# Алесь Бяляцкі: КОЖНЫ СЯБАР АСАМБЛЕІ МУСІЦЬ ВЕДАЦЬ, што мы існуем для таго, каб быць Асамблеяй салідарнасьці

**5-6 кастрычніка 2002 году ў Менску адбыўся Кангрэс Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі. У штогадовым форуме беларускага "трэцяга сэктару" ўзялі ўдзел каля 200 дэлегатаў ад арганізацыяў, грамадзкіх ініцыятываў, фондаў з усёй краіны, а таксама госьці з Украіны, Польшчы, Галяндыі, Даніі. Ядвіга Мацкевіч папрасіла старшыню Рабочай групы Асамблеі Алеся Бяляцкага распавесьці пра ўласнае бачаньне сытуацыі, якая склалася ў Асамблеі і ў айчынным "трэцім сэктары" цягам мінулых гадоў, паспрабаваць акрэсьліць пляны і пэрспэктывы беларускіх НДА.**

**— З часу правядзеньня чацьвертай Асамблеі няўрадавых арганізацыяў прайшло амаль два гады. Як можна ацаніць гэты пэрыяд?**

— Гэта быў дастаткова складаны і ў пэўным сэнсе драматычны час. Многія няўрадавыя арганізацыі перажывалі сур'ёзныя цяжкасьці: былі вынесеныя дзясяткі папярэджаньняў, зьдзейсьненыя шматлікія праверкі, некаторыя арганізацыі нават зачынілі. Уціск вельмі абмяжоўвае нашую дзейнасьць, але я ня стаў бы сьцьвярджаць, што гэта асноўны чыньнік, які дыктуе ўмовы разьвіцьця "трэцяга сэктару". Шмат якія арганізацыі працавалі згодна са сваімі плянамі і мэтамі. Тое, што вялікая колькасьць НДА летась брала ўдзел у агульнанацыянальных кампаніях, сьведчыць пра тое, што мы здолелі дамовіцца, выпрацавалі агульны стратэгічны плян і заангажавалі тысячы людзей у гэтых кампаніях. Маю на ўвазе кампаніі па мабілізацыі і назіраньні.

Між іншым, гэта гаворыць і пра "сьпеласьць" "трэцяга сэктару": мы перажылі дзіцячы ўзрост, пэрыяд ізаляцыянізму, самадастатковасьці — прыйшло разуменьне, што ёсьць агульныя праблемы, якія трэба вырашаць супольна. Гэта тычыцца перш за ўсё калектыўнай абароны. Вострая патрэба ў гэтым узьнікла пасьля выбараў. Мы арганізоўвалі юрыдычную дапамогу, дасылалі лісты і пратэсты ў судовыя органы, якія касавалі рэгістрацыі і зачынялі арганізацыі.

Другое — гэта арганізацыя масавых кампаніяў. Для мяне асабіста самае прыемнае, што ў адрозьненьні ад палітычных партыяў і пасьля заканчэньня прэзыдэнцкіх выбараў у нас захавалася сумесная стратэгія дзеяньняў. Яна рэалізавалася ў некалькіх кампаніях — па абароне Курапатаў, па абмеркаваньні закону аб веравызнаньнях, да якога далучаліся арганізацыі. Сюды ж можна аднесьці кампанію "Зробім лепш!", па выніках якой выдадзеная брашура "Наш посьпех".



На маю думку, гэта ўсё гаворыць пра пэўную сталасьць нашых арганізацыяў, пра наступны крок разьвіцьця як уласна Асамблеі, так і ў цэлым "трэцяга сэктару" Беларусі, кожнай арганізацыі.

**— Ці існуе, на Ваш погляд, рызыка палітызацыі "трэцяга сэктару" ў Беларусі?**

— Сапраўды, выказваецца такая асьцярога, але, як мне падаецца, яна надуманая і неабгрунтаваная. Так, мяжа паміж грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю вельмі тонкая, напрыклад, дзейнасьць праваабарончых арганізацыяў дзяржавай разглядаецца фактычна як палітычная. Мы спрабуем даказаць, што гэта — праца няўрадавых арганізацыяў, але з нас толькі сьмяюцца. Натуральна, мы падпадаем пад усе тыя "прыемнасьці", якія тычацца дзейнасьці палітычных партыяў. Зь іншага боку, самі палітычныя партыі ў нас зараз адсунутыя ў поле дзейнасьці "трэцяга сэктару", і нашая праца шмат у чым перасякаецца. Партыі абмежаваныя ў палітычнай дзейнасьці, таму некаторыя зь іх з-за свайго паходжаньня бяруць на сябе задачы, зьвязаныя, напрыклад, з разьвіцьцём нацыянальнай культуры. На мой погляд, ня трэба рабіць з партыяў пудзіла, думаць, што гэта нешта страшнае, незразумелае, што можа пашкодзіць разьвіцьцю "трэцяга сэктару". У нас адрозная ад краінаў са сталай дэмакратыяй сытуацыя, дзе ёсьць выразнае размежаваньне паміж палітычнай і грамадзкай дзейнасьцю. Але нашая сытуацыя таксама не арыгінальная. Узгадайце Польшчу ў 80-я гг., дзе падчас змаганьня з дыктатурай да палітыкаў, грамадзкіх і прафсаюзных дзеячоў далучыўся яшчэ і касьцёл.

Мне здаецца, што мы павінны працаваць разам. Іншая справа, што трэба разьмяжоўваць палітычную і непалітычную дзейнасьць.

Узорам такога разьмежаваньня сталі леташнія выбары, калі няўрадавыя арганізацыі ўзялі на сябе непалітычны аспэкт кампаніі. Ва ўсім сьвеце назіраньне і мабілізацыя падчас выбараў ня лічацца палітыкай, толькі ў нас некаторыя "сябры" называюць гэта палітычнымі дзеяньнямі. Я катэгарычна супраць гэтага. Такія правы замацаваныя за няўрадавымі арганізацыямі і дзеючай Канстытуцыяй Беларусі, і Законам аб выбарах. Гэтае права ў нас ёсьць. Мы не

парушаем закон, не залазім на тэрыторыю дзейнасьці палітычных партыяў, мы займаемся тым, што абгаворана законамі, якія зараз дзейнічаюць у краіне.

**З выступу А.БЯЛЯЦКАГА: На маю думку, ня трэба баяцца абвінавачваньняў у “палітызацыі” “трэцяга сэктару”. У нашых умовах любая непадкантрольная ўладам дзейнасьць ужо зьяўляецца палітыкай. Такія абвінавачваньні, на маю думку, трэба ўспрымаць як кепскае надвор’е, як дождж ці як сьнег. Няхай сыпе, а мы павінны ісьці сваёй вызначанай дарогай. У пэрспэктыве ж для нас добра наладжаныя кантакты з дэмакратычнымі палітычнымі партыямі, абмен думкамі, каардынацыя дзеяньняў, што адбываюцца ў рамках КРДС — зарука пабудовы сапраўды дэмакратычнага грамадзтва.**

У той жа час вельмі істотным для Асамблеі я лічу тое, што мы не навязваем нейкі адзін аспэкт дзейнасьці для ўсіх няўрадавых арганізацыяў. Я прынцыповы прыхільнік гэтага. Тут вельмі важным зьяўляецца давер да кіраўнікоў і сяброў саміх арганізацыяў і ўсьведамленьне іх поўнай самастойнасьці ў выбары. Арганізацыя — гэта добраахвотнае аб’яднаньне людзей, і калі яны ня хочуць займацца нейкай справай, браць удзел у нейкай ініцыятыве ці кампаніі, з боку Асамблеі ні ў якім разе не павінна быць і ніколі ня будзе ціску ў дачыненьні да іх.

Тым ня менш, паважаючы самастойныя рашэньні кожнай асобнай арганізацыі, я зьяўляюся шчырым прыхільнікам і буду садзейнічаць сумесным калектыўным дзеяньням, бо толькі яны найбольш эфэктыўныя для дасягненьня супольных мэтаў. Пра гэта сьведчыць практыка грамадзянскіх кампаніяў, мэты якіх могуць быць рознымі.

Мы павінны разумець, што жывем у неспрыяльны момант для разьвіцьця “трэцяга сэктару”. І нашае ратаваньне ў еднасьці — гэта тое, што нам наканавана. Калі мы будзем працаваць паасобку, не каардынуючы свае дзеяньні, значыць, мы проста ня будзем уяўляць сабой аніякай рэальнай сілы, мы ня будзем здольныя вырашаць праблемы ў грамадзтве. Інфармаваньне насельніцтва, праца зь людзьмі — усё гэта патрабуе тысячы розных формаў, людзей, рук, толькі ў гэтым выпадку ў Беларусі можна нешта зьмяніць.

**З выступу А.БЯЛЯЦКАГА: Набліжаюцца мясцовыя выбары, частка НДА будзе браць удзел у непалітычных кампаніях. На сёньняшні дзень многія з нашых арганізацыяў здольныя ня толькі вучыцца, але таксама і вучыць іншых, як можна арганізаваць эфэктыўную працу ў такіх неспрыяльных умовах, якія склаліся ў нас.**

**— Вядома, што існуюць недзяржаўныя арганізацыі, стварэньне якіх ініцыяванае ўладамі ці каляўладнымі коламі. Ці ёсьць нейкае супрацоўніцтва альбо супрацьстаяньне паміж імі і Асамблеяй? Ці існуе жорсткі падзел?**

— Безумоўна, такі падзел існуе. Арганізацыі вэтэранаў, Савет жанчынаў, БРСМ — усе яны лічацца няўрадавымі арганізацыямі, якія аднак атрымліваюць фінансаваньне ад ураду. Фармальна, калі б хтосьці зь іх захацеў стаць сябрам Асамблеі, дзеля чаго трэба падтрымліваць чатыры асноўныя прынцыпы — спрыяньне дэмакратычнаму разьвіцьцю Беларусі, рынкавым рэформам, абароне правоў чалавека і незалежнасьці, — то яны мелі б такую магчымасьць. Але, напэўна, гэта ня тыя арганізацыі, якія самі могуць прымаць рашэньні, таму спадзявацца на тое, што такое некалі адбудзецца, не выпадае.

Якраз тут варта казаць пра палітызацыю “трэцяга сэктару” ў кепскім сэнсе гэтага слова: грамадзкая арганізацыя цалкам залежыць ад пэўнай палітычнай сілы ці ўлады.

Сярод сяброў Асамблеі ёсьць тыя, што маюць актыўныя і дзелавыя стасункі з уладамі. Гэта перш за ўсё сацыяльна накіраваныя арганізацыі, тыя, што працуюць з моладзьдзю на ўзроўні рэгіёнаў, мястэчак, раёнаў. Гэта дапамагае ім вырашаць свае статутныя задачы, і ўлады вельмі часта адкрытыя для такога супрацоўніцтва, бо яны бачаць рэальную карысьць для канкрэтнага мясцовага насельніцтва.

**З выступу А.БЯЛЯЦКАГА: Мы будуем свае адносіны з грамадзтвам, з уладамі на падставе пазытыўных дзеяньняў, і нашыя думкі трэба ўлічваць. Ня толькі мы маем патрэбу ў канструктыўнай супрацы з уладамі, але і яны мусяць супрацоўнічаць з намі. Бо без наладжваньня кантактаў з NGO ўладам будзе цяжка, нават немагчыма наладзіць нармальныя стасункі з цывілізаваным сьветам. Зараз адбываецца своеасаблівае выпрабаваньне на трываласьць. І нам ня трэба ўпадаць у роспач, ня трэба мітусіцца і шукаць каля сябе ворагаў і вінаватых. Ня трэба падрываць падваліны, тыя прынцыпы, якія мы абвяшчалі ў Асамблеі. Трэба быць цярплівымі і вынаходлівымі.**

**— Якімі Вам бачацца асноўныя мэты дзейнасьці Асамблеі і ўсяго “трэцяга сэктару” Беларусі на дадзеным гістарычным этапе?**

— Адна зь істотных — мы павінны ўзмацняць калектыўную абарону: нельга пакідаць арганізацыі сам-насам зь бядой. Той, хто сутыкаецца зь нейкімі гвалтоўнымі дзеяньнямі — “наездам” падатковай інспэкцыі, КДБ, канфіскацыяй маёмасьці, закрыцьцём арганізацыяў па нейкіх фармальных прычынах, — можа разьлічваць на нашую дапамогу. І прыклад БАЖ, які арганізаваў кампанію па абароне гарадзенскіх журналістаў, павінен стаць узорным для нас: гэта досьвед, які мы будзем выкарыстоўваць у абароне арганізацыяў. Кожны сябар Асамблеі мусіць ведаць, што мы існуем для таго, каб быць “Асамблеяй салідарнасьці”.

Таксама безумоўна пэрспэктыўнымі мне падаюцца формы супрацоўніцтва ў выглядзе грамадзянскіх кампаніяў. Яны могуць быць разнастайныя, і ініцыятыва павінна зыходзіць, як і было дагэтуль, ад сяброў шараговых няўрадавых арганізацыяў, а мы ў рамках Асамблеі мо-

жам толькі паспрыяць выпрацоўцы канцэпцыі правядзеньня гэтых кампаніяў, распаўсюджваньню інфармацыі.

**З выступу А.БЯЛЯЦКАГА: У кожнай вобласьці пачынаюць працаваць юрысты, асноўная задача якіх — дапамагчы NGO ў рэгістрацыі, у наладжваньні стасункаў з уладамі, у тым ліку з судамі, пракуратурамі, выканаўчымі і правяраючымі органамі. Самае істотнае, чаго мы зараз дабіваемся — гэта адкрытасьць інфармацыі пра гэтыя працэсы, інфармаваньне як беларускага грамадзтва, так і міжнароднай супольнасьці. Мы не даем і не дамо ўладам распраўляцца зь няўрадавымі арганізацыямі “ўціхую”.**

Можна сказаць, што зараз арганізацыі “сасьпелі”, бо многія зь іх пасьпяхова працуюць шмат гадоў. Гэта сьведчыць пра ўстойлівасьць і стабільнасьць “трэцяга сэктару” ў Беларусі. І што вельмі важна, спробы ўладаў супрацьпаставіць арганізацыі адну адной, каб мы займаліся толькі сваімі праблемамі, а не вырашалі праблемы грамадзтва разам, не ўдаюцца. Мы скансалідаваныя, ёсьць агульнае разуменьне, што нашая праца патрэбная. А якія будуць шляхі ўдасканаленьня працы Асамблеі — гэта залежыць літаральна ад кожнай арганізацыі.

— **Ці далучаюцца да Асамблеі новыя арганізацыі?**

— Безумоўна. Гэта жывы працэс: увесь час у склад Асамблеі ўваходзяць новыя арганізацыі, часам выходзяць старыя. Я лічу, што гэты працэс натуральны, самае галоўнае, што асноўны касьцяк застаецца такім, якім і быў на працягу некалькіх апошніх год.



# ЗАЯВА

**IV Кангрэсу Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі
“У АБАРОНУ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ”**

Мы, дэлегаты IV Кангрэсу Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі, прадстаўнікі грамадзкіх аб’яднаньняў і грамадзкіх ініцыятываў краіны, пацьвярджаем выкладзеныя ў Рэзалюцыях і Ўхвалах папярэдніх Асамблеяў прынцыпы сваёй дзейнасьці: незалежнасьць Беларусі, рынкавыя эканамічныя рэформы, дэмакратыя, нацыянальна-культурнае адраджэньне, правы чалавека і інтэграцыя ў эўрапейскія структуры.

Мы лічым, што пабудова дэмакратычнага грамадзтва і прававой дзяржавы, фармаваньне разьвітай грамадзянскай супольнасьці, дасягненьне дабрабыту беларускага народу магчымыя толькі пры ўмове захаваньня і ўмацаваньня дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі.

Мы з трывогай адзначаем, што ў дадзены момант ствараюцца ўмовы для страты дзяржаўнай незалежнасьці і зьнішчэньня Рэспублікі Беларусь як суб’екта міжнароднага права.

Мы зьвяртаем увагу на тое, што любыя захады асобных людзей і дзяржаўных органаў, накіраваныя на ліквідацыю дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі, зьяўляюцца антыканстытуцыйнымі, амаральнымі і злачыннымі.

Мы заяўляем свой рашучы пратэст супраць плянаў інкарпарацыі Беларусі ў склад іншай дзяржавы, якія разглядаем як шлях да ўмацаваньня недэмакратычнага рэжыму.

Асамблея НДА Беларусі заклікае ўсе грамадзкія аб’яднаньні і грамадзянскія ініцыятывы краіны, палітычныя партыі, прафэсійныя саюзы, дзяржаўныя органы незалежна ад палітычных перакананьняў кіравацца ў сваёй дзейнасьці прынцыпам цэласнай непарушнасьці беларускай дзяржавы, абараняць сувэрэнітэт нашай Бацькаўшчыны.

***Прынята ў Менску, 6 кастрычніка 2002 году***

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**IV Кангрэсу Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі**
**“АБ СТАНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА І ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ Ў БЕЛАРУСІ”**

**Мы, дэлегаты IV Кангрэсу Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі, лічым, што замацаваныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ва Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека і іншых міжнародна-прававых актах правы і свабоды чалавека зьяўляюцца неад’емнымі і ня мусяць парушацца. Павага да свабоды слова і друку, свабоды сумленьня, свабоды асацыяцыяў і права на ўступленьне ў саюзы і асацыяцыі — гэта неабходныя ўмовы фармаваньня ў Беларусі дэмакратычнай прававой дзяржавы і разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці.**

Асамблея НДА Беларусі з занепакоенасьцю адзначае, што становішча з правамі чалавека ў краіне за 2001-02 гады значна пагоршылася:

— У краіне створаныя вельмі неспрыяльныя ўмовы для разьвіцьця грамадзкіх аб’яднаньняў. Дзяржава робіць захады, скіраваныя на вынішчэньне “трэцяга сэктару”. Хваля рэпрэсіяў супраць грамадзкіх аб’яднаньняў, распачатая ў 2001 годзе, не спыняецца да гэтага часу. Яна адзначаная ліквідацыяй такіх арганізацыяў, як “Задзіночаньне беларускіх студэнтаў”, Моладзевы інфармацыйны цэнтар, Цэнтар “Вежа”, шматлікімі выпадкамі канфіскацыі маёмасьці сябраў Асамблеі, што бралі ўдзел у мабілізацыйнай кампаніі і кампаніі назіраньня падчас прэзыдэнцкіх выбараў. Сучасная практыка вынясеньня папярэджаньняў грамадзкім аб’яднаньням зрабілася сродкам для шантажу пагрозай іх ліквідацыі. Ва ўмовах, калі дзейнасьць незарэгістраваных аб’яднаньняў забароненая і цягне за сабой адміністрацыйную адказнасьць, калі бесьперапынна праводзяцца вобшукі, канфіскацыі, праверкі і судовыя працэсы на падставе Дэкрэту №8 ад 2001 году і іншых рэпрэсіўных актаў заканадаўства, — самое існаваньне “трэцяга сэктару” ў Беларусі знаходзіцца пад пагрозай.

— Дзяржава вядзе рашучы наступ на свабоду слова. Ён адзначаны ліквідацыяй і забаронай газэты “Пагоня”, крымінальным перасьледам і забаронай на прафэсію журналістам Міколу Маркевічу, Паўлу Мажэйку, Віктару Івашкевічу, ціскам на недзяржаўныя мэдыі з боку Міністэрства інфармацыі і іншых органаў дзяржаўнай улады, канфіскацыямі накладаў выданьняў і абсталяваньня, цэнзурай, беспадстаўнымі арыштамі журналістаў, беспадстаўнымі зыскамі дзяржаўных службоўцаў да газэтаў. Артыкулы 367 “Паклёп на Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”, 368 “Абраза Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь”, 369 “Абраза прадстаўніка ўлады” Крымінальнага кодэксу сталі сродкам барацьбы са свабодай слова і незалежнай прэсай, зрабілі немагчымымі аб’ектыўнае адлюстраваньне грамадзкага жыцьця і крытыку дзеяньняў уладаў. Крымінальны кодэкс стаў сродкам барацьбы зь іншадумствам.

— Парлямэнт краіны без уліку грамадзкай думкі, міжнародных нормаў, Канстытуцыі Беларусі прыняў недэмакратычны і рэпрэсіўны “Закон аб свабодзе веравызнаньня і рэлігійных арганізацыях”, які распальвае міжканфэсійную варожасьць і скасоўвае ў Беларусі свабоду сумленьня. Ва ўмовах гістарычнай поліканфэсійнасьці закон уводзіць у краіне адзіную дзяржаўную рэлігію, папярэднюю цэнзуру рэлігійнай літаратуры, істотна абмяжоўвае магчымасьці для стварэньня рэлігійных арганізацыяў, адначасова забараняючы вернікам супольна вызнаваць сваю рэлігію без рэгістрацыі аб’яднаньня. З моманту прыняцьця закону беларускія вернікі мусяць прасіць дазвол з боку ўладаў дзеля ажыцьцяўленьня рэлігійных абрадаў. У прэамбуле да закону замацаванае нераўнапраўе канфэсіяў.

Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі лічыць гэтыя факты недапушчальнымі, асуджае курс існуючага рэжыму на ліквідацыю правоў чалавека і, грунтуючыся на прынцыпах, абвешчаных папярэднімі Асамблеямі,

— прапануе органам дзяржаўнай улады, мясцовага самакіраваньня, прадпрыемствам незалежна ад формы ўласнасьці супольна зь няўрадавымі арганізацыямі працаваць на карысьць беларускага грамадзтва;

— заклікае беларускія ўлады стварыць спрыяльны заканадаўчы клімат у дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў і грамадзянскіх ініцыятываў дзеля рэалізацыі грамадзянскай актыўнасьці;

— заклікае ўлады Беларусі спыніць ціск на недзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі і стварыць роўныя ўмовы для дзейнасьці ўсіх мэдыяў незалежна ад формы ўласнасьці;

— заклікае ўлады Беларусі спыніць крымінальны перасьлед журналістаў;

— заклікае Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу адклікаць з Крымінальнага кодэксу артыкулы 367, 368, 369;

— асуджае прыняцьце дыскрымінацыйнага Закону “Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях”, патрабуе ад Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь адмовіцца ад падпісаньня гэтага Закону і стварыць пагаджальную камісію па выпрацоўцы дэмакратычнага варыянту закону, у якім будуць улічаныя меркаваньні ўсіх канфэсіяў і праваабарончых арганізацыяў.

*Прынята ў Менску,*
*6 кастрычніка 2002 году*

# ВЫКАНАЎЧАЕ БЮРО Ў СЕТЦЫ

## *існуючай і будучай Асамблеі*

**Шэсьць гадоў таму грамадзкія арганізацыі аб'ядналіся на аснове чатырох прынцыпаў: дэмакратыя, незалежнасьць Беларусі, нацыянальна-культурнае адраджэньне і дэмакратычныя эканамічныя рэформы. Аб'ядналіся з годнай, але не зусім акрэсьленай мэтай — ўратаваць дэмакратыю. Да гэтай ініцыятывы яны паставіліся натхнёна і зь вялікім энтузіязмам: вызначылі прыкладную структуру, прынцыпы сяброўства, кірункі сваёй дзейнасьці, якія, аднак, зь цягам часу пэўным чынам трансфармаваліся.**

Пэрыяд уздыму характарызаваўся значнай ініцыятыўнасьцю. На шматлікіх паседжаньнях Рабочай групы (якая ў першыя гады існаваньня зьбіралася практычна ў поўным складзе) вяліся дыскусіі па стратэгіі разьвіцьця, вызначаліся прыярытэты дзейнасьці і г.д. Ужо ў 2000 г. была падрыхтаваная першая вэрсія базы грамадзкіх аб'яднаньняў — сяброў Асамблеі, наладжаны інфармацыйны абмен праз электронныя і паштовыя рассылкі, паўсталі абласныя Асамблеі і іх РГ, была праведзеная SOS-кампанія, выдадзеныя некалькі брашураў у дапамогу грамадзкім аб'яднаньням.

Пэрыяд рамантызму мінуў — зьмяніліся стандарты і падыходы, многія арганізацыі выйшлі на больш якасны ўзровень працы, зрабіліся больш патрабавальнымі. Да таго ж прэзыдэнцкая кампанія дадала горкага досьведу. Таму, мабыць, мэты супольнага аб'яднаньня пачалі ўяўляцца менш канкрэтнымі і не такімі яснымі — уся сыстэма дзейнасьці Асамблеі натуральным чынам падышла да неабходнасьці рэарганізацыі. Хачу падкрэсьліць, што ўвесь гэты працэс зьяўляецца натуральным. Пэрыяд станаўленьня, росквіту, заняпаду, аднаўленьня (альбо не-аднаўленьня) перажывае любая больш-менш складаная сыстэма.

Існуюць усе перадумовы, каб Асамблея пераступіла крытычную кропку і нават выйшла з пэўнымі творчымі набыткамі. І тут вельмі важна, не марнуючы часу, сканцэнтравацца на канструктыўных прапановах. Бо Асамблея, безумоўна, ёсьць важным элемэнтам грамадзкага разьвіцьця, разбурэньне якога будзе недаравальнай памылкай.

Мне падаецца, першым крокам да мэты ёсьць самаідэнтыфікацыя — вельмі важна ў бліжэйшы час сабрацца і шырокім колам арганізацыяў — сяброў Асамблеі абмеркаваць сытуацыю, паспрабаваць вызначыць місію і ацаніць пэрспэктывы. Гэта дасьць трывалы грунт для ініцыятыўнай групы па распрацоўцы місіі Асамблеі. Хачу заўважыць, што ровар тут вынаходзіць ня варта — у той ці іншай форме ўсё калісьці абмяркоўвалася. Засталося аформіць.

Матэрыялам для гэтага могуць быць нядаўна сфармуляваныя сябрамі РГ і аформленыя Выканаўчым бюро мэты аб'яднаньня ў Асамблею: "Асамблея палягчае супрацоўніцтва паміж арганізацыямі, абараняе іх правы, аб'ядноўвае сяброў Асамблеі па кірунках дзейнасьці, наладжвае абмен інфармацыяй, лябіруе інтарэсы НДА, стварае пазытыўны імідж грамадзкіх арганізацыяў, кансультуе няўрадавыя арганізацыі, дапамагае ім у дзейнасьці", — а таксама матэрыялы колішніх дыскусіяў па гэтай тэме.

Калі зьвярнуцца да тэорыі, то такое аб'яднаньне можна акрэсьліць як сетку грамадзкіх арганізацыяў. Існуе шэраг вызначэньняў, што такое сетка, але большасьць зь іх сыходзяцца на наступным: сетка — сыстэма абмену інфармацыяй і паслугамі паміж арганізацыямі. Адной з найважнейшых яе характарыстыкаў можна лічыць прынцып узаемадзеяньня ўнутры сеткі. Яно (узаемадзеяньне) можа ўключаць ня толькі рэалізацыю праектаў, але і супольны ўдзел у грамадзкіх акцыях, кампаніях (напрыклад, «Зробім лепш!»), а таксама публікацыю дакумэнтаў ад імя сеткі, агучваньне агульнай пазыцыі, удзел у кааліцыях альбо ўтварэньне іх (дзеля вырашэньня пэўнай праблемы грамадзтва) у межах сеткі. Усё гэта рэалізуецца пры распрацаваным мэханізме працэдуры супольнага дэмакратычнага прыняцьця рашэньняў. Важным для разьвіцьця сеткі зьяўляецца адзіны статут і ясная, прынятая ўсімі місія.



Алёна Валынец,
**старшыня Выканаўчага бюро**

Увогуле пра сеткі — чым яны ёсьць, як працуюць, якія іх адрозьненьні ад іншых структураў — можна шмат казаць. Гэта магчымая тэма на цэлую рубрыку «Бюлетэня».

Нагадаю, на круглым стале па місіі Асамблеі падчас дыскусіі ўдзельнікі пагадзіліся на сеткавы варыянт існаваньня структуры з функцыямі, падобнымі да вышэйапісаных.

У межах існай сеткі Выканаўчае бюро на бягучы момант **выконвае каардынуючыя і сэрвісныя функцыі** ў Асамблеі:

*1. Каардынуе абарону правоў грамадзкіх арганізацыяў праз сыстэму калектыўнай абароны*

*(інфармацыю пра сыстэму чытайце далей).*

*2. Наладжвае абмен інфармацыяй праз электронныя (2 разы на тыдзень) і паштовыя рассылкі (штомесяц). Гл. урэзку*

*3. Штомесяц выдае інфармацыйна-аналітычны «Бюлетэнь».*

*4. Каардынуе сумесную дзейнасьць (кампаніі абароны і паляпшэньня іміджу НДА).*

*5. Распаўсюджвае пазытыўную інфармацыю пра арганізацыі беларускага грамадзкага сэктару сярод замежных НДА і донараў.*

*6. Спрыяе наладжваньню партнэрскіх стасункаў з замежнымі НДА.*

Трэба адзначыць супрацоўніцтва паміж Асамблеяй і WCVA (Валійская Рада добраахвотнага дзеяньня) напрацягу некалькіх гадоў, якое пераходзіць ад актыўнага інфармацыйнага абмену і азнаямляльных паездак у сыстэму пошуку партнэраў для беларускіх НДА ў Валіі. Паводле дамовы, падпісанай падчас апошняга візыту валійскіх прадстаўнікоў у Беларусь (20-24 кастрычніка 2002 г.), быў запачаткаваны адпаведны праект.

У кастрычніку-лістападзе праект «Пашырэньне эфэктыўнасьці беларускіх чарнобыльскіх ініцыятываў", які рэалізоўваўся з удзелам Выканаўчага бюро, паспрыяў знаёмству чарнобыльскіх і сацыяльных НДА паміж сабой, абмеркаваньню магчымых кірункаў супрацы, удасканаленьню дзейнасьці арганізацыяў праз набыцьцё ведаў па распрацоўцы праектаў, юрыдычных асновах дзейнасьці, а таксама даў спадзяваньне на дапамогу ў пошуку партнэра ў Нямеччыне.

Зараз мы вядзем працу з шэрагам краінаў, якія маюць падобныя да Асамблеі структуры, каб наладзіць партнэрскія сувязі паміж нашымі арганізацыямі. Плянуем з наступнага нумару «Бюлетэня» інфармаваць сябраў Асамблеі пра посьпехі ў гэтай галіне, а таксама пра досьвед працы замежных сетак.

7. Кансультуе і дапамагае НДА ў напісаньні праектаў, эфэктыўнай працы з грантадаўцамі.

8. Праводзіць рэгулярныя сацыялягічныя апытаньні сябраў Асамблеі і аналізуе іх вынікі, а таксама дапамагае ў гэтым арганізацыям, якія ня маюць досьведу ў правядзеньні апытаньняў.

9. Вядзе і абнаўляе базу дадзеных ГА.

Шаноўнае спадарства, з пачатку лістапада Выканаўчае бюро пачало працэс абнаўленьня базы дадзеных ГА. Мы чакаем садзеяньня ад усіх сябраў Асамблеі і просім надалей апэратыўна паведамляць інфармацыю пра зьмены кантактаў вашай арганізацыі ў Выканаўчае бюро.

У **плянах** Выканаўчага бюро:

— У хуткім часе сабраць круглы стол дзеля абмеркаваньня наступнай нацыянальнай кампаніі, якая, спадзяюся, пройдзе пад тым жа лёзунгам — «Зробім лепш!», а характар яе будзе вызначаны ў ходзе абмеркаваньня.

— Наладзіць пастаянныя партнэрскія стасункі зь міжнароднымі структурамі грамадзкага сэктару.

— Наладзіць працу Кансультацыйна-крэатыўнай службы пры ВБ, якая будзе аказваць дапамогу пры вырашэньні канкрэтных задачаў: у сувязях з грамадзкасьцю і прэсай, у праектаваньні і вырабе інфармацыйна-рэклямнай прадукцыі, у пытаньнях юрыдычнага і сацыялягічнага характару, у арганізацыі і правядзеньні грамадзянскіх кампаніяў.

— ВБ таксама зьбіраецца прапанаваць тым НДА, якія ня маюць неабходных рэсурсаў для падтрымкі сваёй інтэрнэт-прысутнасьці, бясплатнае стварэньне і разьмяшчэньне вэб-старонак, а наведнікам сайту Асамблеі — аўтаматычны пошук партнэраў, фундацыяў і трэнэраў паводле кірунку дзейнасьці/краіны/рэгіёну/асобы.

## дарэчы




**20 красавіка Выканаўчае бюро правяло круглы стол з удзелам 45 моладзевых арганізацыяў, на якім было прынятае рашэньне правесьці агульнанацыянальную кампанію высілкамі моладзевых НДА.**

**11 траўня адбылося паседжаньне Рабочай групы і прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў. Была вызначаная дата правядзеньня акцыі — 30 чэрвеня (Дзень моладзі) і акрэсьленыя мэты кампаніі.**

**Выканаўчае бюро ўсклала на сябе агульную каардынацыю, мэтадычную і інфармацыйную падтрымку кампаніі. Пры дапамозе Вацлава Арэшкі, які быў прыцягнуты ў якасьці экспэрта, была распрацаваная канцэпцыя акцыі, створаны лёзунг і лягатып.**

**Кампанія «Зробім лепш!» дасягнула сваёй мэты — дапамагла вырашыць канкрэтныя мясцовыя праблемы, паказала, што грамадзкія аб'яднаньні працуюць для грамадзянаў. Дзякуючы кампаніі арганізацыі пачалі пошук новых формаў працы з насельніцтвам і мясцовымі ўладамі.**

**Па выніках кампаніі Выканаўчае бюро выдала мэтадычку па правядзеньні грамадзянскіх кампаніяў «Наш посьпех».**

# Місія Асамблеі



# mission is possible

Сяргей Мацкевіч



**Місія Асамблеі стала адным з самых важных пытаньняў, што разглядаліся на Кангрэсе: ці яе трэба ўдакладніць, ці наноў сфармуляваць, якімі могуць быць яе функцыі і структуры.**

Падзеі мінулага году падштурхнулі грамадзкія арганізацыі да больш крытычнай ацэнкі дзейнасьці "трэцяга сэктару". Гэта тычылася ня толькі дзейнасьці саміх арганізацыяў, але і шматлікіх кааліцыяў і асацыяцыяў, у тым ліку самай буйной — Асамблеі НДА Беларусі.

### У ЧЫМ ПРАБЛЕМА

Асноўныя прэтэнзіі да Асамблеі можна сфармуляваць наступным чынам: па-першае, Асамблея нічога ня робіць для грамадзкіх арганізацыяў і, па-другое, Асамблея займаецца не сваёй справай. Відавочныя дзьве крайнасьці: дзейнасьць Асамблеі абмежаваная / дзейнасьць Асамблеі выходзіць за рамкі нададзенага ёй мандату. Дзе ісьціна? Як звычайна, пасярэдзіне.

Трэба адзначыць, што прычына ўзьнікненьня такіх прэтэнзіяў — у абмежаваньнях, накладзеных на выканаўчыя структуры Асамблеі ранейшымі кангрэсамі. Тады гэта было зроблена, каб пазьбегнуць папрокаў у маніпуляцыях, недэмакратычнасьці і разьмеркаваньні "фінансавых патокаў". З таго часу шмат вады зьбегла, і зараз такое становішча ўжо не задавальняе шараговых сябраў Асамблеі.

Крытыка, якая гучыць у адрас Асамблеі, часта небеспадстаўная, але часам і дэструктыўная: людзі не прапануюць выйсьце, а толькі агучваюць незадаволенасьць. Па вялікім рахунку, ніхто з нас ня можа пахваліцца глябальнымі (не лякальнымі) дасягненьнямі на ніве пабудовы грамадзянскай супольнасьці ў краіне, і прэтэнзіі каго-небудзь на адзінае правільнае меркаваньне папросту недарэчныя — усе мы ў адной лодцы, і таму трэба з павагай ставіцца да сваіх калегаў. Мы выяўляем толькі сваё глупства і некампэтэнтнасьць, калі лічым, што дзейнасьць іншай няўрадавай арганізацыі шкодная для грамадзтва. Калі пацьверджаныя прынцыпы незалежнасьці, дэмакратыі, правоў чалавека, якія доказы яшчэ патрэбныя, каб бачыць у іншых людзях сваіх сяброў, а ня ворагаў? А калі гэта сябры, то пра ўсё астатняе можна дамовіцца. Тое самае і з Асамблеяй. Задайце сабе пытаньне: якую шкоду менавіта вашай арганізацыі прынесла дзейнасьць Асамблеі? Ня трэба падмяняць адказ пытаньнем "а што карыснае яна для нас зрабіла?" Некарысны — ня значыць шкодны. А ўвогуле, рэвалюцыйныя артыкулы ў асноўным пішуць тыя, хто ня здольны нічога зьмяніць для паляпшэньня сытуацыі. Вельмі лёгка сварыцца міжсобку — гэта не патрабуе аніякай грамадзянскай мужнасьці ці ахвярнасьці (як бы гэта патасна ні гучала). Той, хто лічыць, што Асамблея ў такім выглядзе не патрэбная, мае права прапанаваць канструктыўныя крокі для вырашэньня праблемы ці проста можа выйсьці зь ліку сябраў.

Асамблея не да канца выкарыстоўвае свой патэнцыял, але гэта ня значыць, што яго няма.

Каб адчуць, ці маеце вы патрэбу ў Асамблеі, адкажыце на пытаньне *Што было б, каб не было Асамблеі?*

На маю думку, стратаў ня так і мала:

— Згубілася б адчуваньне прыналежнасьці да вялікага дэмакратычнага і незалежніцкага сэктару грамадзтва. Кожная арганізацыя пасобку ўдзельнічае ў вырашэньні вельмі вузкага кола праблемаў (страта стратэгічнага патэнцыялу). Асабліва востра праблема "адчуваньня" паўстае перад дробнымі рэгіянальнымі арганізацыямі.

— Нельга было б казаць пра каардынацыю дзейнасьці беларускіх НДА ў нацыянальным маштабе (страта мэханізмаў каардынацыі).

— Зьменшылася б цікаўнасьць замежных арганізацыяў да супрацоўніцтва зь беларускімі НДА. Само па сабе існаваньне фэномэна Асамблеі прыцягвае ўвагу да Беларусі (страта саюзьнікаў).

— Страціліся б магчымасьці арганізацыі калектыўнай абароны грамадзкіх арганізацыяў і лябіяваньня інтарэсаў "трэцяга сэктару" (безабароннасьць).

— Цяжка было б арганізаваць нацыянальныя кампаніі (страта мэнэджэрскіх камандаў).

— Не было б магчымасьці наўпрост уплываць на палітычную сытуацыю праз удзел у дэмакратычных надсэктарных структурах (страта трыбуны).

### ЯК ВЫРАШЫЦЬ ГЭТУЮ ПРАБЛЕМУ

На круглым стале па вызначэньні місіі Асамблеі прэваліравала ідэя ўзмацненьня ролі грамадзкага сэктару ня шляхам "до основанья, а затем", а праз жаданьне дапамагчы, да таго ж не камусьці няпэўнаму (г.зв. "Асамблеі"), а ў першую чаргу самім сабе.

Першае, што зрабілі ўдзельнікі — гэта безумоўна пацьвердзілі прынцыпы, на якіх грунтуецца Асамблея. Такім чынам, паводле мэтодыкі:

нашыя *Каштоўнасьці:* незалежнасьць, дэмакратыя, правы чалавека;

нашыя *Клiенты:* грамадзкiя арганiзацыi i iнiцыятывы;

нашыя *Агульныя iнтарэсы:* калектыўная абарона, iнфармаваньне, лябiяваньне.

З гэтага вынiкае, што з моманту заснаваньня Асамблеi нiчога не зьмянiлася. Узьнiкае пытаньне — дык што ж тады так не задавальняе? Хутчэй за ўсё — формы i мэтады працы: вырасла роля "трэцяга сэктару", i мы мусiм ставiць перад сабой больш акцэнтаваныя задачы.

Пры абмеркаваньнi было прапанавана некалькi варыянтаў бачаньня Асамблеi праз 3 гады (такi мiнi-стратэгiчны тэрмiн):

Асамблея выконвае выключна тэхнiчныя функцыi, скiраваныя на абмен iнфармацыяй i пошук партнэраў у Беларусi i па-за межамi краiны. Магчымая форма — высокапрафэсiйная абслугоўваючая структура пры Асамблеi (напрыклад, Выканаўчае бюро).

Не адмаўляючы важнасьць прадастаўленьня сваiм сябрам якасных паслугаў, было слушна адзначана, што пры такiм варыянце не вiдаць самой сутнасьцi Асамблеi. Навошта ствараць асацыяцыю, калi любая арганiзацыя цi нават сэрвiсная служба можа ўзяць на сябе, напрыклад, iнфармацыйную рассылку для грамадзкiх арганiзацыяў цi абарону iх iнтарэсаў у судах. Дарэчы, шмат арганiзацыяў тое i робiць, але дзеля гэтага Асамблея не патрэбная.

Iншая рэч, што кожная арганiзацыя паасобку ня можа прадстаўляць меркаваньне ўсяго "трэцяга сэктару". Асамблея магла б выносiць супольную думку пры ўмове iснаваньня мэханiзму яе вызначэньня. Адна з прапанаваных формаў — кшталту iнтэрнэтаўскага форуму, дзе агульная думка прадстаўляецца пасьля грунтоўнага абмеркаваньня ўсiмi зацiкаўленымi.

Мэханiзм даволi просты: Рабочая група ўздымае пытаньне, Выканаўчае бюро арганiзоўвае шырокае абмеркаваньне сярод сябраў Асамблеi з прыцягненьнем экспэртаў (тут ужо не абавязкова зь лiку сябраў). Супольнае меркаваньне зацьвярджаецца Рабочай групай i толькi тады прадстаўляецца ад iмя ўсёй Асамблеi.

Пры наяўнасьцi такой узгодненай i моцнай пазыцыi Асамблея можа i мусiць прыступiць да больш складаных задачаў: фармаваць грамадзкую думку i ўплываць на дзяржаўную палiтыку па пытаньнях, якiя тычацца грамадзкага сэктару.

Такiм чынам, Асамблея бачыцца ў дзьвюх iпастасях:

— як структура, якая спрыяе дынамiчнаму разьвiцьцю грамадзянскай актыўнасьцi.

— як форма ўзаемадзеяньня грамадзкiх арганiзацыяў i iнiцыятываў з мэтай выпрацоўкi супольнага погляду на асноўныя пытаньнi грамадзкага разьвiцьця краiны.

Асамблея выконвае як тэхнiчную, так i прадстаўнiчую функцыi.

Некаторыя магчымыя кiрункi дзейнасьцi выканаўчых структураў Асамблеi пад умоўнымi назвамi прадстаўленыя ў табліцы. Частка гэтых функцыяў рэалiзуецца сёньня, частка — пакуль толькi ў плянах.

Удзельнiкi круглага стала па выпрацоўцы мiсii Асамблеi прыйшлi да высновы, што сябры Асамблеi мусяць вызначыць кола пытаньняў, якiмi будуць займацца выканаўчыя структуры, зацьвердзiць мэханiзм прыняцьця рашэньняў i даць iм паўнамоцтвы на вырашэньне гэтых пытаньняў.

Дзеля гэтага на IV Кангрэсе была ўтвораная адмысловая група, якая паспрабуе больш дэталёва распрацаваць формы i мэханiзмы супрацы ў межах Асамблеi, вызначыць функцыi выканаўчых структураў, каб вынесьцi гэта на шырокае абмеркаваньне сябраў Асамблеi.

Сёньня склалася такая сытуацыя: арганiзацыi ўсьвядомiлi, што яны сапраўды хочуць жыць, а не iснаваць, i таму зьвяртаюцца да пытаньня мiсii – яны да гэтага гатовыя. I Асамблея таксама – значыць, яна жыве.

| КIРУНАК | ФУНКЦЫЯ | ФОРМА |
|---|---|---|
| Бiблiятэка | Накапленьне досьведу (станоўчага i адмоўнага) дзейнасьцi грамадзкага сэктару. | Базы дадзеных арганiзацыяў, актывiстаў, праграмаў, прапановаў, iдэяў i г.д. Архiў выданьняў i iнфармацыйных матэрыялаў. |
| Прэс-цэнтар | Прамоцыя грамадзянскай актыўнасьцi. Супраца з СМI. Iнфармацыйны абмен. | Прэс-сакратар (прэс-група). Бюлетэнь. Рассылкi. |
| Юрыдычная дапамога | Калектыўная абарона правоў грамадзкiх арганiзацыяў i iнiцыятываў. Манiторынг правапарушэньняў. | Юрыдычная група. |
| Iнстытут падвышэньня квалiфiкацыi | Стымуляваньне выкарыстаньня сучасных дасягненьяў у галiне грамадзянскай адукацыi. Адаптацыя мiжнароднага досьведу. | Базы дадзеных мэтадычных праграмаў, мэтадычнай лiтаратуры. Базы трэнераў. Пiлётныя праграмы. |
| Аналiтычны цэнтар | Аналiз стану i тэндэнцыяў разьвiцьця грамадзкага сэктару ў Беларусi. | Сацыялягiчная i аналiтычная служба. |
| Каардынацыйны цэнтар | Супрацоўнiцтва беларускiх НДА. Мiжнародныя кантакты. Пашырэньне ўплыву III сэктару. | Экспэртныя групы. Форумы. |

# НГО и политика: *вместе или врозь?*

Дмитрий ДРИГАЙЛО

БЕЛОРУССКАЯ ДЕЛОВАЯ ГАЗЕТА

5–6 октября в Минске проходил IV конгресс Ассамблеи демократических неправительственных организаций. В ежегодном форуме белорусского "третьего сектора" (Ассамблея объединяет более 500 НГО) приняли участие представители организаций, общественных инициатив, фондов нашей страны, а также гости из Украины, Польши, Дании и Голландии. Делегаты конгресса сформировали рабочую группу Ассамблеи, в состав которой вошли 26 руководителей и членов различных НГО.

Хорошо известно, что ныне белорусские НГО (впрочем, как и партии, и независимые СМИ) находятся в критической ситуации. Противостояние властей и негосударственных организаций длится уже не первый год, но накануне и после президентских выборов 2001 года закрытие и прекращение регистрации НГО приобрели массовый характер. Многие связывают это с излишней политизацией неправительственных организаций Беларуси и указывают на то, что политикой должны заниматься политические партии, а дело НГО — социальная сфера. Иные настаивают на том, что в нынешней белорусской ситуации нельзя быть вне политики, а самые горячие и продолжительные дебаты между оппонентами разгораются вокруг целесообразности участия негосударственных организаций в политических кампаниях и предстоящих выборах в местные Советы.

Этим проблемам были посвящены несколько специально организованных в рамках конгресса круглых столов: "НГО и государство", "НГО и СМИ", "НГО и политика".

Действительно, если "очистить" термин, то НГО в первую очередь связаны с реализацией общественного интереса. И задача НГО — пробуждать интерес, дабы он стал заметным, обсуждаемым и в конечном счете реализованным. Ни о какой политике вроде бы речь не идет. Но, с другой стороны, и политические организации выражают некие общественные интересы, поскольку призваны содействовать общественному благу. Иное дело, что есть, выражаясь терминами польского политолога Боднара, "микрополитика" и "макрополитика".

Специфика политики в современной Беларуси в том, что здесь произошло ее огосударствление. Вход в нее закрыли, по сути, всем, кроме представителей государственной власти. И в результате просто непонятно, могут ли ею заниматься простые граждане страны. Получается, что и большая, и малая политика находятся ныне под амбарным замком. Ведь что такое малая политика для НГО? Контакты с органами государственного управления, возможность направлять их деятельность во благо людям и воздействовать на них путем выборов. У нас, к сожалению, получается наоборот. Нет корреляции между общественными инициативами и возможностями их воплощения.

Что же касается политических партий, то в идеале они должны быть включены в политику как соучастники государственных дел. Но и с партиями случилось примерно то же, что и с НГО: они вытеснены на обочину общественной жизни и не имеют возможности влиять на принятие государственных решений. Причем с партиями все гораздо трагичнее: НГО в массе своей и многочисленнее, и профессиональнее партий — в последние по закону нельзя вкладывать никаких ресурсов, кроме людских. НГО же за последние несколько лет проходили различные формы обучения, в них вкладывались и вкладываются западные финансовые, технологические и интеллектуальные ресурсы. В итоге получилось, что немногочисленные слабые партии, цель которых — борьба за власть, и многочисленные НГО, цель которых — борьба за реализацию общественных инициатив, объединяются друг с другом помимо воли в своем протесте по отношению к государству. Вот и объяснение сближению партий (политики) и НГО (третьего сектора). Притом, что миссия НГО — "неполитическая политика", ежедневная работа с людьми, создание ситуации, когда их узнают и признают "на улице" и когда становится возможным воздействовать на власть через использование людского ресурса. Вот только опять вопрос: что первично — уровень малых дел и малых побед (например, за-

## прабачэньні

**У мінулым нумары "Бюлетэня" быў надрукаваны матэрыял Янкі Ворана "Па дарозе. Засталося высьветліць: куды?", у якім па віне аўтара быў дапушчаны шэраг недакладнасьцяў.**
Рэдакцыя "Бюлетэня" прыносіць прабачэньні Слонімскаму моладзеваму грамадзкаму аб'яднаньню "Ветразь".

мена разбитых лампочек, очистка загаженных подъездов, ремонт текущих крыш) или уровень системных перемен в стране?

Есть и еще один любопытный момент, характерный для Беларуси. Часто бывает, что в политических партиях и НГО состоят одни и те же люди. Если в Минске это не столь заметно, то в провинции, случается, один и тот же человек издает независимую газету (или работает в ней), возглавляет партийную “первичку” и местную неправительственную организацию. Это то, что называется на Западе межсекторной коалицией, у нас — коалицией “антигосударственной”. Вообще существует, по сути, только два понятия: власть и оппозиция. И если ты издаешь негосударственную газету или занимаешься общественной работой, тебя причислят, разумеется, ко второй группе со всеми вытекающими отсюда прелестями районного масштаба. И как в таких условиях разделить политику и третий сектор, не “построив” попутно образцовую шизофрению в отдельно взятых головах?

Как ни крути, получается, что негосударственные организации вынуждены сегодня заниматься политикой в том или ином смысле и в той или иной степени. Чаще всего в той, в которой они решают свои, энгэошные функции. Членство в НГО и в политической партии — личное дело каждого. Наверное, членам партий сегодня даже выгодно одновременно быть и активистами НГО, а последним полезно иметь “партийную крышу” над головой. Более того, часть членов НГО впоследствии уходят в политику. Хорошо это или плохо — вопрос. Несомненно только то, что интерес к демократизации Беларуси у партий и негосударственных организаций общий.

А насчет участия в кампании по выборам в местные Советы — так это зависит от задачи, которую ставят для себя в этой кампании демократы-политики. Одно дело, если это будет скорее информационная кампания без особых надежд на победу, цель которой — заявить о существовании оппозиции в стране. Или же это будет настоящая кампания с кандидатской гонкой — тогда партии и НГО нужно размежевать максимально, несмотря даже на то, что членами первых и вторых часто являются одни и те же люди. В таком случае НГО займутся подъездами, дворами и экологией, а партии на основе этой работы поведут свою пропагандистскую кампанию.

*“Белорусская деловая газета”, 11 кастрычніка 2002 г.*

# Хорошо там, где нет одиночества




Евгения СЕЛЕЗНЕВА, «СБ»

Эти организации называют себя и неправительственными, и общественными, и самодеятельными. Еще их именуют «третьим сектором» — в отличие от структур власти и политических партий. О себе они часто говорят: мы, дескать, и есть представители гражданского общества, а интерес наш — социальные, культурные и другие общезначимые проблемы. Различных инициатив, фондов, групп насчитывается около 500.

Довелось мне этой осенью наблюдать ежегодную Ассамблею неправительственных демократических организаций. Очень понравился фестиваль «Общественные организации для граждан». Потому что, по-моему, это исключительно по существу дела, ради которого создаются и существуют формирования энтузиастов. Кроме того, «фестивалили» живо и зрелищно — хорошее отличие от важных, но все же нудноватых заседаний за «круглыми столами». Интересно узнавать, что же реально — для граждан — сделано. Прошел конкурс лучших проектов, были вручены премии в двух номинациях. Как убедилась, у общественного объединения «Дыярыюш», образовательного центра «Пост», Белорусской ассоциации социальных работников и других увлечения действительно общественно полезные: от исследования национальных истоков до помощи слабым.

Заглядывала, конечно, и на заседания «круглых столов». Там дискутировали, продолжая давно длящийся спор: кто мы и зачем, в чем наша миссия, куда идем и хотим прийти. Представитель общественной организации «Женский ответ» Светлана Королева, например, считает, что «руководство Ассамблеи политизирует ее деятельность в ущерб общественной работе, действует в интересах и под влиянием политических партий национал-демократического спектра. Пора решить, какой союз нужен общественным организациям — профессиональный или политический».

Противоречие явно имеет место. Листая всякую печатную продукцию, распространяемую на конгрессе, я все время натыкалась на темы, лозунги, аргументы «из другой оперы» типа «государство ведет решительное наступление на свободу слова». В лексиконе, допустим, Объединенной гражданской партии это более чем привычный, обязательный оборот, но эти-то организации занимаются политикой в другом измерении — молодежной, социальной, правовой, просветительской.

Участие в различных политкампаниях — наравне с оппозиционными партиями, — как показала практика, ни к чему хорошему не приводит. В этом, похоже, со временем убедились гражданские инициативы. Политики, увы, в развитии отстали, попытки сосватать общественников на акции не прекращаются. Но они уже не в силах навязать свою точку зрения. Инициаторы всяких интересных и добрых дел — в своих общественных организациях, с единомышленниками, в регионах, городах и местечках — делают то, что сами решили. В резолюциях осеннего форума их позиция изложена исчерпывающе: «Ассамблея предлагает органам государственной власти, местного самоуправления, предприятиям независимо от формы собственности вместе с неправительственными организациями работать на благо белорусского общества». Так что можно пожелать «третьему сектору» всяческих успехов.

*“Советская Белоруссия”, 1 лістапада 2002 г.я*

# што нам трэба для поўнага шчасьця

Жэня Місілевіч,
**Выканаўчае бюро Асамблеі**

**Прапануем вынікі апытаньня, праведзенага сярод грамадзкіх арганізацыяў падчас IV Кангрэсу Асамблеі НДА, а таксама па электроннай пошце. Асноўная тэматыка апытаньня можа быць акрэсьленая простай фразай — што на сёньняшні дзень патрэбна беларускім грамадзкім арганізацыям дзеля эфэктыўнай працы.**

У апытаньні ўзялі ўдзел 40 арганізацыяў. Улічваючы колькасьць тых, хто адгукнуўся, а таксама ступень вывучанасьці фэномэна беларускага “трэцяга сэктару”, рабіць дакладныя статыстычныя разьлікі рэпрэзэнтатыўнасьці некарэктна, але калі ўспрымаць вынікі як якасную інфармацыю, то мае сэнс зьвярнуць на іх увагу.

Асноўныя пытаньні, што былі зьмешчаныя ў анкеце, тычацца:

1. Паслугаў і дапамогі, у якіх маюць патрэбу арганізацыі;
2. Погляду арганізацыяў на дапамогу міжнароднай супольнасьці “трэцяму сэктару” Беларусі;
3. Карысьці некаторых напрамкаў дзейнасьці “трэцяга сэктару” для грамадзтва;
4. Неабходнасьці разьвіцьця супрацоўніцтва ў пэўных напрамках дзейнасьці “трэцяга сэктару”.

**“У якой дапамозе вашая арганізацыя мае патрэбу?”**

Рэспандэнтам быў прапанаваны шэраг варыянтаў адказаў. Колькасьць абраных варыянтаў не абмяжоўвалася.

| Варыянт адказу | Колькасьць | % |
|---|---|---|
| Фінансавая | 28 | 70 |
| Кансультацыі па напісаньні і лябіяваньні праектаў | 26 | 65 |
| Абсталяваньне | 24 | 60 |
| Дапамога ў пошуку партнэраў за мяжой | 23 | 57,5 |
| Навучаньне на аснове досьведу найбольш пасьпяховых беларускіх арганізацыяў | 21 | 52,5 |
| Кансультацыі партнэраў з Заходняй Эўропы | 18 | 45 |
| Навучаньне на аснове досьведу партнэраў з Усходняй Эўропы | 15 | 37,5 |
| Юрыдычныя кансультацыі па пытаньнях, зьвязаных са стварэньнем і дзейнасьцю грамадзкіх арганізацыяў | 13 | 32,5 |
| Кансультацыі партнэраў з Усходняй Эўропы | 13 | 32,5 |
| Навучаньне на аснове досьведу партнэраў з Заходняй Эўропы | 13 | 32,5 |
| Кансультацыі і мэтадычная дапамога па сацыялягічных дасьледаваньнях | 13 | 32,5 |
| Кансультацыі з боку “пасьпяховых” беларускіх арганізацыяў | 12 | 30 |
| Кансультацыі па P R-тэхналёгіях | 12 | 30 |
| Дапамога ў распаўсюдзе інфармацыі пра арганізацыю | 8 | 20 |
| Дапамога ў пошуку партнэраў у Беларусі | 6 | 15 |
| Дапамога ў распаўсюдзе аб’яваў арганізацыі праз пошту і e-mail | 3 | 7,5 |

**“Па якіх напрамках дзейнасьці патрабуецца разьвіцьцё супрацоўніцтва беларускіх НДА ў выглядзе сетак, кааліцыяў і інш.?”**

Рэспандэнтам быў прапанаваны шэраг альтэрнатываў, сярод якіх яны маглі абраць любую колькасьць варыянтаў; таксама яны маглі прапанаваць свой варыянт адказу. Прапанаваныя рэспандэнтамі варыянты зьмешчаныя пасьля “тлустай” рысы. Усе фармулёўкі, прапанаваныя рэспандэнтамі, захаваныя бязь зьменаў.

| Варыянт адказу | Колькасьць | % |
|---|---|---|
| Разьвіцьцё мас-мэдыяў | 22 | 55 |
| Падтрымка малога біз нэсу | 21 | 52,5 |
| Грамадзянская адукацыя | 19 | 47,5 |
| Правы чалавека | 19 | 47,5 |
| | | |
| Ініцыяваньне стварэньня новых законаў | 1 | 2,5 |
| Культурніцкі, гістарычны | 1 | 2,5 |
| Падтрымка арганізацыяў з правінцыі | 1 | 2,5 |
| Сацыяльны | 1 | 2,5 |
| Экалягічны | 1 | 2,5 |
| Эканамічны | 1 | 2,5 |

**“Як Вы лічыце, якая дапамога з боку міжнароднай супольнасьці найбольш карысная для разьвіцьця беларускага “трэцяга сэктару?”**

| Варыянт адказу | Коль-касьць | % |
|---|---|---|
| Абсталяваньне | 23 | 57,5 |
| Гранты | 22 | 55 |
| Стажыроўкі ў НДА Заходняй Эўропы | 17 | 42,5 |
| Стажыроўкі ў НДА Ўсходняй Эўропы | 14 | 35 |
| Кансультацыі партнэраў з Заходняй Эўропы | 13 | 32,5 |
| Навучаньне на аснове досьведу найбольш пасьпяховых беларускіх арганізацыяў | 13 | 32,5 |
| Навучаньне на аснове досьведу партнэраў з Усходняй Эўропы | 8 | 20 |
| Навучаньне на аснове досьведу партнэраў з Заходняй Эўропы | 8 | 20 |
| Кансультацыі партнэраў з Усходняй Эўропы | 4 | 10 |
| | | |
| Большая адказнасьць па грантах, маніторынг з боку спонсараў і кааліцыяў НДА | 1 | 2,5 |
| Грошы на выданьне кнігаў-успамінаў ахвяраў рэпрэсіяў | 1 | 2,5 |
| Гуманітарная дапамога: адзеньне, абутак, прылады для інвалідаў, лекі | 1 | 2,5 |
| Запрашэньне ў РБ прадстаўнікоў НДА іншых краінаў для абмену досьведам, знаёмства са спадчынай і гісторыяй Беларусі | 1 | 2,5 |
| Працяг працы “Каўнтэрпарт” | 1 | 2,5 |
| Стажыроўкі, канфэрэнцыі па экалёгіі | 1 | 2,5 |
| Стажыроўкі, канфэрэнцыі па эканоміцы | 1 | 2,5 |
| Сэмінары і лекцыі па студэнцкім самакіраваньні | 1 | 2,5 |

**“На Ваш погляд, якія з пададзеных ніжэй кірункаў дзейнасьці “трэцяга сэктару” найбольш карысныя для беларускага грамадзтва?”**

Рэспандэнтам быў прапанаваны шэраг альтэрнатываў, сярод якіх яны маглі абраць любую колькасьць варыянтаў; таксама яны маглі прапанаваць свой варыянт адказу. Прапанаваныя рэспандэнтамі варыянты зьмешчаныя пасьля “тлустай” рысы. Усе фармулёўкі, прапанаваныя рэспандэнтамі, захаваныя бязь зьменаў.

| Варыянт адказу | Коль-касьць | % |
|---|---|---|
| Грамадзянская адукацыя | 28 | 70 |
| Правы чалавека | 22 | 55 |
| Разьвіцьцё мас-мэдыяў | 22 | 55 |
| Падтрымка малога бізнэсу | 17 | 42,5 |
| Культурніцкі, гістарычны, краязнаўчы | 2 | 5 |
| Абарона правоў людзей з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі | 2 | 5 |
| Абарона правоў чалавека ў галіне экалёгіі | 1 | 2,5 |
| Праваабарончыя цэнтры | 1 | 2,5 |
| Псыхалягічныя кансультацыі | 1 | 2,5 |
| Сацыяльны | 1 | 2,5 |
| Экалягічны | 1 | 2,5 |

**“Да досьведу якіх арганізацыяў і ў якой форме вы хацелі б атрымаць доступ?”**

| Варыянт адказу | Коль-касьць | % |
|---|---|---|
| Хацелі б прайсьці навучаньне на базе досьведу “пасьпяховых” беларускіх арганізацыяў | 21 | 52,5 |
| Хацелі б атрымліваць кансультацыі ад арганізацыяў Заходняй Эўропы | 18 | 45 |
| Хацелі б прайсьці навучаньне на базе досьведу арганізацыяў Усходняй Эўропы | 15 | 37,5 |
| Хацелі б прайсьці навучаньне на базе досьведу арганізацыяў Заходняй Эўропы | 13 | 32,5 |
| Хацелі б атрымліваць кансультацыі ад арганізацыяў Усходняй Эўропы | 13 | 32,5 |
| Хацелі б атрымліваць кансультацыі ад “пасьпяховых” беларускіх арганізацыяў | 12 | 30 |

**Пры адказе на пытаньне “Ў якой дапамозе Вашая арганізацыя мае патрэбу?”**, калі рэспандэнт абіраў адзін з наступных варыянтаў адказу:

— кансультацыі з боку “пасьпяховых” беларускіх арганізацыяў;
— кансультацыі партнэраў з Заходняй Эўропы;
— кансультацыі партнэраў з Усходняй Эўропы;
— навучаньне на аснове досьведу найбольш “пасьпяховых” беларускіх арганізацыяў;
— навучаньне на аснове досьведу партнэраў з Заходняй Эўропы;
— навучаньне на аснове досьведу партнэраў з Усходняй Эўропы;

яму прапанавалася пазначыць, у якой менавіта галіне ён хацеў бы атрымаць кансультацыі ці навучаньне.

Усе фармулёўкі, прапанаваныя рэспандэнтамі, захаваныя бязь зьменаў.

(Прынятыя скарачэньні: Б — Беларусь, ЗЭ — Заходняя Эўропа, УЭ — Усходняя Эўропа)

| Тэма навучаньня/ кансультацыяў | Кансультацыі Б | Навучаньне Б | Навучаньне ЗЭ | Кансультацыі ЗЭ | Навучаньне УЭ | Кансультацыі УЭ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Абарона правоў чалавека ў галіне экалёгіі | | 1 | 1 | | | |
| Ахова здароўя (досьвед Польшчы, Канады, Германіі) | | | | 1 | | 1 |
| Ахова прыроды | | 1 | | | | |
| Бухгальтэрыя, праца з Дэпартамэнтам па гуманітарнай дапамозе, ліцэнзаваньне | 1 | | | | | |
| Досьвед працы зь інвалідамі Ўкраіны і Прыбалтыкі | | | | | | 1 |
| Журналістыка, камунікацыя | | 1 | | | | |
| Культурніцкія, гістарычныя | 1 | 1 | 1 | 1 | | |
| Лідэрскія якасьці | | | 1 | | | |
| Міжсэктарнае супрацоўніцтва | | 1 | 1 | | | |
| Мэтодыкі працы зь інвалідамі, прафарыентацыя, праца, занятасьць | | | | 1 | | |
| Палітрэпрэсіі і ўшанаваньне памяці | | | | 1 | | 1 |
| Пасьпяховы досьвед у выданьні незалежных СМІ | 1 | | | | | |
| Праваабарончы | | | 1 | 1 | | |
| Партнэрства, супрацоўніцтва, сумесныя праекты | | | | 1 | | 1 |
| Пошук партнэраў, фінансаваньня, рэалізацыя праектаў | | 1 | | | | |
| Правядзеньне лякальных акцыяў, кампаніяў | 2 | 1 | | | | |
| Праца з маладымі сем'ямі | | | | 1 | | 1 |
| Раскрутка, PR-тэхналёгіі | | | | 1 | | |
| Сацыяльная дапамога | | | 1 | | | |
| Сацыяльная праца | | 1 | 1 | 1 | | 1 |
| Супрацоўніцтва з уладамі | | 1 | 1 | | | |
| Уплыў на прыняцьце рашэньняў органамі ўлады | 1 | | | | | |
| Фінансы | 1 | | 1 | 1 | | 1 |
| Экалёгія | | 1 | | | | |
| Экалёгія: парушэньне правоў чалавека | 1 | | | 1 | | 1 |
| Эканамічны посьпех, пошук сродкаў | | 1 | | | | |

# кашалёк ці жыцьцё!

## гомельшчыну дэзактывавалі

**Ю.Сівец**

“Ці вернуць чарнобыльскія ільготы дзецям?” — гэта бадай што самае актуальнае пытаньне для жыхароў Гомельшчыны. У выніку прыняцьця Пастановы Савету Міністраў №1076 “Аб зацьвярджэньні пераліку населеных пунктаў і аб’ектаў, што знаходзяцца ў зонах радыяцыйнага забруджваньня” (ад 8 жніўня 2002 году) 38 гарадоў і вёсак вобласьці раптам сталі “менш” радыяцыйнымі. Такая “раптоўная дэзактывацыя” разглядаецца большасьцю жыхароў як намер дзяржавы закрыць чарговую бюджэтную дзірку.

Пачынаючы зь верасьня Калінкавіцкае асьветніцкае ГА “Грамадзтва і мы” праводзіць кампанію “Дзеці — ня сродак атрыманьня прыбытку”. Мэта яе — аднаўленьне страчаных у жніўні “чарнобыльскіх” ільготаў для дзяцей: бясплатнага аздараўленьня і харчаваньня, прыбаўкі да стыпэндыі, ільготаў пры паступленьні ў навучальныя ўстановы, на выдачу лекаў. На думку Ўладзімера Чашуна, старшыні арганізацыі, рашэньне выключыць Калінкавічы і яшчэ 8 населеных пунктаў раёну з зоны радыяцыйнага забруджваньня, прынамсі, выклікае пытаньні.




**“няма таго, што раньш было...”**

Ні летась, ні пазалетась паўнавартасных дасьледаваньняў па чарнобыльскіх праблемах у рэгіёне не праводзілася, чаму ёсьць і аб’ектыўныя тлумачэньні — напрыклад, каб даведацца, якая колькасьць стронцыю і плютонію ўтрымліваецца ў арганізме чалавека, на аналіз трэба ўзяць фрагмэнты тканак печані і костныя матэрыялы ў памерлых. Але праблема ў тым, што ў Калінкавічах спэцыяліста-паталягаанатама папросту няма. На пытаньне, хто ж і якім чынам робіць дасьледаваньні, Робэрт Пагодзін, дырэктар Гомельскай філіі НІКІ Радыяцыйнай мэдыцыны і эндакрыналёгіі адказаў, што быў распрацаваны ўнівэрсальны мэтад: “З 1991 году мы да-сьледавалі 4 тысячы памерлых. Паводле высноваў аналізу распрацавалі мэтодыку, якая можа выкарыстоўвацца для любога населенага пункту”. Па словах У.Чашуна, сумневы выклікаюць таксама дадзеныя па ўтрыманьні цэзію-137 у арганізме чалавека, бо аналізы на СВЧ (ступень выпраменьваньня чалавека) не праходзіла крытычная група — лесьнікі і паляўнічыя. Праўда, сп. Пагодзін запэўніў, што “аналізы бралі і ў лесьнікоў ”.

Зноў-ткі шырока вядомая інфармацыя, што за апошнія пяць год сярод калінкавіцкіх дзяцей узрос працэнт захворваньняў шчытападобнай залозы, органаў дыханьня, сыстэмы кровавароту. Але дырэктар НІКІ супакойвае, што гэта быў проста пік, які хутка пачне спадаць, і ўвогуле “СМІ даводзяць людзям, што існуе небясьпека. Чалавек баіцца памерці. У яго ўзьнікае хранічны стрэс, які перарастае ў іншую хваробу”.

Па словах Уладзімера Чашуна, улады парушылі “Канвэнцыю аб доступе да інфармацыі, удзеле грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця рашэньняў і доступе да правасудзьдзя ў пытаньнях, якія тычацца акаляючага асяродзьдзя”. Па горадзе цыркулююць чуткі, што старшыня Калінкавіцкага выканкаму загадаў кожнаму з кіраўнікоў мясцовых прадпрыемстваў забараніць сваім супрацоўнікам падпісвацца пад патрабаваньнем адмены пастановы. Чуткі чуткамі, але ці выпадкова, што ні ў райвыканкаме, ні ў мясцовай газэце не зьявіліся вынікі ўсіх дасьледаваньняў і мапы радыяцыйнага забруджваньня.

Акрамя таго, сп. Чашун сьцьвярджае, што была парушаная пэрыядычнасьць заніраваньня рэгіёну, якая паводле заканадаўства мусіць адбывацца раз на пяць год. Апошняе такое мерапрыемства праходзіла ў 1996 годзе, таму наступнае мусіла адбыцца летась. Камэнтаваць гэтыя сьцьверджаньні ў аблвыканкаме адмовіліся — маўляў, адказныя чыноўнікі, якія займаюцца гэтым пытаньнем, у адпачынку ці раз’ездах.

А ўласна кажучы, чым скончылася кампанія? Уладзімер Чашун прапанаваў стварыць камісію, куды б увайшлі спэцыялісты і з боку недзяржаўных арганізацыяў, і з боку дзяржавы. На імя прэзыдэнта быў накіраваны зварот за подпісам 1100 чалавек з просьбай адмяніць Пастанову. На дадзены момант ніякай інфармацыі на гэты конт з адпаведных установаў не паступала.

Тым часам начальнік абласнога ўпраўленьня Рэспубліканскага цэнтру па аздараўленьні і санаторна-курортным лячэньні насельніцтва Валянтына Драздова паабяцала зьвярнуцца да некаторых інстанцыяў з мэтай знайсці магчымасьці аздаравіць пазбаўленых ільготаў дзяцей — менавіта адмена бясплатнага аздараўленьня, на думку назіральнікаў, стала асноўнай прычынай пачатку кампаніі “Дзеці — ня сродак атрыманьня прыбытку”.

А пакуль пазбаўленыя ільготаў жыхары Гомельшчыны глядзяць інтэрвію намесьніка старшыні Дзяржкамчарнобыля спадара Шаўчука па АНТ і па яго прапанове спрабуюць “радавацца”, што Калінкавічы і 8 вёсак раёну выключаныя з зоны 1-5 Кюры. Адзінае, што заcьмявае радасьць — элемэнтарныя веды па радыяцыйная бясьпецы, якую выкладаюць тым жа калінкавіцкім дзецям у школах. Паводле падручнікаў, пэрыяд паўраспаду цэзію-137 — 30 год, стронцыю — 29,12...

# віцебскі застой

## *інтэрвію на фоне 5-годзьдзя моладзевага “трэцяга сэктару”*



У моладзевага руху Віцебска юбілей — пяць год таму ў горадзе ўзьнікла першае дэмакратычнае аб’яднаньне. Цэлы шэраг праблемаў, скандалаў і нават трагедыяў – гэта далёка ня поўны сьпіс таго, што адбывалася на Віцебшчыне за гэты час. Зразумела, што паралельна з адмоўнымі працэсамі моладзевы сэктар гораду перажываў і цалкам станоўчыя, стваральныя.

Якімі ўяўляюцца віцебскія НДА знутры, спрабуе распавесьці адзін з актывістаў моладзевага руху, лідэр ГА “Эўрапейская пэрспэктыва” Сяржук Шэлегаў.

**— З чаго ўсё пачалося?**

— Гісторыя моладзевага “трэцяга сэктару” вядзецца ад 1997 году, калі з Моладзевай суполкі БНФ імя Кастуся Езавітава ўтварылася гарадзкая арганізацыя “Маладога фронту”. Зь яе выйшлі некалькі цяперашніх лідэраў віцебскага дэмакратычнага руху. Амаль у той самы час паўстаў Саюз творчай моладзі “Сёмая грань”. Пасьля з рогу пайшло многа, узьнік цэлы шэраг моладзевых НДА. Напрыклад, 1998 год быў стартавым для Цэнтру моладзевых ініцыятываў “Контур” і Моладзевага культурна-адукацыйнага цэнтру “Ростань”.

**— Цяпер моладзевы “трэці сэктар” Віцебска складаюць некалькі дзясяткаў арганізацыяў…**

-…і сярод іх няма аднастайнасьці. Нехта лезе ў палітыку, хтосьці яе баіцца. Гэта галоўны водападзел.

Віцебскі моладзевы рух я ўмоўна падзяліў бы на тры групы: камунікатыўныя цэнтры, каляпалітычныя аб’яднаньні і філіі агульнанацыянальных і міжнародных арганізацыяў, — гэта як тры кіты, на якіх ён трымаецца.

Да першай групы арганізацыяў я б аднёс Моладзевы цэнтар грамадзянскай супольнасьці “Верас”, Моладзевы культурна-асьветніцкі цэнтар “Ростань”, Цэнтар моладзевых ініцыятываў “Контур”. Іх асноўная праца скіраваная на разьвіцьцё “трэцяга сэктару”, у прыватнасьці, на грамадзянскую адукацыю і наладжваньне разнастайных кантактаў паміж недзяржаўнымі арганізацыямі. Дзякуючы ім ідзе працэс фармаваньня і сталеньня новых арганізацыяў і ініцыятываў, але назваць “Верас”, “Ростань” ці “Контур” рэсурсавымі цэнтрамі я б не рызыкнуў, бо яны дапамагаюць хутчэй інтэлектуальна, чым матэрыяльна.

Другая група нешматлікая — “Малады фронт” і “Маладыя сацыял-дэмакраты”. Гэта моладзевыя крылы апазыцыйных партыяў. Я думаю, што тут, у Віцебску, ёсьць істотная асаблівасьць у параўнаньні з цэнтральнымі, рэспубліканскімі структурамі. Мясцовыя каляпалітычныя групы моцна завязаныя на партыі, яны ня надта самастойныя ў сваіх дзеяньнях.

Ёсьць у нас і філіі нацыянальных ды сусьветных моладзевых арганізацыяў. Напрыклад, у мясцовых унівэрсытэтах працуюць суполкі Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, у горадзе дзейнічаюць мясцовыя аддзяленьні сусьветна вядомых YMCA і YWCA.

**— Як Вы ацэньваеце разьвіцьцё дэмакратычных моладзевых арганізацыяў за апошні год?**

— Як пэўны застой. Відаць, пасьля прэзыдэнцкіх выбараў наступіла апатыя ў значнай частцы грамадзкіх дзеячоў. Яшчэ адну прычыну я бачу ў абмежаваньні фінансавай падтрымкі: менш грошай ад спонсараў — меней актыўнасьці. На жаль, такая непрыемная карціна.

Праўда, ёсьць і станоўчыя моманты. У горадзе паволі, але расьце колькасьць недзяржаўных арганізацыяў. Напрыклад, зьявілася філія МГА “Гісторыка”, якое займаецца дасьледаваньнем даўніны і адраджэньнем помнікаў. Зараджаецца студэнцкае самакіраваньне.

**— Некаторыя зьвязваюць стагнацыю ў моладзевым сэктары са зьнікненьнем кіраўніка Цэнтру моладзевых ініцыятываў “Контур” Юрася Корбана.**

— Можа быць, у гэтым ёсьць доля праўды. Для многіх Корбан зьяўляўся ня толькі кіраўніком буйной арганізацыі, але і лідэрам моладзевага руху Віцебска. Зараз, пасьля яго зьнікненьня, ЦМІ “Контур” менш актыўны. Магчыма, гэта зьвязана і з сур’ёзнымі праблемамі зь дзярж-

фіноргнамі. Так ці інакш, аслабленьне “Контура” нэгатыўна адбілася на разьвіцьці рэгіянальнага моладзевага “трэцяга сэктару”.

**— Прыклад перасьледу ЦМІ “Контур” адзінкавы?**

— За пяць гадоў здараліся выпадкі рэпрэсіяў з боку праваахоўных і судовых органаў. Тут дастаткова ўзгадаць леташні ”Славянскі базар”, калі спэцслужбы жорстка зьбілі маладафронтаўца.

*пасьля прэзыдэнцкіх выбараў наступіла апатыя ў значнай частні грамадзкіх дзеячоў. Яшчэ адну прычыну я бачу ў абмежаваньні фінансавай падтрымкі: менш грошай ад спонсараў — меней актыўнасьці. На жаль, такая непрыемная карціна.*

Аднак у цэлым, я лічу, віцебскія ўлады даволі лібэральныя ў адносінах да моладзевай актыўнасьці. Чыноўнікі не цураюцца кантактаў зь мясцовымі НДА пры ўмове, што ўзаеміны ня маюць палітычнага падтэксту. Больш за тое, работнікі аддзелу інфармацыі гарвыканкаму актыўна цікавяцца праблемамі “трэцяга сэктару”.

Увогуле, мяркую, што гарадзкі выканаўчы камітэт часта падпарадкоўваецца загадам зь Менску. А яны бываюць розныя…

**— Дзеля разьвіцьця моладзевага “трэцяга сэктару” павінны існаваць ня проста кантакты, але і плённая супольная праца моладзевых аб’яднаньняў.**

— Зразумела, калі моладзь стварыла шмат арганізацыяў, то ўзьнікла патрэба нейкага супрацоўніцтва. Скажу шчыра, яно давалася цяжка. Былі праблемы ў адносінах. Сварыліся, мірыліся…

Натуральна, што нікога не задавальняе стан цяперашніх адносінаў. Але што тычыцца нас, то “Эўрапейская ініцыятыва” імкнецца да цёплых, таварыскіх стасункаў, плённага супрацоўніцтва. Прычым мы стараемся ад словаў пераходзіць да справаў.

Па нашай прапанове ў траўні было праведзена пяцідзённае “Сьвята Эўропы ў Віцебску”. Мы зладзілі вулічную акцыю, прэзэнтацыі, віншаваньне гараджанаў і латвійскіх дыпляматаў. Гэтыя мерапрыемствы мы ажыцьцяўлялі разам зь дзясяткам самых вядомых віцебскіх моладзевых арганізацыяў.

У канцы чэрвеня моладзь зладзіла акцыю па добраўпарадкаваньні старога Віцебска. Яна адбывалася як частка агульнабеларускай моладзевай кампаніі “Зробім лепш!”.

Абедзьве супольныя справы атрымалі шырокі розгалас у сродках масавай інфармацыі. Пра нас напісалі мясцовыя газэты, паведамілі радыёстанцыі “Палёнія”, “Свабода” і “Рацыя”. Апошнюю акцыю дык нават паказалі ў перадачах АНТ і віцебскага канала “Скіф”.

**— Відаць, лепш складваюцца адносіны з замежнымі арганізацыямі?**

— “Кантакты даюць разьвіцьцё” — гэтую аксыёму віцебскія арганізацыі зразумелі даўно, таму пачалі шукаць партнэраў, у тым ліку з замежжа. Ёсьць шэраг цікавых прыкладаў пасьпяховага супрацоўніцтва.

Так, цэнтар “Ростань” падтрымлівае шчыльныя стасункі з унівэрсытэтам “Віядрына” (Франкфурт-на-Одэры, ФРГ). Гэтая ВНУ — асяродак моладзевых арганізацыяў розных кірункаў.

Праект “Сьвята Эўропы ў Віцебску” стаў асновай для запачаткаваньня адносінаў паміж МЦГС “Верас” і МГА “Эўрапейская пэрспэктыва” з аднаго боку і прапагандавай групай Эўрапейскай народнай партыі (EPP-ED) — з другога. Замежнікі дапамаглі віцяблянам кнігамі, CD, часопісамі ды іншым раздатковым матэрыялам. Вялікі досьвед супрацоўніцтва са Швэдзкім зьвязам хрысьціянска-дэмакратычнай моладзі назапашаны ў ЦМІ “Контур”.

Але пры ўсім гэтым няма доўгатэрміновай каапэрацыі зь іншаземцамі. Атрымліваецца нешта непрацяглае, аднаразовае.

**— Якое значэньне мае дзейнасьць Асамблеі для наладжваньня кантактаў паміж моладзевымі НДА?**

— Я б адзначыў аб’яднаўчую і інфармацыйную ролю нацыянальнай Асамблеі.

Першая выяўляецца на прыкладзе кампаніі “Зробім лепш!”, калі пад ідэю можна стварыць кароткатэрміновую кааліцыю моладзевых арганізацыяў гораду. Такое супрацоўніцтва карыснае для збліжэньня розных арганізацыяў.

Другая роля праяўляецца найперш у ролі “Бюлетэня”. Гэтае выданьне дае магчымасьць якаснага інфармацыйнага абмену паміж НДА.

**— Напэўна, тэндэнцыі ў моладзевым руху Віцебска не абмяжоўваюцца толькі жаданьнем супольна працаваць?**

— Галоўная справа апошняга часу — падрыхтоўка да мясцовых выбараў. Думаю, яна актывізуе дзейнасьць “трэцяга сэктару” ў цэлым і моладзі ў прыватнасьці. Я не выключаю, што сёй-той з маладых пойдзе на выбары. Прынамсі, я чуў пра такое ад некаторых нашых калегаў па грамадзкай працы.

**— Што, на Вашую думку, трэба зрабіць, каб палепшыць сытуацыю ў моладзевым “трэцім сэктары”?**

— Асноўная праблема — недахоп рэсурсаў. Моладзевыя арганізацыі ня маюць фінансаў для ажыцьцяўленьня сваіх ідэяў. У выніку эфэктыўнасьць грамадзкай працы не заўсёды высокая.

Але я перакананы, што праз наступныя пяць гадоў вы не пазнаеце віцебскія недзяржаўныя арганізацыі. Моладзь — самая дынамічная частка грамадзтва. Упэўнены, яна знойдзе найлепшае рашэньне існуючых праблемаў.

*Гутарыў Юрась Сьцяпанаў*

# БЕЛАРУСЬ — У ЭЎРОПЕ

## У ГОРАДНІ ПРАЙШОЎ ФОРУМ НДА ЭЎРАРЭГІЁНУ "НЁМАН"

**Эўропа аб'ядноўваецца — гэта нават не аксыёма, а канстатацыя факту, прынамсі, што тычыцца жыхароў краінаў на захадзе ад беларусаў. Апошнім застаецца толькі назіраць за тым, як паміж краінамі Эўразьвязу зносяцца сьцены, пранікнёна слухаць нязьменнае "Беларусь — у Эўропу" і з сумам чакаць, калі шматвэктарная палітыка хоць нейкім бокам павернецца на Захад.**

Зрэшты, пэўныя павароты ўсё ж адбываюцца, прынамсі, на рэгіянальным узроўні. Эўрарэгіён "Нёман" — своеасаблівае выключэньне з правілаў. Утвораны пяць год таму дзеля разьвіцьця супрацоўніцтва прынёманскіх рэгіёнаў Беларусі, Польшчы, Літвы і Расеі ў галіне эканомікі, тэрытарыяльнага плянаваньня, культуры і інш., толькі ў кастрычніку 2002 г. пад сваёй апекай ён сабраў грамадзкія арганізацыі названых краінаў на гарадзенскі Форум НДА Эўрарэгіёну. Зь якой мэтай — паспрабаваў даведацца наш гарадзенскі карэспандэнт Андрэй Мялешка ў гутарцы са старшынём праўленьня ГА "Цэнтар "Трэці сэктар", адным з арганізатараў Форуму Вітаўтам РУДНІКАМ.

**— Сп. Вітаўт, распавядзіце, калі ласка, што такое Нёманскі эўрарэгіён наагул?**

— Ініцыятыва стварэньня эўрарэгіёну "Нёман" была высунутая на III-м Балтыйскім гаспадарчым Форуме ў Віграй (Літва) 11 лютага 1995 году. 6 чэрвеня 1997 году ў Аўгустове (Польшча) было падпісанае беларуска-польска-літоўскае пагадненьне пра стварэньне эўрарэгіёну "Нёман". Сёньня ў яго склад уваходзяць Гарадзенская вобласьць (Беларусь), Падляскае ваяводзтва (Польшча), Віленскі, Марыямпальскі і Алітускі паветы (Літва), а таксама пяць раёнаў Калінінградзкай вобласьці Расеі — Чарняхоўскі, Красназнаменскі, Гусеўскі, Азёрскі і Несьцераўскі. Гэта адзін з трох эўрарэгіёнаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі — акрамя яго ёсьць "Буг" і "Азёрны край".

Эўрарэгіён быў створаны для разьвіцьця супрацоўніцтва памежных рэгіёнаў у галіне эканомікі і інфраструктуры, тэрытарыяльнага плянаваньня, асьветы, аховы здароўя, культуры, спорту, турызму, аховы навакольнага асяродзьдзя і г.д.

**— На Ваш погляд, якую ролю зараз адыгрываюць недзяржаўныя арганізацыі ў разьвіцьці Нёманскага эўрарэгіёну?**

— Яна пакуль невялікая, таму і паўстала задума правесьці Форум НДА. Больш за тое, адной з падставаў стварэньня і дзейнасьці эўрарэгіёну ў Эўропе ёсьць удзел грамадзкасьці (і ў тым ліку НДА) у прыняцьці і рэалізацыі рашэньняў, накіраваных на разьвіцьцё супрацоўніцтва паміж народамі. На гэты момант у эўрарэгіёнаўскіх справах крыху ўдзельнічаюць польскія і літоўскія арганізацыі, якія штогод маюць магчымасьць атрымліваць зь бюджэту эўрарэгіёну пэўныя сродкі.

Беларускія і расейскія НДА пакуль такой магчымасьці ня маюць, але мець павінны. Прынамсі, да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі Гарадзенскага Форуму.

**— Як складваюцца стасункі НДА са структурамі ўладаў, што займаюцца справамі эўрарэгіёну?**

— У нас тут пакуль досьвед невялікі, але станоўчы. На этапе падрыхтоўкі Форуму мы атрымалі ад беларускага Бюро эўрарэгіёну ўсю патрэбную нам інфармацыю. Кіраўнік Бюро Віктар Зданчук выступаў на Форуме, дапамагаў весьці перамовы з прадстаўнікамі Бюро эўрарэгіёну ў суседніх краінах, хадайнічаў аб прадастаўленьні бясплатных візаў для літоўскіх удзельнікаў. Мы і зараз шчыльна кантактуем з кіраўніком Літоўскага Бюро Гінтарасам Скамарочусам. Афіцыйны ліст з пажаданьнямі плённай працы на Форуме даслаў ваявода Падляскага ваяводзтва Марэк Стшалінскі. На Форуме абяцалі быць, але не даехалі тры чыноўнікі з адміністрацыі губэрнатара Калінінградзкай вобласьці. Інтарэс уладаў у разьвіцьці эўрарэгіёну выразна прасочваецца, і гэта неабходна выкарыстоўваць для прасоўваньня інтарэсаў ГА з розных частак эўрарэгіёну "Нёман".

**— На Вашую думку, у якіх галінах дзейнасьці можа найбольш плённа разьвівацца супрацоўніцтва паміж грамадзкімі арганізацыямі эўрарэгіёну?**

— Супрацоўніцтва можа быць плённым у любой галіне. Па выніках Форуму можна казаць пра супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяродзьдзя, турызму, культуры, праграмаў для моладзі і для людзей з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі. Прынамсі, у гэтых галінах распрацаваныя ідэі канкрэтных праектаў.

**— Адна з прапановаў, выпрацаваная ўдзельнікамі Форуму — стварыць Грамадзкую Раду пры Савеце эўрарэгіёну. На Ваш погляд, якімі могуць быць яе функцыі?**

— Грамадзкая Рада была б павінна браць удзел у распрацоўцы, прыняцьці і рэалізацыі рашэньняў, якія тычацца разьвіцьця эўрарэгіёну, паколькі эўрарэгіён — гэта найперш людзі, якія тут жывуць, а грамадзкія арганізацыі — тыя структуры, якія мусяць адстойваць інтарэсы гэтых людзей.

**— На Вашую думку, ці ўдасца стварыць кааліцыю НДА Эўрарэгіёну «Нёман-Niemen-Nemunas»?**

— Стварэньне кааліцыі таксама было толькі прапановай некалькіх удзельнікаў — падчас

прыняцьця рашэньняў Форуму яна нават не абмяркоўвалася. Кааліцыі ствараюцца для вырашэньня дастаткова кароткачасовых і вельмі канкрэтных задачаў. Магчыма, калі-небудзь такія задачы сапраўды паўстануць перад арганізацыямі, якія працуюць у эўрарэгіёне. На сёньня ж ёсьць іншыя формы ўзаемадзеяньня, вызначаныя ўдзельнікамі: гэта і электронная канфэрэнцыя для абмену апэратыўнай інфармацыяй (канфэрэнцыя ўжо пасьпяхова працуе), і ініцыятыўная група, якая выпрацоўвае далейшыя варыянты ўзаемадзеяньня паміж НДА чатырох краінаў. Гэтая група ўжо падрыхтавала і разаслала зварот да мясцовых уладаў розных частак эўрарэгіёну і да яго структурных утварэньняў. Прадстаўнік ініцыятыўнай групы выступаў 24 кастрычніка на паседжаньні Рады эўрарэгіёну, удзельнікі якога пагадзіліся, што роля грамадзкасьці ў далейшай дзейнасьці павінна быць большай.

Зараз ідзе размова пра ўключэньне ў плян дзейнасьці эўрарэгіёну на 2003 год мерапрыемстваў, канцэпцыі якіх былі распрацаваныя на Форуме.

# ФОРУМ ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ ЭЎРАРЭГІЁНУ “НЁМАН-NIEMEN-NEMUNAS”

**18-19 кастрычніка, Гародня, Беларусь**

**Старшыні Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэту Рэспублікі Беларусь**
**Старшыні Гарадзенскага абласнога Савету дэпутатаў Рэспублікі Беларусь**
**Ваяводзе Падляскага ваяводзтва Рэспублікі Польшча**
**Маршалку Сэйму Падляскага ваяводзтва Рэспублікі Польшча**
**Начальнікам Алітускага, Віленскага, Марыямпальскага паветаў Літоўскай Рэспублікі**
**Кіраўнікам самакіраваньняў Алітускага, Віленскага, Марыямпальскага паветаў Літоўскай Рэспублікі**
**Губэрнатару Калінінградзкай вобласьці Расейскай Фэдэрацыі**
**Старшыні Калінінградзкай абласной Думы Расейскай Фэдэрацыі**
**Кіраўнікам адміністрацыяў і органаў самакіраваньня Красназнаменскага, Гусеўскага, Несьцераўскага, Азёрскага, Чарняхоўскага раёнаў Калінінградзкай вобласьці Расейскай Фэдэрацыі**
**Сябрам Савету і кіраўнікам Бюро эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas” у Беларусі, Польшчы, Літве і Калінінградзкай вобласьці Расеі**

## ЗВАРОТ

Мы, удзельнікі Форуму грамадзкіх арганізацыяў эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”,

-імкнучыся зрабіць свой унёсак у разьвіцьцё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж нашымі рэгіёнамі, краінамі і народамі,

-усьведамляючы сваю ролю ў вырашэньні як лякальных, так і транспамежных праблемаў нашага рэгіёну,

-адзначаючы ўнёсак у стварэньне і разьвіцьцё эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas” з боку мясцовых уладаў памежных рэгіёнаў Беларусі, Польшчы, Літвы і Калінінградзкай вобласьці Расеі,

заяўляем **пра неабходнасьць больш цеснай каардынацыі дзеяньняў паміж грамадзкімі арганізацыямі, мясцовымі ўладамі і структурамі эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”.**

Грамадзкія арганізацыі рэгіёнаў, якія ўваходзяць у склад эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”, аб’ядноўваюць сёньня найбольш актыўную і ініцыятыўную частку грамадзтва, маюць багаты інтэлектуальны і творчы патэнцыял.

Грамадзкія аб’яднаньні сёньня пасьпяхова прыцягваюць рэсурсы і выкарыстоўваюць іх для вырашэньня такіх важных задачаў, як дапамога сацыяльна неабароненым катэгорыям насельніцтва, ахова навакольнага асяродзьдзя, павышэньне ўзроўню адукаванасьці і інфармаванасьці грамадзтва, працаўладкаваньне моладзі і г.д.

Наш досьвед, веды і рэсурсы могуць і павінны быць выкарыстаныя для пашырэньня эканамічнага і культурнага су-працоўніцтва, умацаваньня кантактаў паміж нашымі народамі.

Мы заяўляем **пра сваю падтрымку мэтаў стварэньня эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”, а таксама пра** гатоўнасьць да**:**

— рэалізацыі сумесных праграмаў і праектаў з удзелам грамадзкіх арганізацыяў і мясцовых уладаў з розных частак эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”, накіраваных на вырашэньне вострых лякальных і транспамежных праблемаў;

— абмену інфармацыяй і досьведам працы;

— удзелу ў арганізацыі і правядзеньні мерапрыемстваў, накіраваных на разьвіцьцё добрасуседзкіх стасункаў паміж нашымі краінамі і на разьвіцьцё супрацоўніцтва ў межах эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas” у прыватнасьці;

— адкрытага і канструктыўнага дыялёгу па любых пытаньнях, якія тычацца ўнёску грамадзкіх арганізацыяў у разьвіцьцё міжнароднага супрацоўніцтва.

Мы прапануем:

— уключыць у праграму паседжаньня Рады эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas” наступныя пытаньні:

— аб стварэньні Фонду разьвіцьця эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”. У склад кіруючых органаў Фонду мы прапануем уключыць прадстаўнікоў НДА з усіх частак эўрарэгіёну . Адным з накірункаў дзейнасьці Фонду павінна стаць фінансаваньне праграмаў і праектаў грамадзкіх арганізацыяў з розных частак эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”, накіраваных на вырашэньне лякальных і транспамежных праблемаў;

— аб увядзеньні ў склад Рады прадстаўнікоў НДА з усіх частак эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”;

— аб уключэньні ў пляны працы эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas” на 2003 год мерапрыемстваў грамадзкіх арганізацыяў, накіраваных на разьвіцьцё супрацоўніцтва ў межах эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”, вырашэньне вострых лякальных і транспамежных праблемаў у межах эўрарэгіёну .

*Зварот прыняты ўдзельнікамі Форуму грамадзкіх арганізацыяў эўрарэгіёну “Нёман-Niemen-Nemunas”, які адбыўся 18-19.10.2002 г. у Гародні, Беларусь*

kurier Poranny

# ШМАТ СЛОВАЎ І ДЭКЛЯРАЦЫЯЎ, МАЛА ІНВЭСТЫЦЫЯЎ

**Ініцыятыва ўтварэньня эўрарэгіёну “Нёман” як абшару транспамежнага супрацоўніцтва зьявілася напачатку 1995 году ў Дэклярацыі III Гаспадарчага Балтыйскага Форуму, што праходзіў у Віграх ля Сувалак. Аднак толькі ў гэтым годзе былі заплянаваныя першыя інвэстыцыі, зьвязаныя з праграмай “Польшча — рэгіён Балтыйскага мора”.**

Падрыхтоўка да стварэньня эўрарэгіёну завершылася 6-га чэрвеня 1997 году ў Аўгустове падпісаньнем “Пагадненьня аб утварэньні Транспамежнага Зьвязу “эўрарэгіён “Нёман” паміж сувальскім ваяводам, кіраўніком адміністрацыі Гарадзенскай вобласьці і кіраўнікамі літоўскіх паветаў Алітус і Марыямпаль (не хапіла прадстаўніка з расейскага боку). У адрозьненьні ад большасьці эўрарэгіёнаў, пагадненьне аб прызнаньні “Нёмана” падпісалі не прадстаўнікі органаў мясцовага самакіраваньня ці кіраўнікі грамадзкіх аб’яднаньняў, а прадстаўнікі адміністрацыйных уладаў. Нагадаем, самакіраваньне ў Літве на той час толькі ўтваралася, а ў Беларусі яго няма дагэтуль.

Дзейнасьць эўрарэгіёну “Нёман”, галоўным чынам дзякуючы сродкам, атрыманым ад Эўрапейскага Зьвязу, мусіць уплываць на эканамічнае разьвіцьцё памежжа, грамадзкую інфраструктуру, адукацыю, ахову здароўя і асяродзьдзя. Яна павінна таксама ажывіць кантакты паміж жыхарамі памежных тэрыторыяў і супрацоўніцтва ўстановаў і суб’ектаў гаспадараньня. Вялікія спадзяваньні польскага боку на гэты конт значна астудзіліся ў 1998-1999 гадах, калі стала вядома пра сур’ёзныя спрэчкі паміж сувальскім ваяводам, які страціў працу і стаў кіраўніком таварыства польскіх гмінаў эўрарэгіёну “Нёман”, і сёньняшняй адміністрацыяй ваяводзтва за першынства.

Пасьля адміністрацыйнай рэформы і рэформы мясцовага самакіраваньня такія ж самыя спрэчкі разгарэліся паміж падляскім ваяводам і маршалкам ваяводзтва.

І толькі крыху больш як год таму таварыства польскіх гмінаў эўрарэгіёну “Нёман” у Сувалках здолела падпісаць дамову з кіраўніцтвам Падляскага ваяводзтва і прадстаўнікамі арганізацыі, якая фінансуе праекты з фонду PHARE (дзякуючы ёй грошы з Эўразьвязу трапляюць да органаў мясцовага самакіраваньня і няўрадавых арганізацыяў з усяго ваяводзтва). Да таго часу гэта былі зусім невялікія сумы, пры-значаныя на гэтак званыя “мяккія”, безынвэстыцыйныя праекты — культурніцкія, спартовыя, турыстычныя і навуковыя. Толькі ў гэтым годзе таварыства будзе кіраваць праграмай “Польшча — Рэгіён Балтыйскага мора” зь бюджэтам, які перавышае 333 000 эўра. У плянах таксама інвэстыцыі — галоўным чынам турыстычныя і ў сфэры камунікацыі.

*“Kurier Poranny”, №6, 2002*
*Падрыхтаваў А.Мялешка*

# першая справаздача
# “ПАРТНЭРСТВА БЯЗЬ МЕЖАЎ”

**Напачатку лістапада 2002 году завершыўся праект “Павышэньне эфектыўнасьці дзейнасьці беларускіх Чарнобыльскіх ініцыятываў у межах беларускага заканадаўства дзеля разьвіцьця беларуска-нямецкай каапэрацыі”, які рэалізоўваўся Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі сумесна з Цэнтрам адукацыі дарослых Аб’яднаньня пратэстанцкіх цэркваў зямлі Гесэн-Насау. Праект ладзіўся ў межах Праграмы падтрымкі Беларусі Фэдэральнага Міністэрства эканамічнага супрацоўніцтва і разьвіцьця Германіі.**




Рэалізаваўся праект пры падтрымцы Цэнтру сацыяльных інавацыяў, Незалежнага Таварыства прававых дасьледаваньняў, Гомельскага абласнога дабрачыннага аб’яднаньня “Сьлед Чарнобыля”, Баранавіцкага гарадзкога аддзяленьня Беларускай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам. Трохдзённыя сэмінары “Партнэрства бязь межаў” былі арганізаваныя ў Гомелі і Баранавічах, падчас якіх удзельнікі атрымалі вычарпальную інфармацыю па пытаньнях:

— асновы заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія датычацца дзейнасьці грамадзкіх аб’яднаньняў, што працуюць у сацыяльнай і гуманітарнай сфэры, асабліва з улікам іх міжнароднага супрацоўніцтва;

— прынцыпы распрацоўкі стратэгіі фінансаваньня і атрыманьня сродкаў на арганізацыю праектаў, а таксама прынцыпы іх арганізацыі;

— магчымыя формы работы з прадстаўнікамі дзяржаўнай улады ва ўмовах Беларусі;

— разьвіцьцё прынцыпаў грамадзянскай супольнасьці ў наладжваньні партнэрскіх сувязяў;

— распрацоўка прапановаў па разьвіцьці супрацоўніцтва зь нямецкімі ініцыятывамі.

Каб ахапіць як мага больш шырокі спэктар чарнобыльскіх і сацыяльных групаў Гомельскай і Берасьцейскай абласьцей, арганізатары выкарыстоўвалі ажно тры сьпісы. Першы ўключаў у сябе ўдзельнікаў Канфэрэнцыі нямецка-беларускіх партнэраў, што працуюць па Чарнобыльскім пытаньні, якая адбылася ў Франкфурце-на-Майне ў траўні 2000 году. Другі сьпіс быў прадстаўлены Гомельскім рэсурсавым цэнтрам “Грамадзянскія ініцыятывы” і ўключаў усе арганізацыі Гомельскай вобласьці сацыяльнага накірунку дзейнасьці. Трэці сьпіс быў складзены на аснове базы дадзеных арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА Беларусі.

Асноўнымі крытэрыямі пры адборы ўдзельнікаў былі:

— адзін з кірункаў дзейнасьці арганізацыі мусіць быць скіраваны на пераадоленьне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы;

— пажадана мэць нямецкага партнэра ці імкнуцца да наладжваньня партнэрскіх сувязяў з Германіяй.

Каля 70 арганізацыяў і ініцыятываў атрымалі анкету-заяўку на ўдзел у сэмінарах. 38 чалавек узялі ўдзел у сэмінарах. У сваіх анкетах актывісты чарнобыльскіх ініцыятываў пазначалі, што з дапамогай сэмінараў яны спадзяваліся пазнаёміцца зь іншымі чарнобыльскімі і сацыяльнымі НДА свайго рэгіёну, абмяняцца досьведам і наладзіць партнэрскія стасункі, а таксама ўдасканаліць дзейнасьць сваёй арганізацыі праз набыцьцё ведаў па распрацоўцы праектаў, атрыманьне інфармацыі пра патэнцыйных фундатараў і юрыдычных асновах дзейнасьці НДА.

Такім чынам, праграма абодвух сэмінараў была пабудаваная на стыку дзьвюх мэтаў — рэфлексіі і абмеркаваньня магчымых кірункаў супрацоўніцтва і арганізацыі навучаньня па асновах праектнай працы, фандрэйзынгу і юрыдычных нормах дзейнасьці НДА ў Беларусі.

Самі ўдзельнікі сэмінараў адзначылі, што для іх найбольш важнымі вынікамі праекта сталі:

— знаёмства прадстаўнікоў чарнобыльскіх і сацыяльных НДА паміж сабой;

— асэнсаваньне прыналежнасьці да арганізацыяў аднаго накірунку, неабходнасьці сумеснай працы як па выкананьні канкрэтных праектаў, так і для лябіраваньня і адстойваньня сваіх інтарэсаў;

— атрыманьне дадатковых ведаў, якія могуць быць выкарыстаныя для разьвіцьця арганізацыі, а таксама шэраг дробных і буйных як групавых, так і пэрсанальных адкрыцьцяў.

Вынікам праекту стала выданьне ўнікальнага ў сваім родзе “Даведніка партнэрства”, які ўключае ў сябе сьпіс беларускіх Чарнобыльскіх арганізацыяў зь Берасьцейскай і Гомельскай абласьцей і нямецкіх Чарнобыльскіх ініцыятываў з кароткім апісаньнем іх дзейнасьці, прапановамі па магчымым супрацоўніцтве і кантактамі, матэрыялы па стратэгіях пошуку і прыцягненьня фінансавых сродкаў для рэалізацыі партнэрскіх праектаў, а таксама аналіз крыніцаў фармаваньня грашовых сродкаў і маёмасьці грамадзкіх аб’яднаньняў з пункту гледжаньня беларускага заканадаўства. Гэтая брашура выдадзеная на дзьвюх мовах – беларускай і нямецкай, і павінна дапамагчы Чарнобыльскім ініцыятывам зь Беларусі і Германіі ў іх супольнай працы і пошуку партнэраў.

Вынікі праекту і “Даведнік партнэрства” выклікалі вялікую цікаўнасьць на штогадовай сустрэчы дабрачынных групаў зямлі Гесэн-Насау, што адбылася ў Франкфурце 9 лістапада 2002 г.

Мы спадзяемся, што кантакты, якія ўсталяваліся паміж арганізацыямі і асобамі, зробяцца падмуркам для далейшай каапэрацыі, а інфармацыя і веды, атрыманыя ўдзельнікамі, паспрыяюць усталяваньню ў іх дзейнасьці прынцыпова новых спосабаў супрацоўніцтва, а таксама дасягненьню імі эфэктыўнай дзейнасьці ў сваёй галіне.

## ГРАНТЫ ДЛЯ ЭКАЛЯГІЧНЫХ НДА АД КАРПАРАЦЫІ «ISAR,INC»

Прадстаўніцтва некамэрцыйнай карпарацыі «ISAR,Inc» (ЗША) у Беларусі ў межах праграмы малых грантаў «Умацаваньне пазыцыяў грамадзкіх арганізацыяў Беларусі ў прыняцьці экалягічна значных рашэньняў» абвяшчае конкурс праектаў грамадзкіх аб'яднаньняў Беларусі.

У межах праграмы прадугледжваецца выдзяленьне фінансавай дапамогі беларускім арганізацыям на рэалізацыю праектаў. Канкрэтнымі элемэнтамі дзейнасьці могуць быць: выданьне інфармацыйных матэрыялаў; разьвіцьцё інфармацыйных сетак у сфэры экалёгіі, дзейнасьць інфармацыйных экалягічных цэнтраў; прававыя аспэкты экалёгіі; экалягічны маніторынг, грамадзкая экалягічная экспэртыза; папулярызацыя экалягічных мэтадаў гаспадараньня; захаваньне дзікай прыроды і прыродных ляндшафтаў, разьвіцьцё асабліва важных прыродных аб'ектаў.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца зарэгістраваныя грамадзкія арганізацыі. Навукова-дасьледчыя, тэхнічныя праекты і тыя, што прадугледжваюць палітычную і камэрцыйную дзейнасьць, у межах праграмы не фінансуюцца.

Праграмай прадугледжваецца выдзяленьне грантаў двух тыпаў: звычайны грант (да $3 000) і дыскрэтны грант ($500), прызначаны для выкананьня праектаў, што патрабуюць тэрміновага выдзяленьня сродкаў.

Тэрмін падачы заяваў на атрыманьне звычайнага гранту — не пазьней за 15 сьнежня 2002 г. (для разгляду на пасяджэньні Рады экспэртаў 18-19 студзеня 2003 г.).

Заявы накіроўваюцца па пошце альбо непасрэдна прыносяцца ў офіс прадстаўніцтва. Па факсе і электроннай пошце заявы не прымаюцца.

**Адрас прадстаўніцтва «ISAR,Inc»: 220004, Менск, вул. Замкавая, д. 26, кв. 16. Дадатковая інфармацыя: тэл./факс 223 84 98.**

**E-mail:belisar@solo.by.**

**Час працы: з 11.00 да 13.00 і зь 15.00 да 17.00 (панядзелак — пятніца).**

***Паводле рассылкі Barcnews***

## INTERNATIONAL PHILANTHROPY FELLOWS PROGRAM (2003-2004 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД)

**Арганізатары: Johns Hopkins Institute for Policy Studies, Center for Civil Society Studies**

**Месца: Балтымор, Мэрылэнд, ЗША**

Праграма прадастаўляе магчымасьць дадатковага навучаньня, правядзеньня дасьледаваньняў, трэнінгаў. Яна накіраваная на супрацоўнікаў неамэрыканскіх няўрадавых арганізацыяў, дабрачынных фундацыяў.

За больш дэтальнай інфармацыяй зьвяртайцеся: *Carol Wessner (cwessner@jhu.edu)*

**Падрабязная інфармацыя таксама зьмешчаная на сайце: http://www.jhu.edu/~philfellow**

## СТЫПЭНДЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА “НОВЫЯ ГАЛАСЫ”

Арганізацыя: Peace Brigades International USA

Гэтая праграма аказвае падтрымку маленькім няўрадавым арганізацыям у іх умацаваньні і паляпшэньні працы шляхам павелічэньня штату супрацоўнікаў, якія валодаюць новымі важнымі для арганізацыі навыкамі і кампэтэнтнасьцю.

Абавязковае патрабаваньне — наяўнасьць у аплiканта вышэйшай адукацыі і досьведу працы ў няўрадавых арганізацыях.

**Дэдлайн — 15 студзеня 2003 г.**

**Падрабязная інфармацыя зьмешчаная на сайце: http://newvoices.aed.org/**

**Адрас арганізацыі:**
**Peace Brigades International USA**
**428 8th St. SE Washington, DC 20003**
**Tel: 202-544-3765 Fax: 202-544-3766**
**info@pbiusa.org**
**http://www.peacebrigades.org**

## ПАРТНЭРСТВА

Украінскі дабрачынны фонд “Патэнцыял”

Арганізацыя шукае партнэра ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе — сацыяльную службу НДА, што працуе для бяздомных і бедных людзей, — з мэтай абмену досьведам, ведамі ды ідэямі і для ініцыяваньня сумесных сацыяльных праектаў і праграмаў.

Дзейнасьць “Патэнцыялу”: **забесьпячэньне прадуктамі, адзеньнем, прытулкам, мэдыцынскай дапамогай і псыхалягічнымі кансультацыямі бяздомных і бедных людзей;**

арганізацыя сацыяльнай рэабілітацыі і адвакацкіх праграмаў для бяздомных і бедных людзей.

**Кантакты**
**International Charity Fund «Potential»**
**Gonimova prospect, 31, Donetsk, Ukraine**

# Сьвяты Мікола “зробіць лепш!”

Кампанія “Зробім лепш!”, што пасьпяхова прайшла ўлетку, працягваецца. Пытаньне, у якой форме трэба ладзіць другую частку “Зробім лепш!”, адкрытае.

Гэты тэкст - прапанова Экспэртнай групы пры Выканаўчым бюро па правядзеньні кампаніі.

Каляды і Новы год - гэта тая пара, калі ўсе чакаюць падарункаў і чагосьць незвычайнага. Безумоўна, больш за ўсіх падарункаў чакаюць дзеці. Але ў Беларусі сёньня шмат дзяцей, для якіх атрымаць добры падарунак ці нават пачак цукерак - амаль недасяжная мара. Гэта хворыя дзеці, дзеці-сіроты, дзеці са шматдзетных ці малазабясьпечаных сем’яў, зь сем’яў бежанцаў ці пацярпелых ад рэжыму. ***Прыйдзем да іх і паспрабуем зрабіць іхнае жыцьцё трохі лепшым: разьвесялім канцэртам, пачастуем ласункамі, парадуем цацкай.*** Ня трэба дарагіх падарункаў і шыкоўных канцэртаў, самае лепшае - падарунак ад сэрца. ***Правядзем “Апэрыцыю “Сьвяты Мікола”*** - зробім лепш!

Мы можам падарыць дзецям казку, калі прыйдзем да іх у школы, шпіталі, дзіцячыя садкі і дамы, месцы зьняволеньня непаўналетніх ці проста ў жылыя масівы.

***Акцыя можа быць праведзеная цалкам пры дапамозе ўнутраных рэсурсаў і мясцовых фундатараў.*** У рамках кампаніі можа быць наладжаны збор падарункаў для дзяцей сярод сяброў арганізацыі, у школах, у фірмах, сярод насельніцтва. Збор падарункаў “ад сьвятога Міколы” можа быць арганізаваны як частка акцыі, напрыклад, у форме абмену падарункаў на сымболіку “Зробім лепш!”. Падарункі можна таксама зрабіць самастойна.

Экспэртная група прапануе зладзіць конкурс на лепшую акцыю “Апэрацыя “Сьвяты Мікола” па агульных выніках.

Калі вы адчуваеце адказнасьць за сёньняшні стан і будучыню нашага грамадзтва, рабіце казку для беларускіх дзетак разам зь сябрамі сацыяльных і моладзевых грамадзкіх арганізацыяў. ***Дабро, якое вы падорыце, абавязкова вернецца да вас!***

Мы заклікаем вас выказацца па прапанаванай акцыі. Свае меркаваньні накіроўвайце ў Выканаўчае бюро Асамблеі НДА ці ў рэдакцыю “Бюлетэня”.



# Польскія НДА супраць карупцыі



# мафія — несьмяротная?

**Польская праграма "Супраць карупцыі" — яшчэ адна пасьпяховая кампанія, зладжаная прадстаўнікамі НДА ў посткамуністычным рэгіёне. Шырокамаштабная, добра прафінансаваная (прынамсі, па нашых мерках), яна засьведчыла новы этап разьвіцьця польскага "трэцяга сэктару", які паспрабаваў вырашыць праблему, што для большасьці краінаў пераходнага пэрыяду, а тым больш з савецкім мінулым, надзвычай актуалізавалася на ўзроўнях усіх сэктараў. Пры гэтым стала вельмі важна данесьці наступствы праблемы карупцыі да звычайнага абывателя, які раней разглядаў яе як апрыёрную характарыстыку любога дзяржаўнага строю.**




Хутчэй за ўсё, правядзеньне падобнай кампаніі ў Беларусі зробіцца магчымым толькі пасьля зьмены рэжыму. Тым ня менш, досьвед "Супраць карупцыі" нам падаецца вельмі цікавым і паказальным у пляне распрацоўкі і пабудовы той жа мэдыяльнай кампаніі. На жаль, беларускія НДА ня могуць сабе дазволіць нават дзясятай часткі таго, што робяць польскія калегі, але гэта тым больш карысна разглядаць у якасьці магчымай пэрспэктывы, прынамсі, што тычыцца прафэсійнай арганізацыі працы з мэдыямі.

### Апісаньне праблемы

Маладая польская дэмакратыя стаіць перад рознымі відамі небясьпекі, але адной з самых важных зьяўляецца карупцыя ў дзяржаўных органах. Адсутнасьць мэханізмаў пасьпяховага грамадзкага кантролю ўлады прыводзіць з аднаго боку да карупцыі сыстэмы, а з другога — да нарастаньня пачуцьця бясьсільля ў шырокіх колах грамадзтва. Гэта вельмі небясьпечная зьява, якая ў выніку можа прывесьці альбо да татальнага карумпаваньня сыстэмы (усе моўчкі прымаюць за правіла, што бяз хабару, працэнту ад кантакту і г.д. нічога нельга дабіцца), альбо да ўсталяваньня ў грамадзтве пачуцьця, што ўлада злая, амаральная, і трэба ад яе адвярнуцца, не зважаць на яе.

Паводле вызначэньня Сусьветнага банку, карупцыя — гэта "ўжываньне дзяржаўных пасадаў для дасягненьня ўласнай карысьці. Прыватная карысьць можа набываць грашовую альбо рэчавую формы, але ня толькі — яна можа праяўляцца таксама празь лябіяваньне прыбытковых пасадаў, праз гарантаваньне доступу да важнай агульнанедасяжнай інфармацыі родным і знаёмым той асобы, што ажыцьцяўляе публічную ўладу".

"Global Programme Against Corruption" пад эгідай ААН адрозьнівае некалькі відаў карупцыі. Апрача "Street-level" — дзяржкарупцыі — вядомая карупцыя найвышэйшай ступені цэнтральнай улады — фінансавая, палітычная і адміністрацыйная, — а таксама карупцыя ў бізнэсе. Палітычная карупцыя адрозьніваецца тым, што ўлада ўжываецца для дасягненьня партыйнай карысьці: палітыкі, што яе выконваюць, прыцягваюць рознага тыпу "аплаты" на карысьць рэпрэзэнтаваных сабой партыяў ці прызначаюць пасады паводле партыйнага ключа, з парушэньнем мэрытарычных крытэрыяў.

Трэба пагадзіцца з прафэсарам Лешакам Бальцаровічам у тым, што карупцыя шкодзіць разьвіцьцю гаспадаркі некалькімі спосабамі:

1. Зьвязаныя з карупцыяй "аплаты" зьяўляюцца de facto дадатковым падаткам, які зьніжае здольнасьць прадпрыемстваў інвэставаць грашовыя сродкі, а з гэтай прычыны не ствараюцца новыя працоўныя месцы;
2. Карупцыя можа парушаць дзяржаўныя фінансы і праз гэта шкодзіць разьвіцьцю гаспадаркі. Галоўнай небясьпекай зьяўляецца тады вялікі дэфіцыт, які пераўзыходзіць працэнтныя нормы і павялічвае дзяржаўную пазыку;
3. Карупцыя аслабляе канкурэнцыю;
4. Вялікая карупцыя адпужвае вельмі важных замежных інвэстараў.

Распачынаючы адукацыйныя дзеяньні і інфармацыйную кампанію, арганізатары праграмы "Супраць карупцыі" хацелі сфармаваць грамадзкую сьвядомасьць, якая бачыла б неабходнасьць маральнай улады, улады, што была б абсалютна празрыстай для грамадзкага кантролю.

Другі важны бок праграмы — заканадаўства. Актывісты кампаніі імкнуцца прапанаваць зьмены ў польскім праве такім чынам, каб легалізаваць большы ўдзел грамадзкасьці ў прыняцьці антыкарупцыйных рашэньняў.

Падтрымка незалежных мэдыяў, што маюць на мэце сумленна кантраляваць пачынаньні ўладаў — гэта наступны прыярытэт праграмы "Супраць карупцыі". У Польшчы штораз распаў-

сюджваецца перакананьне ў тым, што выкрывальныя антыкарупцыйныя артыкулы не прыносяць ніякай карысьці перш за ўсё з прычыны наўпроставай сувязі працы СМІ з канкрэтнымі палітычнымі суб'ектамі. Хаця амаль ніякая газэта ці часопіс не зьяўляюцца фармальна партыйнымі, большасьць галоўных мэдыяў маюць выразныя палітычныя сымпатыі.

З амэрыканскага досьведу, нашмат большага за польскі, вынікае, што "адкрыцьцё праўды" нават самым паважаным журналістам звычайна не прыводзіць да рэакцыі асобы ці інстытуцыі, дзейнасьць якой раскрываецца. Толькі падтрымка іншага палітычнага погляду, іншых мэдыяў, якія пастаянна вяртаюцца да гэтай тэмы, можа прынесьці пажаданы эфэкт. Таму трэба думаць пра супольную кааліцыю супраць карупцыі; трэба стымуляваць масавы, апартыйны ціск мэдыяў, які паказвае сапраўдныя праявы карупцыі.

Апошняй сфэрай дзейнасьці праграмы будзе пабуджэньне і падтрымка грамадзянскіх рухаў на карысьць пабудовы грамадзкага даверу ўладам і грамадзкага кантролю ўлады.

Яшчэ адной магчымасьцю стварыць грамадзянскі антыкарупцыйны "фронт" зьяўляюцца накіраваныя на абарону правоў спажыўца аб'яднаньні. Прыкладам такой у ЗША ёсьць арганізацыя «Public Citizen». Галоўная тэза арганізацыі — за кожнае карупцыйнае дзеяньне ў выніку расплачваецца спажывец. Калі нейкая дзяржпастанова нараджае сур'ёзныя падазрэньні ў фармаваньні выразна спрыяльнага клімату для пэўнай групы грамадзянаў, арганізацыя пачынае дзейнічаць: стартуюць дасьледаваньні праблемы, замаўляюцца экспэртызы і г.д. Калі іх падазрэньні пацьвярджаюцца, гэтая экспэртыза кладзецца ў аснову адмысловага рапарту, які даступны простым спажыўцам. Далей ствараецца кааліцыя, нярэдка з партнэрамі, якія ў іншых варунках могуць быць праціўнікамі, даецца старт адукацыйнай і прапагандысцкай кампаніі, што ажыцьцяўляецца валянтэрамі.

Іншай, тыпова амэрыканскай кампаніяй зьяўляецца гэтак званы рух «whistleblowers», падтрыманы "Government Accountability Project" (GAP). "Whistleblowers" — гэта асобы, якія працуюць у дзяржаўных альбо бізнэсовых інстытуцыях; яны, заўважыўшы парушэньне права, пастанавілі перарваць групавую салідарнасьць ці салідарнасьць асяродзьдзя і пачалі гаварыць пра гэтыя парушэньні. Размова вядзецца пра такія выпадкі, як, напрыклад, будоўля атамнай электрастанцыі з парушэньнем прынцыпаў бясьпекі, вынішчэньне прыроды, парушэньне эмбарга на продаж зброі, карупцыя і г.д. "Whistleblowers" звычайна канфліктуюць з працадаўцамі, і тады GAP стараецца ім дапамагчы, напрыклад, забясьпечвае юрыдычную дапамогу ў судах.




Аднак іх галоўнай мэтай зьяўляецца агалошваньне праблемы, якую паднялі "сыгналіты". Дзеля гэтага распачынаецца мэдыяльная кампанія, адбываецца супрацоўніцтва зь лякальнымі грамадзянскімі арганізацыямі і прафсаюзамі. Гэта вельмі няпроста, асабліва калі мэты "сыгналістаў" не супадаюць зь інтарэсамі арганізацыі. Напрыклад, у рэгіёне пачынаецца будаўніцтва атамнай станцыі; грамадзкая арганізацыя выступае супраць гэтых дзеяньняў, у той час як "сыгналісты" — за захаваньне санітарных, экалягічных і іншых нормаў бясьпекі пры будоўлі. Самым крытычным момантам зьяўляецца заручэньне падтрымкай і салідарнасьцю асяродзьдзяў.

Прыведзеныя вышэй магчымасьці дзеяньня грамадзянскіх групаў падаюцца ў сёньняшніх польскіх умовах значна менш карыснымі — ня думаю, каб хутка знайшліся грамадзкія групы, якія б захацелі займацца гэтым відам дзейнасьці.

### ДЗЕЙНАСЬЦЬ У РАМКАХ ПРАГРАМЫ

З мэтай фармаваньня грамадзкай сьвядомасьці было зроблена:

— праведзеная акцыя "Правер празрыстасьць сваёй гміны" — адмыслова падрыхтаваныя мадэлі "Празрыстай гміны" і фармуляры былі разасланыя лякальнай прэсе, асобам, што бяруць удзел у грамадзкай дзейнасьці;

— праведзены конкурс на лепшыя студэнцкія працы, якія раскрываюць тэму карупцыі ў праўным, грамадзкім, этычным альбо эканамічным аспэктах;

— падтрыманая студэнцкая арганізацыя AEGEE, якая стварае "антыкарупцыйныя хэпінігі" ў 5 варшаўскіх ВНУ;

— скончаны 4-гадовы праект, датычны назіраньня за выбарчымі абяцаньнямі, рэалізаваны супольна з Transparency International (Польшча), Фудацыяй грамадзкай камунікацыі і Хельсінскай Фундацыяй правоў чалавека. Ён быў распачаты грамадзянскай акцыяй збору подпісаў пад лістом да палітыкаў. 43 645 подпісаў перададзена 5 чэрвеня ў Прэзыдыюм польскага Сэйму. У выбарчыя камітэты былі разасланыя апытальнікі, што тычыліся канкрэтных праграмаў супрацьдзеяньня карупцыі. Пазьней адбылася прэс-канфэрэнцыя, дзе шырокай грамадзкасьці былі прэзэнтаваныя вынікі апытаньняў, сабраныя ў брашуры.

**З мэтай прапановаў зьменаў у заканадаўстве было праведзена:**

— канфэрэнцыя "Канфлікт інтарэсаў у самакіраваньні — апісаньне сытуацыі, прапановы вырашэньня праблемы";

— праграма праўнай дапамогі людзям, пацярпелым ад карупцыі, якая праводзілася супольна з Хельсінскай Фундацыяй правоў чалавека.

**З мэтай падтрымкі незалежных мэдыяў:**

— аб'яўлены конкурс сярод журналі-

стаў “Толькі рыба не бярэ?”, асноўная тэма якога — карупцыя;

— аказаная дапамога рэдакцыі Польскага Радыё ў рэалізацыі цыклю рэпартажаў па антыкарупцыйнай тэме;

— Былі запрошаныя рэдакцыі лякальнай прэсы да правядзеньня ўласнай акцыі “Антыкарупцыйныя дні”.

Па выніках праграмы “Праўная Ґазэта” ўручыла Фундацыі імя Стэфана Баторыя “Залаты Параграф” за заслугі ў супрацьдзеяньні карупцыі.

### ПАДСУМАВАНЬНЕ МЭДЫЯЛЬНАЙ КАМПАНІІ

Праграма “Супраць карупцыі“ ў супрацоўніцтве з Фундацыяй грамадзкай рэклямы (цяпер Фундацыя грамадзкай камунікацыі) распачала адукацыйную мэдыяльную кампанію. Мэтай кампаніі было ўмацаваньне на ўзроўні грамадзкай сьвядомасьці праблемы карупцыі і неабходнасьці супрацьстаяць ёй, а таксама патрэбы асабістага далучэньня да барацьбы з гэтай зьявай.

Кампанія выкарыстала розныя інфармацыйныя носьбіты: більборды, сіці-лайты, радыё— і тэлерэкляму, паштоўкі, публікацыі ў прэсе, а таксама такія формы, як курсы, дыскусіі карыстальнікаў інтэрнэту, прэс-канфэрэнцыі і інш.

“Нашай мэтай было зьвярнуць увагу палякаў на індывідуальную адказнасьць кожнага з нас перад праблемай карупцыі. Праблема складаная, і ніхто не сьцьвярджае, што мы зможам яе вырашыць адной кампаніяй. Фільм, плякат і радыёрэклама — гэта адзіны інструмэнт, які ўжывае праграма “Супраць карупцыі”, каб інфармаваць пра пачатак сваёй стратэгічна расплянаванай, доўгатэрміновай і рознабаковай дзейнасьці”, — тлумачыць Агата Стафэй, прэс-сакратар Фундацыі грамадзкай рэклямы.

### ПАДРЫХТОЎКА

Для працы над мэдыяльнай кампаніяй “Супраць карупцыі” Фундацыя грамадзкай камунікацыі (ФГК) стварыла Стратэгічную групу з экспэртаў і прафэсіяналаў у галіне мэдыяў, рэклямы і public relations.

Пры супрацоўніцтве кансультантаў Лешка Стафэя і Андрэя Длугаша ФКГ распрацавала адмысловую дырэктыву для рэалізацыі праекту, якая была разасланая 150 рэклямным агенцыям, відэа— і радыё-студыям, а таксама крэатыўным групам па ўсёй Польшчы.

Арганізатары конкурсу атрымалі 30 заяваў з больш як 60 праектамі. Стратэгічная група выбрала для рэалізацыі праект рэклямнай агенцыі Ozon, якая занялася бясплатнай распрацоўкай кампаніі з пункту погляду дызайну і крэатуры. Лёзунг кампаніі быў абраны згодна зь меркаваньнем кансультантаў, а таксама па выніках інтэрнэт-анкетаваньня.

**Рэалізацыя** — *більборды, сіці-лайты*: на вуліцах вялікіх гарадоў Польшчы (Варшава, Кракаў, Познань, Уроцлаў, Гданьск, Гдыня, Чэнстахова, Быдгашч, Люблін, Шчэцін, Ґожаў Вялікапольскі, Ольштын, Лодзь) было расклеена каля 200 вялікафарматных плякатаў. Вертыкальныя плякаты былі на 150 падсьвечаных носьбітах тыпу citylight на прыпынках у Варшаве, а таксама на 20 носьбітах тыпу citylight на закругленых падсьвечаных слупах у Варшаве, Кракаве, Уроцлаве і Познані.

— *паштоўкі*: фірма Dobre Media надрукавала і бясплатна дыстрыбутавала больш як 45 тыся-

давeдка



**Праграма ”Супраць карупцыі” паўстала ў студзені 2000 году як супольнае пачынаньне Фундацыі імя Стэфана Баторыя і Хельсінскай Фундацыі правоў чалавека. Ґэтая праграма зьяўляецца пачынаньнем доўгатэрміновым, накіраваным на фармаваньне фундамэнту для далейшай дзейнасьці.**

**Мэта праграмы — пабудова грамадзкага даверу да дзяржаўных інстытуцыяў і супрацьдзеяньне карупцыі.**

**Перад кампаніяй “Супраць карупцыі” фірма рынкавых і грамадзкіх дасьледаваньняў DEMOSKOP правяла дасьледаваньне публічнай думкі. Рэспандэнтам было зададзена 8 пытаньняў, адказы на якія павінны былі паказаць тое, што палякі лічаць карупцыяй, які яны маюць досьвед, зьвязаны з карупцыяй і ці можна зь ёй змагацца.**

**З дасьледаваньняў вынікала: “большасьць палякаў (66%) ня верыць, што звычайныя людзі могуць уплываць на памяншэньне карупцыі. [...] Каля адной трэцяй (29%) палякаў лічыць, што звычайныя людзі могуць уплываць на памяншэньне карупцыі. На іх думку, найлепшы спосаб змаганьня з карупцыяй — ня браць у ёй удзел ці не прымаць і не даваць хабар (25%) [...]. Абсалютная большасьць палякаў ня ведае ніякіх інстытуцыяў альбо арганізацыяў, што дзейнічаюць супраць карупцыі (92%) [...]. Толькі 8% палякаў змаглі пералічыць назвы інстытуцыяў, якія дзейнічаюць супраць карупцыі. Найчасьцей узгадвалі паліцыю (3%) і NIK (3%).**

чаў паштовых картак, якія патрапілі ў кінатэатры, тэатры і рэстарацыі ў чатырох гарадах (Варшава — 39 месцаў, Кракаў — 13, Познань — 24, Уроцлаў — 22). Карткі з паменшанай вэрсіяй плякату ўтрымлівалі кароткую інфармацыю па праграме “Супраць карупцыі“ і заахвочвалі да ўдзелу ў антыкарупцыйных дзеяньнях. Акрамя таго, Праграма замовіла друк пяці тысячаў паштовак, якія рассылала самастойна: каля 2 500 картак выслалі да лякальных газэтаў і недзяржаўных арганізацыяў.

— *інфармацыйныя пакеты, улёткі*: 400 інфармацыйных пакетаў, што ўтрымлівалі інфармацыю аб праграме, мэдыяльнай кампаніі і паняцьці “карупцыя“, былі раздадзеныя галоўным чынам сярод прадстаўнікоў прэсы.

Было надрукавана 3000 улётак, якія інфармавалі, што трэба рабіць у сытуацыі сутыкненьня з карупцыяй.

— *інтэрнэт-старонка*: была створаная старонка http://www.przeciw-korupcji.org.pl, на якой можна знайсьці ўсю інфармацыю аб праграме і мэдыяльнай кампаніі, а таксама падрыхтаваныя па замове дасьледаваньні і публікацыі.

— *радыёкампанія*: да яе далучыліся наступныя агульнапольскія радыёстанцыі: Праграма 1 і 3 Польскага Радыё, Radio Bis, Radio ZET, Radio Kolor. Studio Reportaïu i Dokumentu Polskiego Radio выявіла гатоўнасьць да супрацоўніцтва, якое палягала ў тым, што адкрываўся спэцыяльны нумар тэлефона, куды слухачы накіроўвалі свае просьбы, звароты, скаргі, зьвязаныя з карупцыяй. Група рэпартэраў распрацоўвала сэрыю рэпартажаў па дадзенай тэматыцы.

Апрача таго, больш як 30 лякальных радыёстанцыяў атрымалі ад Праграмы інфармацыйныя пакеты, што ўтрымлівалі CD зь дзьвюма вэрсіямі радыёспотаў. Да пакету былі далучаныя прапановы сцэнараў на радыёдзень барацьбы з карупцыяй. Больш як 20 радыёстанцыяў далучыліся да акцыі “Супраць карупцыі“, праводзячы радыёспатканьні, наўпроставыя лініі і міні-рэпартажы. Каля 15 радыёстанцыяў бясплатна пракруцілі спот “Супраць карупцыі“.

— *тэлекампанія*: да яе далучыліся TVP 1 , RTL 7, а таксама TVN. Трыццацісэкундны тэлевізійны спот быў трансьляваны па RTL 7 — 3 трансьляцыі на дзень на працягу ўсяго жніўня, TVN — 4 — трансьляцыі на працягу 27 дзён у ліпені і жніўні, а таксама па TVP 1 — спарадычна.

### ВОДГУКІ НА КАМПАНІЮ

Кампанія была прадстаўленая амаль у 50 штодзёньніках і штотыднёвіках Польшчы, агулам — каля 100 артыкулаў у цэлым краі. Працаўнікі праграмы “Супраць карупцыі” і ФГК далі больш як 25 інтэрвію для цэнтральнай і рэгіянальнай прэсы, а таксама больш як 40 радыёінтэрвію.

Хаця нумар тэлефона праграмы ня быў пададзены, а працавалі толькі паштовая скрыня і e-mail, праграма атрымала больш за 100 лістоў і амаль у два разы больш тэлефанаваньняў ад асобаў, якія сутыкнуліся з карупцыяй і хацелі пра гэта распавесьці, а таксама больш за 40 заяваў ад асобаў, што хацелі актыўна далучыцца да антыкарупцыйных дзеяньняў.

### КОШТ КАМПАНІІ

На кампанію было выдаткавана USD 44000, якія паходзяць з датацыяў Фундацыі Форда і Democracy Commision Small Grants, а таксама зь фінансавай падтрымкі Сусьветнага банку.

На момант першых фінансавых падсумаваньняў праграмы нельга назваць агульны кошт кампаніі, бо не былі ўлічаныя ўсе выдаткі на мэдыяльную кампанію: час трансьляцыі, месца ў більбордах, праца творчых групаў.

*Пераклаў на беларускую мову Віктар Іваноў, паводле http://www.przeciw-korupcji.org.pl*

# Лічбы пішуцца лічбамі

## Прэс-рэліз вачыма журналіста

Вольга Шастакова,
**журналістка “Комсомольской правды в Белоруссии”**

“Дурная гэта задума — распавядаць пра тое, як пісаць прэс-рэлізы, – уздыхнуў знаёмы журналіст. – Пра гэта кажуць не адзін год, а інфармацыя для СМІ ад НДА, на жаль, лепшай ня робіцца”. Згаджаюся адразу…

У нашай газэце тэма “Моладзевыя арганізацыі” — мая ўлюбёная, але зусім не таму, што лёгкая. Проста мне пашанцавала: я адначасова журналіст і NGOшнік (апошняе, на шчасьце, ня вельмі адбіваецца на якасьці маіх матэрыялаў). Але ў гэтым артыкуле я ў першую чаргу журналіст, а таму адкінем непатрэбныя сантымэнты і пачнем.

Скажыце, хто каму больш патрэбны: прэс-сакратар НДА і яго важная пэрсона журналісту, ці ўсё-такі водгук у газэтах — арганізацыі? На карысьць першага варыянту вы можаце колькі заўгодна гаварыць, што журналістам за гэта плацяць, а таму яны самі зацікаўленыя — забудзьце! Я магу напісаць пра што-небудзь іншае, а вось калі пра вас ніхто ведаць ня будзе, то каму вы тады патрэбныя?

Памятайце: ВАМ трэба даць гэтую інфармацыю МНЕ і зрабіць гэта так, каб я адразу ж кінулася шукаць падрабязнасьці і рабіць матэрыял.

Вам трэба дабіцца выніку, і першы крок да яго — граматны прэс-рэліз. Для “Комсомолки” ў гэты панятак уваходзіць шмат складнікаў.

1. Актуальнасьць. Занятыя рэалізацыяй праектаў таварышы з НДА жывуць у страшэнным цэйтноце, але вам, спадар Прэс-сакратар / адказны за інфармацыю чалавек, да гэтага няма ніякай справы. Ідэальны варыянт для мяне — інфармацыя прыкладна за тыдзень, калі штодзённік яшчэ не запоўнены пад завязку. Ці, калі вам патрэбны артыкул “па факце” — адразу на наступны дзень пасьля падзеі.

2. Звычайна я вызначаю, ці буду працаваць з гэтай інфармацыяй, прачытаўшы літаральна некалькі сказаў. Таму прэс-рэліз павінен “чапляць” адразу, пачынаючы ад загалоўку. Ён можа быць крыху “не па сутнасьці” — галоўнае, каб ён прыцягваў увагу. Выдатна, калі сьледам ідзе такі ж лід (падзагаловак) ці проста першы абзац. Ён павінен утрымаць увагу, таму што далей могуць і не прачытаць — ці выкінуць, ці пачнуць працаваць.

3. Я абавязкова адрэагую на:

— вядомыя імёны, і чым болей, тым лепей;

— маштабнасьць падзеі (“сотні людзей”, “тысячы даляраў”, “велізарны посьпех”, “вялікая будучыня” і г.д.);

— унікальнасьць (у тэксьце: “упершыню”, “ніколі раней” і г.д.);

— проста “завлекалочки” для журналістаў: намёк на эксклюзіў, кароткія гісторыі зь імёнамі, падборка зь цікавымі лічбамі.

4. Сачыце за мовай!!! Сказы ў NGOшных прэс-рэлізах працягласьцю ў жыцьцё, а інфармацыя такая сухая, што хрумсьціць на зубах. Я з-за спэцыфікі працы ўсё вытрымаю — нават да манэраў сяброў грамадзкіх арганізацыяў прызвычаілася, але чытачы (і іншыя журналісты) нізавошта так пакутаваць ня будуць.

5. Прафэсійныя штампы заўсёды жахлівыя, але тут гэта проста як хвароба. NGOшнікі — адны з самых вясёлых, яркіх і цікавых людзей, зь якімі я сустракалася, ды і займаюцца яны досыць надзённымі праблемамі. А вось іх прэс-рэлізы — адны з самых сумных, мудрагелістых і нудных. Парадокс!



6. Клясычны прэс-рэліз павінен адказваць на пытаньні: хто — што — дзе — калі — як — чаму. І ў гэтым выпадку НДА павінны прытрымлівацца клясыкі.

7. Выражайцеся каротка. Пра тое, што мне трэба, я далей даведаюся сама — “Комсомолка” ня з тых газэтаў, што перадрукоўваюць прэс-рэлізы. Апошні — падстава, і зь яго ў матэрыял увойдзе літаральна некалькі сказаў. А вось чытаць два аркушы... Шчыра кажучы, на другі аркуш я наагул рэдка заглядаю — толькі ў пачатак і ў канец.

8. Хочаце быць упэўненыя — патэлефануйце. Запытайцеся, да каго трапіла інфармацыя, і ці дайшла яна да рэдакцыі наагул. У рэшце рэшт, вы не адзіны, хто даслаў у той дзень факс ці “мыла”, на вас маглі банальна забыцца.

У выніку добры прэс-рэліз:

1. Утрымлівае навіну;
2. Яго аб’ём не перавышае 2 старонак;
3. Тэкст у ім не “сьляпы” (падвоены інтэрвал паміж радкамі);
4. Насычаны фактамі і канкрэтнай інфармацыяй;
5. Прывязаны да канкрэтных датаў;
6. Напісаны кароткімі фразамі;
7. Ёсьць кантактная інфармацыя (тэлефон і прозьвішча);
8. Можна нават фота і іншыя ілюстрацыі.

**давeдка**

**ЧЫМ ЗВЫЧАЙНА ЗАЙМАЮЦЦА ПРЭС-САКРАТАРЫ НДА?**

**Арганізацыйнымі навінамі. Іх сутнасьць у тым, каб стымуляваць цікавасьць да той ці іншай падзеі, г.зн. ярка афарбаваная ці наўмысна драматызаваная інфармацыя, прасьцей кажучы, — штучная сэнсацыя.**

# НЕ — РЭПРЭСІЎНЫМ ЗАКОНАМ!

## *Зварот грамадзкага аб’яднаньня “Беларуская асацыяцыя журналістаў” да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь*



Irex/ProMedia

Мы занепакоеныя тым, што ў краіне права на свабоднае выказваньне меркаваньняў, атрыманьне і распаўсюд інфармацыі апынулася пад пагрозай крымінальнага перасьледу. Прызнаныя вінаватымі ў паклёпе на прэзыдэнта і асуджаныя журналісты гарадзенскай газэты “Пагоня” Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка, галоўны рэдактар газэты “Рабочы” Віктар Івашкевіч. У паклёпе на прэзыдэнта абвінавачваюць і вядомага палітыка Анатоля Лябедзьку.

Такія абмежаваньні свабоды слова — праблема ня толькі журналістаў і палітыкаў, але і ўсяго грамадзтва. У Беларусі склалася сытуацыя, калі крытычныя выступы на адрас любога прадстаўніка ўлады могуць расцэньвацца як злачынствы, адказнасьць за якія прадугледжваюць артыкулы “Паклёп на Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” (арт. 367 Крымінальнага кодэксу), “Абраза Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” (арт. 368 КК), “Абраза прадстаўніка ўлады” (арт. 369 КК). Максымальнае пакараньне, прадугледжанае гэтымі артыкуламі, — пазбаўленьне волі на тэрмін да 5 год.

Тым часам усебаковае і аб’ектыўнае інфармаваньне грамадзянаў пра дзейнасьць уладных структураў зьяўляецца неабходнай умовай дэмакратычнага разьвіцьця грамадзтва. Празь незалежныя СМІ забясьпечваецца адкрытасьць уладаў, рэалізуецца дыялёг, які вядзе да разуменьня і згоды ў краіне.

Улічваючы сур’ёзнае абвастрэньне адносінаў улады і прэсы, ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” выступае зь ініцыятывай правядзеньня агульнанацыянальнай кампаніі за адмену вышэйзгаданых артыкулаў Крымінальнага кодэксу. Ужываньне гэтых артыкулаў вядзе да забароны крытычных выступаў у СМІ, падмены свабоды слова свабодаю прапаганды, спрыяе бескантрольнасьці дзяржаўных чыноўнікаў.

Не — законам, якія спараджаюць рэпрэсіі, страх і самавольства ўладаў!

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” заклікае падпісацца пад гэтым зваротам усіх, хто хоча жыць у свабоднай дэмакратычнай краіне, мець права публічна выказваць свае меркаваньні і магчымасьць атрымліваць самую разнастайную інфармацыю.

Заўвага: **Ваш подпіс можа стацца падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю.**

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэксу “Паклёп на Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” (арт. 367), “Абраза Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь” (арт. 368) і “Абраза прадстаўніка ўлады” (арт. 369)**

Прозьвішча, імя, імя па бацьку______________

_____________________________________________

Год нараджэньня__________________________

Адрас____________________________________

_____________________________________________

Асабісты подпіс___________________________

## дарэчы

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў атрымалі альтэрнатыўны законапраект аб СМІ, падрыхтаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў.

Каментуючы падзею, кіраўнік Цэнтру Міхаіл Пастухоў сказаў: «Мы спадзяемся, што дэпутаты не застануцца абыякавымі да пункту гледжаньня журналістаў, якія штодня сутыкаюцца з Законам аб друку, і юрыстаў, якія ведаюць усе аспэкты правапрымяняльнай практыкі ў галіне СМІ. Рыхтуючы свой законапраект, мы абапіраліся ня толькі на ўласны практычны досьвед, але і на эўрапейскія стандарты ў галіне СМІ. Разам з тым мы рэалісты і не разьлічваем на тое, што дэпутаты адрынуць афіцыйны законапраект і прымуць наш. Мы лічым, што дасягнем сваёй мэты, калі створым камісію, у якую ўвойдуць дэпутаты парлямэнту і прадстаўнікі журналісцкай грамадзкасьці, і правядзем абмеркаваньне выключэньня з афіцыйнага праекту найбольш адыёзных пазыцыяў».

БАЖ таксама зьвярнулася да дэпутатаў з просьбай накіраваць афіцыйны законапраект у Раду Эўропы. Мяркуецца, што абмеркаваньне новага Закону аб сродках масавай інфармацыі і, магчыма, прыняцьце яго ў першым чытаньні можа адбыцца ўжо на восеньскай сэсіі Палаты прадстаўнікоў.

# будучыні бачаньне, ці “карціна” вашай арганізацыі

Ала Кос,
**кансультант ABA/CEELI па пытаньнях разьвіцьця арганізацыі**
**alla_kos@ceeli.org.by**

вучыцеся марыць рэальна

Місія, каштоўнасьці і бачаньне — гэта тое, што зьвязвае арганізацыю ў адно цэлае. Яны апісваюць, што вы спрабуеце зрабіць, як вы хочаце гэта ажыцьцявіць і куды вы імкнецеся. Веданьне гэтых рэчаў дапамагае арганізацыі ня зьбіцца са шляху. Яны служаць крытэрыямі, да якіх заўсёды можна зьвярнуцца, каб вымерыць посьпех таго, што ўжо зроблена, а таксама супаставіць новыя пляны з вашымі чаканьнямі і спадзяваньнямі.

Яны таксама могуць здавацца абстрактнымі паняцьцямі для многіх людзей, асабліва для тых, хто лічыць сябе “прагматыкам” і ня хоча губляць час на разважаньні пра жаданьні і мары іншых людзей, бо атаясамліваюць слова “мара” зь нерэальнымі чаканьнямі. Менавіта таму кіраўнікі проста прапускаюць гэты важны этап у пабудове фундамэнту арганізацыі. Між тым дасягненьне кансэнсусу па гэтых базавых паняцьцях можа дапамагчы арганізацыі пазьбегнуць крызісаў і канфліктаў.

Місія, каштоўнасьці і бачаньне павінны быць сфармуляваныя і агучаныя ў самым пачатку жыцьця арганізацыі ці пры першай магчымасьці ў тым выпадку, калі арганізацыя ўжо працуе. Кожны з гэтых трох элемэнтаў мае свае характэрныя асаблівасьці і грае вызначальную ролю ў жыцьцядзейнасьці любой арганізацыі.

Тэма вызначэньня карпаратыўнага ці арганізацыйнага бачаньня і місіі ў апошняе дзесяцігодзьдзе стала адным з “гітоў” у арганізацыйным разьвіцьці. Гэтая ідэя прыйшла з ЗША, але ўжо даўно шырока ўспрынятая ў Эўропе і прымяняецца як камэрцыйнымі, так і грамадзкімі арганізацыямі. Яны выкарыстоўваюць стандартную структуру “місія, бачаньне, мэты” для выказваньня іх асноўных мэтаў у больш шырокім кантэксьце. У самых лепшых арганізацыях гэтыя тры канцэпцыі апісаныя некалькімі сказамі ў выглядзе выразных і кароткіх выказваньняў, з мэтамі, выяўленымі ў дакладных і вымяральных паказчыках. У меней дысцыплінаваных арганізацыях апісаньне можа займаць некалькі старонак.

У любым выпадку грамадзкім арганізацыям неабходна траціць час і намаганьні для таго, каб вывучыць, ацаніць і выразна сфармуляваць свае імкненьні. Яны натхняюць супрацоўнікаў, сябраў арганізацыі, валянтэраў і выклікаюць цікавасьць донараў, складаюць аснову для выпрацоўкі стратэгіі. Наагул, яны зьяўляюцца рухавіком усяго, што адбываецца ў арганізацыі.

Такім чынам, пагаворым пра Бачаньне…

### ШТО ТАКОЕ БАЧАНЬНЕ?

Бачаньне арганізацыі — гэта вобраз яе будучыні. Прывяду фармулёўкі, што прапануюць уплывовыя экспэрты ў галіне лідэрства, сапраўдныя гуру мэнэжмэнту, якія больш падрабязна апісваюць зьмест гэтага паняцьця.

“Бачаньне ўяўляе сабой падарожжа ў думках ад вядомага да невядомага, стварэньне будучыні шляхам мантажу фактаў, спадзяваньняў, мараў, небясьпекаў і магчымасьцяў” (Хікман і Сільва).

Бачаньне — гэта “падзяляемы супрацоўнікамі карпарацыі вобраз таго, якім мы хочам бачыць нашае прадпрыемства. Бачаньне забясьпечвае зыходную кропку будучай арыентацыі. Яно дае адказ на пытаньне: як мы хочам, каб нас успрымалі людзі, меркаваньні якіх важныя для нас. Дэклярацыя бачаньня дапускае прысутнасьць высакароднай мэты і высокіх каштоўнасьцяў, чагосьці, што лічыцца асабліва годным” (Карл Альбрэкт).

Барт Нанус апісвае бачаньне як “рэалістычны, прыцягальны вобраз будучыні вашай арганізацыі, ідэю, якая валодае такой энэргетыкай, што, па сутнасьці, набліжае будучыню скачкамі, выклікаючы да жыцьця тыя навыкі, таленты і рэсурсы, якія неабходныя для наступленьня жадаемай будучыні, і як праводную зорку для ўсіх, каму трэба разуменьне таго, якой павінна быць арганізацыя і куды ёй ісьці”. Джэй Конджэр, аўтар кнігі “Харызматычны лідэр”, апісвае бачаньне як віртуальны вобраз жаданага будучага стану, ідэал ці далёка ідучую мару. Уорэн Бланк параўноўвае яго з “унікальнымі, убудаванымі ў сьвядомасьць лінзамі зь вялікім вуглом ахопу і вялікім павелічэньнем, якія дазваляюць людзям заглядаць у будучыню і разумець магчымасьці, што хавае ў сабе вялікае яго палатно”.

### СТВАРЭНЬНЕ “КАРЦІНЫ” БУДУЧЫНІ ВАШАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Стварэньне бачаньня — складаная задача для арганізацыі. Бачаньне мае на ўвазе ня проста некалькі разрозьненых сказаў, а поўнае апісаньне будучага стану арганізацыі — рэсурсаў, працэсаў, структуры, асяродзьдзя. Чым больш выразна апісана гэтае бачаньне, тым лягчэй зразумець будучыню і данесьці яе да ўсіх сябраў арганізацыі. “Бачаньне” — прыдатны

тэрмін, таму што сам ён мае на ўвазе, што вы павінны бачыць, як павінна выглядаць будучыня. Вам трэба зразумець, у якім накірунку мусіць разьвівацца арганізацыя, і ўявіць яе праз 3-5 гадоў. Чаго вы можаце дасягнуць? Якія магчымасьці вы разьвівалі? Што гавораць пра вашую дзейнасьць кліенты, партнэры, прадстаўнікі ўладных і бізнэсовых структураў? Якія ключавыя дасягненьні вам удалося забясьпечыць?

Хаця гэты працэс і прадугледжвае вызначаную долю мараў, вы павінны заставацца рэалістычнымі, а вашая будучыня павінна быць дасягальнай. Трэба ўсталяваць балянс далёка сягаючых мэтаў з разуменьнем таго, што будучыня, якую вы малюеце, зьяўляецца дасягальнай. Дасягальная будучыня мусіць быць зразумелай для ўсіх сяброў каманды. Тады яна стане “жаданай” для ўсіх.

Якія крокі неабходна зрабіць, каб стварыць у арганізацыі эфэктыўнае і рэальнае бачаньне?

Магчыма, вы будзеце расчараваныя, аднак няма агульнага “рэцэпту”, што падкажа, як лепей вам сфармуляваць і агучыць місію, каштоўнасьці і бачаньне, як няма правільных і няправільных спосабаў. Вы самі павінны вырашыць, што лепей падыходзіць для вашай арганізацыі, і стварыць спрыяльную атмасфэру для гэтага працэсу. Вось некалькі магчымых падыходаў:

— Бачаньне можа быць створана на розных узроўнях арганізацыі. Яно можа быць распрацавана выканаўчым дырэктарам, а потым апублікавана ва ўнутраным інфармацыйным бюлетэні для шырокага абмеркаваньня, ці даведзена да супрацоўнікаў і сяброў арганізацыі якім-небудзь іншым спосабам. Бачаньне можна пачынаць распрацоўваць першапачаткова пры самым вялікім прыцягненьні да працэсу ўсіх зацікаўленых асобаў. Бачаньне можа быць створана спачатку на больш высокім узроўні ў арганізацыі, а потым дапрацавана ў некалькіх рабочых групах, якія складаюцца з шараговых супрацоўнікаў і сяброў арганізацыі, ці наадварот. Кіраўніцтва можа таксама параіцца з супрацоўнікамі і сябрамі арганізацыі, які шлях выбраць, перш чым непасрэдна пачынаць ствараць бачаньне.

Можна прымяняць і іншыя падыходы. Напрыклад:

— Правесьці сэрыю арганізаваных інтэрвію з ключавым пэрсаналам арганізацыі, якія будуць уключаць пытаньні па місіі, каштоўнасьцях і бачаньні, а потым распаўсюдзіць вынікі для агульнага абмеркаваньня.

— Скласьці анкету і правесьці апытаньне для ўсіх супрацоўнікаў і сяброў арганізацыі з тым, каб вызначыць іх уяўленьні пра будучыя накірункі дзейнасьці арганізацыі.

— Зьвярнуцца з просьбай да тых супрацоўнікаў і сяброў арганізацыі, якія могуць у выразнай і зразумелай форме сфармуляваць тэмы для дыскусіяў і прапанаваць магчымыя шляхі разьвіцьця арганізацыі для абмеркаваньня і ўзгадненьня ўсімі сябрамі каманды.

— У мэтах плянаваньня зрэдку выбіраюць падыход, пры якім група адразу працуе над місіяй, бачаньнем і каштоўнасьцямі. Гэта тлумачыцца тым, што ў камандзе могуць быць людзі, якім зручней і лягчэй сканцэнтравацца на фармулёўцы асноўнага прызначэньня арганізацыі — місіі. У той час калі сябры каманды будуць уяўляць, як зьменіцца навакольны сьвет у выніку работы, зробленай арганізацыяй, і апісваць яе асноўныя дасягненьні — гэта значыць ствараць бачаньне. А некаторыя будуць думаць перш за ўсё пра тое, каго б яны хацелі прыцягнуць у арганізацыю і на якіх прынцыпах узаемадзейнічаць, і ўнутры арганізацыі, і з шырокай грамадзкасьцю — гэта значыць вызначаць асноўныя каштоўнасьці арганізацыі.

— Я прапаную вам зрабіць наступнае практыкаваньне:

**Практыкаваньне “Апісаньне бачаньня будучыні”.** Памарце пра магчымую будучыню. Якім вашая арганізацыя бачыць будучы посьпех?

Крок 1: Бачаньне будучыні навакольнага сьвету. Апішыце, якім чынам будзе палепшаны, зьменены навакольны сьвет, калі вашая арганізацыя дасягне сваіх мэтаў.

Крок 2: Бачаньне будучыні арганізацыі. Апісаньне будучыні вашай арганізацыі.

Як будуць выглядаць праграмы арганізацыі праз 3-5 гадоў? (Якім будзе ідэальны набор праграмаў / паслугаў? Пералічыце ў парадку першачарговасьці прыярытэтныя паслугі напачатку сьпісу). Апішыце адміністрацыйную будучыню вашай арганізацыі праз 3-5 гадоў у такіх сфэрах: пэрсанал і кадравая палітыка, Рада (Праўленьне), ваш імідж у грамадзтве, вашыя фінансы, вашая інфраструктура і выкарыстаньне тэхналёгіяў, памяшканьняў, інфармацыйных сыстэмаў, плянаваньне і ацэнка, кантроль якасьці і інш.

### ШТО ДАЕ БАЧАНЬНЕ?

Працэс і непасрэдны вынік стварэньня бачаньня могуць здавацца цьмянымі і незразумелымі напачатку, аднак яны прыносяць вялікі плён доўгатэрміновай пэрспэктыве. Бачаньне зьяўляецца ядром, якое забясьпечвае прарыў да посьпеху.

Што дае добрае бачаньне і працэс стварэньня бачаньня:

— выклікае выразны і станоўчы вобраз будучыні арганізацыі, і гэты вобраз, калі ў яго ўкладзена дастаткова энэргіі, волі і таленту, замацоўваецца ў будучыні і пачынае адтуль узьдзейнічаць на сучаснасьць;

— заражае арганізацыю энэргіяй, надае гонар і прымушае людзей дзейнічаць;

— уносіць яснасьць ва ўяўленьні пра мэту і накірунак дзейнасьці;

— накіроўвае паўсядзённую дзейнасьць і адсейвае неістотнае;

— дапамагае людзям зразумець агульную задуму і ўсьвядоміць сваю важнасьць;

— аб’ядноўвае людзей і дае ім адчуць прыналежнасьць да каманды;

— перадае энэргію і імпульс зьменаў унутры арганізацыі, матывуючы дзеяньні людзей і натхняючы іх на творчую працу для дасягненьня агульнай мэты;

— стварае ў арганізацыі цэласнасьць, адкрытасьць, крэатыўнасьць;

— натхняе людзей думаць пра доўгачасовыя вынікі і дапамагае пераадолець стэрэатып “адсюль дасюль”;

— надае сэнс зьменам, якіх чакаюць ад людзей;

— адпавядае гісторыі, культуры і каштоўнасьцям арганізацыі;
— адлюстроўвае ўнікальнасьць арганізацыі;
— устанаўлівае стандарты дасканаласьці, у якіх адлюстраваныя высокія ідэалы.

Правільнае прымяненьне канцэпцыі Бачаньня дазваляе вырашаць некаторыя праблемы, зь якімі сутыкаецца любы кіраўнік, што ажыцьцяўляе арганізацыйныя зьмены. У абсалютнай большасьці няўдалых спробаў зьменаў, як правіла, прысутнічае шмат плянаў і інструкцыяў, але няма Бачаньня. Любому шараговаму сябру арганізацыі знаёмая сытуацыя, калі кіраўніцтва вызначае новыя мэты, распрацоўвае плян іх дасягненьня, зьмяняе структуру, а значная колькасьць супрацоўнікаў арганізацыі зусім не падзяляе гэтага энтузіязму. Узьнікае разьяднаньне матываў і мэтаў на розных узроўнях, а гэта прыводзіць да таго, што працэс зьменаў ажыцьцяўляецца вельмі павольна і неэфэктыўна. Таму праекты, зьвязаныя з арганізацыйнымі зьменамі, пасьпяхова развальваюцца па прычыне “чалавечага фактару”. Арганізацыйныя зьмены, матывацыя і арганізацыйная культура — вельмі тонкія матэрыі, якія патрабуюць беражлівых і ўдумлівых адносінаў.

### ПЕРАШКОДЫ НА ШЛЯХУ СТВАРЭНЬНЯ БАЧАНЬНЯ

Працэс стварэньня бачаньня, якое будзе рэалістычнай, праўдападобнай і прыцягальнай карцінай будучыні вашай арганізацыі, можа быць доўгім, складаным і непрадказальным. На гэтым шляху будзьце гатовыя сустрэць некаторыя перашкоды, якія могуць “забіць” жаданьне займацца візуалізацыяй будучыні:
— звычкі і стэрэатыпы;
— боязь стаць вядомымі “няўдачнікамі” ды “балбатунамі” і аказацца слабымі;
— атаясамліваньне слова “мара” зь нерэальнымі чаканьнямі (мары невыканальныя і зьяўляюцца прызам для рамантыкаў, якія лунаюць у аблоках);
— задаволенасьць тым, што ёсьць і нежаданьне што-небудзь паляпшаць ці зьмяняць;
— лідэры, якія вычарпалі свой патэнцыял;
— накіраванасьць толькі на кароткачасовы вынік;
— прынцыповае адмаўленьне якіх-небудзь новых плянаў ці ідэяў;
— распрацоўка павярхоўнага апісаньня бачаньня, місіі і каштоўнасьцяў.

Адзін чалавек, адзін лідэр ня можа выцягнуць усю арганізацыю. Яму патрэбная згуртаваная і дынамічная каманда. А што шчыльна зьвязвае каманду? Агульнае бачаньне і агульная мэта, але каб умець прыстасоўвацца да зьменаў навакольнага асяродзьдзя і пры гэтым заўсёды вытрымліваць курс на дасягненьне пастаўленых мэтаў, арганізацыя павінна мець стратэгію.

Многія цяжка пераносяць зьмены, і абмеркаваньне будучыні мае на ўвазе дыскусію пра патэнцыйныя зьмены ў структуры арганізацыі, яе функцыянаваньні і г.д. Акрамя таго, памятайце, што мэханічнае прыцягненьне людзей у працэс стварэньня бачаньня не прынясе вам посьпеху. Неабходна стварыць спрыяльную і сяброўскую атмасфэру, якая садзейнічае творчаму падыходу і вольнаму абмену меркаваньнямі і ідэямі.



### МАЛА СТВАРЫЦЬ НАТХНЯЛЬНАЕ БАЧАНЬНЕ...

Тыповай памылкай пры рабоце з Бачаньнем зьяўляецца недастатковая праца па яго перадачы супрацоўнікам і сябрам арганізацыі, асабліва калі размова ідзе пра вялікую арганізацыю. Акрамя бачаньня і плянаў па яго ажыццяўленьні, у любой арганізацыі існуе штодзённы працэс камунікацыі. Бяз гэтага самае цудоўнае бачаньне не прынясе жаданага выніку і хутка памрэ сваёй сьмерцю.

### АДАРВІЦЕСЯ АД СУЧАСНАСЬЦІ!

У нашым зьменлівым сьвеце мы прызвычаіліся жаліцца на кароткачасовасьць падзеяў і непрадказальнасьць будучыні. Пачуцьцё нявызначанасьці, няўпэўненасьці ў заўтрашнім дні — звычайны стан і добрыя “адгаворкі” нашаму бязьдзеяньню па набліжэньні лепшай будучыні для нас і для арганізацыяў, у якіх мы, як найбольш грамадзка-актыўныя асобы, усё-такі спрабуем сябе рэалізаваць. Ня бойцеся марыць і “адарвацца” ад сучаснасьці! Часта мы так занятыя “цякучкай”, што ці корпаемся ў мінулым, ці грузьнем у сучаснасьці да такой ступені, што ўжо цяжка стварыць “новую” канцэпцыю для арганізацыі.

Бачаньне — гэта будучыня, якая ствараецца сёньня. Уявіце сабе гэтую будучыню, а пасьля апішыце ўбачанае…

Жадаю вам посьпехаў на гэтым цяжкім і захапляльным шляху!

# From Belarus with love

## зьехалі прадстаўнікі валійскіх НДА

Натальля Кожурава,
Алёна Андрэева

**Напрыканцы кастрычніка па запрашэньні Асамблеі Менск наведала дэлегацыя Валійскай рады добраахвотнага дзеяньня. Гэты візыт невыпадковы: на думку аналітыкаў, менавіта разьвіцьцё “трэцяга сэктару” дазволіла пераадолець адной зь бяднейшых частак Вялікабрытаніі працяглы грамадзка-палітычны, эканамічны, культурніцкі крызыс. Паралелі з нашай краінай напрошваюцца самі сабою.**

**Больш як паказальная інфармацыя: валійскі “трэці сэктар” складаюць каля 35 тыс. НДА (для параўнаньня: у Беларусі каля 5 тыс. арганізацыяў, зь іх зарэгістраваныя Мінюстам прыкладна 3 тыс.). 82% жыхароў Валіі (1,8 мільёна чалавек) ахвяруюць свой час на валянтэрскую працу. Яна штогод прыносіць у дзяржбюджэт 3,4 млрд. фунтаў-стэрлінгаў. 200 000 маладых людзей карыстаюцца паслугамі 20 тыс. маладых валянтэраў. 350 000 грамадзянаў на 90% бяруць на сябе клопат аб мясцовай грамадзе, чым эканомяць дзяржаве 1,7 мільярду фунтаў-стэрлінгаў штогод.**

**WCVA — “парасонавая” структура, якая аб’ядноўвае каля тысячы НДА Валіі, — даўні партнэр Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі. Наш карэспандэнт размаўляе з кіраўніком WCVA Грэхамам БЭНФІЛДАМ.**



— Упершыню я прыехаў у Беларусь у 1997 годзе. Як мне падалося, за гэтыя пяць год беларускія НДА дужа далёка прасунуліся ў сваім разьвіцьці. Але разам з тым вялікая колькасьць вашых грамадзкіх арганізацыяў мае пэўныя цяжкасьці ў працы. І зараз мы прыехалі сюды даведацца, што мы можам зрабіць, каб дапамагчы беларускім калегам.

Асаблівую важнасьць нашаму візыту надае тое, што мы імкнемся наладзіць добрыя стасункі паміж беларускімі і валійскімі НДА, якія займаюцца такой дзейнасьцю. Нашыя арганізацыі хочуць пабачыць, ці ёсьць у беларускіх партнэраў праекты, прапановы, што могуць быць падтрыманыя і рэалізаваныя. У Валію мы прыедзем з новымі ідэямі.

Кантактаваць зь беларускімі арганізацыямі мы плянуем праз Выканаўчае бюро Асамблеі.

**— Але чаму пяць год таму WCVA абрала сваімі партнэрамі менавіта беларускія арганізацыі?**

— Ваша краіна вельмі падобная да нашай — такая ж маленькая і мяжуецца зь вялікімі. Людзі ў сьвеце шмат ведаюць пра Ангельшчыну, але практычна нічога ня чулі пра Валію. Гэтаксама і зь Беларусьсю — шмат хто ведае пра Расею, але Беларусь амаль заўжды застаецца па-за ўвагай людзей. Падобная і моўная сытуацыя — у нас меншасьць размаўляе па-валійску, большасьць — па-ангельску.

У Валіі ёсьць адзін вялікі горад — Кардыф, дзе жыве большасьць насельніцтва, а таксама існуюць вялізныя сельскія мясцовасьці, дзе жыве адносна няшмат людзей, як і ў вас.

Мы не імкнемся ўсталяваць супрацоўніцтва з усім сьветам, у нас ёсьць пэўныя стасункі зь некаторымі краінамі, і Беларусь — адна зь іх.

**— Для Беларусі, дзе зарэгістравана каля трох тысячаў няўрадавых арганізацыяў, колькасьць НДА ў Валіі — 35 тыс. — падаецца проста фантастычнай. Якую ролю адыгрывалі раней і адыгрываюць сёньня НДА ў Валіі?**

— Як толькі ўсталяваўся Валійскі Ўрад, “трэці сэктар” пачаў хутка разьвівацца. Першы прыслухоўваецца да меркаваньняў абывателяў, ён таксама разумее, што НДА могуць зрабіць для пэўных мэтавых групаў больш за ўрад.

НДА бяруць удзел у розных аспэктах мясцовага жыцьця. Напрыклад, у маленькім горадзе арганізацыі могуць вырашаць шматлікія праблемы на лякальным узроўні: займацца нейкімі пытаньнямі экалёгіі ці арганізацыяй футбольнай каманды, альбо даглядаць малых дзяцей. НДА можа быць зусім маленькая — гэтым і тлумачыцца лічба 35 тыс.

Што тычыцца ролі валійскага “трэцяга сэктару” ў грамадзтве, то мы прыцягваем вялікія сумы грошай і ствараем працоўныя месцы — такім чынам забясьпечваецца дастатак эканомікі Ўэльса.

**— НДА самі зарабляюць грошы ці атрымліваюць субсыдыі?**

— Некаторыя атрымліваюць грошы ад Эўразьвязу і яго арганізацыяў. У асноўным валійскія НДА існуюць на добраахвотныя складкі, ахвяраваньні сябраў і часам зарабляюць невялікія грошы, аказваючы пэўныя паслугі.

**— Чаму валянтэрскі рух такі папулярны ў Валіі?**

— Існуе вялікая колькасьць прычынаў, па якіх людзі ідуць у НДА. Шмат хто прыходзіць для таго, каб чымсьці заняць свой вольны час, некаторыя хочуць нечаму навучыцца, для іншых гэта праца. Здараецца і так, што сьмерць дзіцяці ад нейкай хваробы штурхае бацькоў на дапамогу іншым дзецям. Але асноўная прычына, па якой людзі ідуць у валянтэрскія грамадзкія арганізацыі — мэнтальнасьць: яны хочуць браць удзел у жыцьці свайго рэгіёну.

У нас існуюць валянтэрскія бюро працаўладкаваньня, у тым ліку ў інтэрнэце, праз якія мы даем людзям інфармацыю пра адпаведнага кшталту вакансіі.

**— Чым займаецца Валійская рада добраахвотнага дзеяньня?**

— Гэта нацыянальная арганізацыя, якая мае “парасонавую” структуру па-над усімі няўрадавымі арганізацыямі. Яе асноўныя функцыі — каардынаваць дзеяньні НДА, палягчаць працэс рэгістрацыі, шукаць грошы для існаваньня і дзейнасьці.

**— Якія напрамкі дзейнасьці найбольш актуальныя сёньня для валійскіх НДА?**

— Перадусім — палітыка, скіраваная на тое,

каб урад ставіўся да “трэцяга сэктару” больш пазытыўна. Насамрэч, у розных арганізацыяў розныя мэты з’яўляюцца прыярытэтнымі, для кожнай арганізацыі яе місія — самая важная. Таму даволі цяжка аб’яднаць арганізацыі і прымусіць іх прыслухоўвацца адна да адной, бачыць розныя місіі і выступаць адным фронтам.

Але ў гэтым і ўнікальнасьць WCVA: калі ўсе арганізацыі выступаюць адзіным фронтам, ураду цяжка ігнараваць іх.

**— Наколькі спрыяльныя заканадаўчыя ўмовы ў Уэльсе для дзейнасьці “трэцяга сэктару”?**

— Я чуў аб праблемах, зь якімі сутыкаюцца пры рэгістрацыі беларускія НДА, але ў Уэльсе працэс рэгістрацыі таксама даволі бюракратычны. Іншым людзям даводзіцца адказваць на дастаткова неразумныя пытаньні ў працэсе працы.

**— Ці ўдзельнічаюць валійскія НДА ў палітычных працэсах? Ці супрацоўнічаюць яны з палітычнымі партыямі?**

— У Валіі кожная НДА мае сваю місію, таму ў рамках яе вядзецца дыялёг з палітычнымі партыямі, мэдыямі, і такім чынам адбываецца рэтрансьляцыя яе мэтаў. Ні адна НДА не асацыюе сябе зь якой-кольвек палітычнай сілай: якая б партыя ні кіравала, цягам часу ўлада зьмяняецца.

*“Беларускі погляд” на візыт валійскай дэлегацыі агучвае міжнародны каардынатар Выканаўчага бюро Асамблеі Алёна Стручэўская.*

**— Якія стасункі мела Асамблея НДА з WCVA раней? Якія асноўныя мэты гэтага супрацоўніцтва?**

— З 1999 году Асамблея сумесна з WCVA рэалізоўвала праект на тэрыторыі Беларусі. У яго межах прайшоў шэраг трэнінгаў (з удзелам валійскіх мадэратараў), адбыліся дзьве азнаямляльныя паездкі актывістаў беларускіх НДА ў Валію. Візыт валійскай дэлегацыі стаўся завяршаючай часткай гэтага праекту.

**— Якія ўражаньні засталіся ў прадстаўнікоў валійскіх недзяржаўных арганізацыяў?**

— Пяць зь сямі дэлегатаў валійскага боку былі ў нашай краіне ўпершыню, і таму ім было цікава паглядзець на Беларусь і беларускія НДА. З-за вельмі насычанай праграмы валійцы не атрымалі поўнага ўяўленьня пра сытуацыю ў нашым “трэцім сэктары”, але, прынамсі, яны пабачылі, у якіх кірунках можна працаваць зь беларусамі.

**— Паколькі Вы курыравалі дэлегацыю, то, напэўна, зь першых вуснаў ведаеце пра асаблівасьці валійскага “трэцяга сэктару”...**

— Валійская сыстэма НДА шматузроўневая. Частка арганізацыяў вельмі маленькія і працуюць на невялікай тэрыторыі, маюць спэцыфічныя накірункі працы. Такога кшталту арганізацыі аб’ядноўваюцца ў невялікія лякальныя “парасонавыя” структуры па тэрытарыяльнай прыкмеце. Лякальныя структуры аб’ядноўваюцца ў рэгіянальныя, а тыя ўтвараюць сетку WCVA. WCVA — досыць вялікая і сур’ёзная структура нацыянальнага маштабу, якая аб’ядноўвае каля 1000 арганізацыяў. Акрамя гэтага існуюць спэцыялізаваныя сеткавыя структуры, што аб’ядноўваюць арганізацыі пэўнага кірунку. Гэтыя “спэцыялізаваныя” сеткі не ўваходзяць у WCVA.

**— Як вы ацэньваеце візыт?**

— Як вельмі ўдалы. Па-першае, дэлегацыя была досыць прадстаўнічая: прыехаў дырэктар WCVA, які зьяўляецца вельмі важнай і ўплывовай пэрсонай у Валіі. Абодвум бакам удалося вызначыць пункты далейшага супрацоўніцтва. Асноўны мінус — абмежаванасьць часу: на непасрэдную працу было адведзена толькі тры працоўныя дні.

**— Ці зьмянілася ў валійцаў уяўленьне пра беларускіх калегаў?**

— Безумоўна. Да прыезду яны думалі, што мы працуем у іншай сыстэме, непадобнай да эўрапейскай, і што мы самі далёкія ад эўрапейцаў. Але дэлегацыя WCVA адзначыла вельмі высокі ўзровень адукаванасьці грамадзтва.

Ім было цікава даведацца пра заангажаванасьць беларускіх НДА ў палітычнае жыцьцё, у пабудову дэмакратыі — у іх гэтая праблема не актуальная. Яны разьвіваюць і падтрымліваюць дэмакратычныя законы жыцьця праз стымуляваньне сьвядомасьці шляхам вырашэньня найбольш хвалюючых і надзённых пытаньняў — праз навучаньне, дапамогу сем’ям з малымі дзецьмі. Большасьць валійскіх няўрадавых арганізацыяў працуюць на крыху іншым узроўні: вырашаюць такія праблемы, як пабудова і функцыянаваньне басэйна ў вёсцы, арганізацыя футбольных спаборніцтваў паміж камандамі двух мястэчак, і гэтак далей.

**— Ці вялася падчас візыту размова пра будучае супрацоўніцтва Асамблеі і WCVA?**

— І Асамблея, і WCVA плянуюць выступаць надалей у якасьці пасярэднікаў па пошуку партнэраў для беларускіх і валійскіх грамадзкіх арганізацыяў. Акрэсьліліся кірункі, па якіх мы можам супрацоўнічаць: адукацыйны, сацыяльны, разьвіцьцё і папулярызацыя нацыянальных моваў і культураў, праца з валянтэрамі і лябіяваньне інтарэсаў грамадзкіх арганізацыяў на дзяржаўным узроўні.



# “РАЗАМ У БУДУЧЫНЮ”

## падаецца, моладзь выбрала

Алёна Андрэева,
Ян Міхевіч

**Восень у Беларусі, як вядома, пара грамадзка значных мерапрыемстваў: сялянска-афіцыёзныя дажынкі, добраахвотна-прымусовыя кампаніі па зборы грошай на мэга-праекты і г.д. Грамадзкія арганізацыі ня сталі выключэньнем — некалькі сапраўды важных і заўважных для “трэцяга сэктару” мерапрыемстваў адбыліся ў Менску з разьбежкай у месяц, што па NGOшных мерках — як тыдзень. 1-4 лістапада ў межах праекту “Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў у Беларусі” (ажыцьцяўляецца пры падтрымцы TACIS у межах праграмы “Разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці ў Рэспубліцы Беларусь”), праходзіў III Міжнародны фэстываль дзіцячых і моладзевых грамадзкіх аб’яднаньняў “Разам у будучыню”.**

Паводле дэклярацыяў аргкамітэту, асноўнай мэтай Фэсту было прадэманстраваць важнасьць і эфэктыўнасьць грамадзкіх аб’яднаньняў у раскрыцьці асабістага патэнцыялу маладых людзей, іх самарэалізацыі, а таксама рэальны ўнёсак грамадзкіх аб’яднаньняў у вырашэньне праблемаў дзяцей і моладзі. Наколькі гэтыя мэты былі рэалізаваныя — вырашаць у першую чаргу арганізатарам, мы ж паспрабуем зірнуць на фэст вачыма зацікаўленых назіральнікаў, якіх сапраўды заінтрыгаваў рэклямны плякат, што вісеў у менскім мэтро напярэдадні фэсту. Сярод інфармацыі з праграмай мерапрыемства вылучалася прапанова да ўсіх ахвотных зрабіць прынцыповы выбар: ці ісьці разам з грамадзкімі арганізацыямі ў будучыню, ці па адным — на могілкі.

Больш як нечаканы погляд на фармаваньне іміджу НДА...

### ХТО БЫЎ

Сярод фэстывальнай статыстыкі кідаюцца ў вочы два факты. Паводле інфармацыі BARCnews, напярэдадні фэстывалю высьветлілася, што толькі палова з 26 аб’яднаньняў - сябраў “Рады” падалі заяўкі на ўдзел у фэстывалі. Чаму астатняя палова была пасыўная — пытаньне хіба што рытарычнае.

Па-другое, на фэсьце зьявіліся прадстаўнікі рэгіянальных арганізацыяў і грамадзянскіх ініцыятываў. Калі ўлічыць, што сябрамі “Рады” ёсьць толькі зарэгістраваныя арганізацыі, то прысутнасьць, хоць бы і ў якасьці назіральнікаў, “незарэгістраваных” — станоўчы досьвед прыцягненьня да супрацы ўсіх спэктраў беларускага моладзевага “трэцяга сэктару”.

Сярод прадстаўнікоў больш як 70 арганізацыяў з усіх куткоў краіны на фэсьце прысутнічалі таксама дэлегацыі нацыянальных моладзевых Радаў Бэльгіі, Украіны, Польшчы, Нямеччыны, Нарвэгіі і Швэцыі. Са словамі вітаньня да прысутных зьвярнуліся Старшыня прадстаўніцтва TACIS у Беларусі спадар Люзенбэргер і каардынатар праграмаў TACIS “Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў” Алена Юркоўская.

### ШТО БЫЛО

Тое, што адбывалася ў Палацы дзяцей і моладзі 1-га кастрычніка, дакладна ахарактарызавала каардынатарка фэсту Ірына Белая: “Нешта неапісальнае: хаос, шмат людзей…” Спн. Ірыну можна зразумець: арганізацыя мерапрыемстваў з удзелам вялікай колькасьці людзей — гэта мастацтва, якому вучацца гадамі. Калі ўлічыць, што там, дзе зьбіраецца крытычная колькасьць маладых людзей, — вэрхал, а там, дзе зьбіраецца крытычная колькасьць маладых NGOшнікаў, — вар’ятня. Тым ня менш, у гэтых умовах таксама спрабавалі працаваць.

Як і чакалася, адным з самых цікавых для гасьцей стаўся круглы стол “Моладзевыя грамадзкія арганізацыі і дзяржава: узаемадзеяньне”. Невялічкая аўдыторыя, разьлічаная на 30 чалавек, зьмясьціла больш за 50 удзельнікаў, якія паўтары гадзіны слухалі інфармацыю пра замежны досьвед супрацы і спрабавалі адказаць, чым мы — “першы” і “трэці сэктар” — можам дапамагчы адзін аднаму. Бадай што самым паказальным сталася меркаваньне выконваючай абавязкі дырэктара Дэпартамэнту па справах моладзі пры Міністэрстве адукацыі спадарыні Марыны Яжовай. Яна канстатавала: супрацоўніцтва вельмі неабходнае абодвум бакам, і яны мусяць зрабіць усё для таго, каб праца ў гэтым кірунку пачалася як мага хутчэй і была як мага больш эфэктыўнай.

Выснова больш як відавочная, агучаная на сотнях падобнага кшталту круглых сталах сотні ж разоў, але так і не рэалізаваная. Мы і яны быццам “сасьпелі” да супрацы — гэта прадэманстравала і фэстывальная сустрэча, — але якой будзе гэтая супраца і хто нарэшце зробіць першы крок?..

Прыкладна па такой самай схеме адбываўся круглы стол “Партнэрства — каму яно патрэбнае?”, удзельнікамі якога сталі дэлегацыі Эўрапейскіх моладзевых нацыянальных Радаў і прадстаўнікі беларускага “трэцяга сэктару”. Вынікі — такія ж.

Сымулятыўная гульня ў фармаце Генэральнай Асамблеі — своеасаблівае ноў-хаў фэсту. Пяць камітэтаў Асамблеі, у якія ўвайшлі сябры розных грамадзкіх арганізацыяў, працавалі па наступных кірунках: культурны, адукацыйны, сацыяльна-эканамічны, грамадзянскі ўдзел і нацыянальная ідэя.

Здаецца, што менавіта моладзевыя арганізацыі ад эфэмэрных пасылаў кшталту “трэба бу-

даваць грамадзянскую супольнасьць", якімі цешацца "дарослыя" лідэры беларускіх НДА ўжо які год, пераходзяць да справы і спрабуюць апрабаваць элемэнтарныя законы дэмакратыі на практыцы. Удзельнікі камітэтаў абмяркоўвалі праблемы, шукалі шляхі іх вырашэньня, рыхтавалі рэзалюцыі. Як усё атрымліваецца — гэта ўжо іншая справа, але досьвед сьведчыць, што самая вялікая небясьпека — ператварыць такія гульні ў звычайную сымуляцыю: дзейнасьці, дэмакратыі і інш.

2 лістапада адбылося выніковае паседжаньне Асамблеі, на якім прэзэнтаваліся, сумесна абмяркоўваліся і рэдагаваліся выпрацаваныя камітэтамі рэзалюцыі. Адрасатамі рэзалюцыяў выступілі Адміністрацыя Прэзыдэнта РБ, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, Савет міністраў РБ, шматлікія міністэрствы і ведамствы, прафсаюзныя арганізацыі, НДА і СМІ.

Напярэдадні фэсту спн. Сухій адзначыла, што "прынятыя рэзалюцыі камітэтаў пакажуць, як маладыя людзі разумеюць тое, што сёньня адбываецца вакол іх". Абыйдземся без татальных высноваў, але прыведзены ніжэй прыклад — урывак з рэзалюцыі, падрыхтаванай камітэтам "Нацыянальная ідэя / Патрыятызм" — досыць паказальны: "Для вырашэньня вызначаных праблемаў прапануем: "Нацыянальнаму Сходу РБ, Адміністрацыі Прэзыдэнта РБ, Савету Міністраў РБ стварыць альтэрнатыўныя дзяржаўным крыніцы інфармацыі". Паспрабуйце ўявіць, што будзе, калі гэты пункт заканадаўчая і выканаўчая ўлады возьмуць на ўзбраеньне...

А гэта цалкам ня выключана. Як паказалі дэбаты "Ці выгадна быць сябрам грамадзкай арганізацыі?", большасьць удзельнікаў адказвае на пастаўленае пытаньне станоўча: на іх думку, моладзевыя НДА дазваляюць даводзіць ураду тое, што неабходна моладзі.

### PS / ЗАМЕСТ ЭПІЛЁГУ

На выніковай прэс-канфэрэнцыі аргкамітэт абвесьціў: "Фэстываль адбыўся. Нашая мэта выкананая. За два дні Палац наведалі каля 1800 чалавек, якія пабачылі, што ёсьць НДА, што ёсьць грамадзкае жыцьцё. Спадзяемся, што гэта дасьць свой плён. Сябе паказалі больш за 70 грамадзкіх арганізацыяў з усяе Беларусі."

Тым часам на пляцоўцы "Парк-клюбу "Менск", дзе ладзілася нефармальная частка фэсту, на заключным канцэрце выступалі беларускія і замежныя гурты. На жаль, большасьць зь іх — хіба што апрача "Тяни-Толкай" і "Drum Ecstasy" — так і не змаглі ўцямна патлумачыць, зь якой нагоды іх тут сабралі. Вядучы вечарыны, VJ "Першага музычнага канала", увесь час блытаў назву фэсту, шчыра прасіў: "Калі ласка, ня крыўдзьце людзей у жоўтых кашульках, яны для нас гэта ўсё зрабілі і, дзякуючы менавіта ім, мы ўсе тут".

## ШТО ЗРАБІЛІ

**урыўкі рэзалюцыяў (мова, правапіс і стыль арыгіналаў захаваныя)**

**СОЦИАЛЬНО-ЭКОНОМИЧЕСКИЙ КОМИТЕТ**

**[…]** Для решения проблем предлагаем:

Национальному Собранию РБ, администрации Президента РБ, Совету Министров РБ, Министерству экономики РБ, Министерству труда и социальной защиты РБ, Департаменту по делам молодежи Министерства образования РБ, Федерации профсоюзов Беларуси:

1. уделить должное внимание поднятым проблемам;
2. использовать опыт и ресурсы молодежных и детских неправительственных организаций посредством социальных заказов;
3. способствовать взаимодействию исполнительной власти и НГО;
4. развивать институты общественного контроля.
5. Уделить внимание миграции молодежи из периферии в город, то есть создать условия ля данной группы.

Представителям СМИ:

— широко освещать деятельность НГО и тем самым содействовать формированию в общественном сознании понимания их сути и значимости.

Общественным объединениям, а также заинтересованным лицам:

— поддержать деятельность БСМДОО "РАДА" для координации деятельности и выработки единой стратегии по вопросам решения вышеподнятых проблем.

**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ / ПАТРЫЯТЫЗМ**

[…] 1) <u>Нацыянальнаму Сходу РБ, Адміністрацыі Прэзідэнта РБ, Савету Міністраў РБ</u>:

— стварыць альтэрнатыўныя дзяржаўным крыніцы інфармацыі,

— правесці рэформы ў сістэме адукацыі, накіраваныя на пераадоленне стэрэатыпаў, выхаванне ў кожным нацыянальнай годнасці,

— больш якасна і шырока выкарыстоўваць беларускую мову ў СМІ,

— інфармаваць аб дзейнасці NGO, якія займаюцца гэтым пытаннем для шырокага кола грамадства,

— удасканаліць фінансава-прававую базу для развіцця нацыянальнай культуры,

— падтрымаць нацыянальных вытворцаў: праводзіць рацыянальную пратэкцыянісцкую палітыку,

— выхаваць павагу дя нацыянальнай і дзяржаўнай сымболікі (гімн, герб, сцяг).

2) <u>Прадстаўнікам СМІ</u>:

— больш якасна і шырока выкарыстоўваць беларускую мову,

— інфармаваць аб дзейнасці NGO, якія займаюцца гэтым пытаннем для шырокага кола грамадства,

— падтрымаць нацыянальных вытворцаў (рэклама),

— выхаваць павагу дя нацыянальнай і дзяржаўнай сымболікі (гімн, герб, сцяг).

3) <u>Грамадскім аб'яднанням і іншым зацікаўленным асобам</u>:

— правесці праекты, семінары і г.д. па дадзенай тэматыцы ў мястэчках і сельскай мясцовасці,

— асацыіраваць моладзь і прыцягнуць яе да актыўнай дзейнасці па дадзенай тэматыцы,

— стварыць альтэрнатыўныя дзяржаўным крыніцы інфармацыі,

— стварыць чыннікі для правядзення рэформы адукацыі,

— стварыць цэнтры беларускай культуры (валантэрская дапамога),

— больш якасна і шырока выкарыстоўваць беларускую мову ў СМІ,

— выхаваць маладзёжных лідэраў, лабіруючых беларускую нацыянальную ідэю (школы, семінары і г.д.),

— інфармаваць аб дзейнасці NGO, якія займаюцца гэтым пытаннем для шырокага кола грамадства,

— выхаваць павагу да нацыянальнай сымболікі, гістарычнай і сучаснай (гімн, герб, сцяг).

# “РАЗАМ У БУДУЧЫНЮ”

## ШТО ЗРАБІЛІ

ПРАЦЯГ

**КОМИТЕТ КУЛЬТУРЫ**

[…] Мы предлагаем:

1. Создавать программы, направленные на развитие лидерских качеств личности, как гармоничного сочетания интеллектуальных возможностей физического тела и познание красоты.
2. Поддержка и развитие отношений с социальными работниками по проблемам семьи (проведение семинаров, тренингов, консультаций), создание общих информационных каналов между организациями, занимающимися социально направленной работой и работниками социальной сферы.
3. Определение ценностей для формирования национальной культуры.
4. Популяризация культурных ценностей в работе педагогов и социальных работников.
5. Организация и поддержка молодежных творческих проектов.
6. Проведение программ обмена между представителями различных культур, религий, социальных слоев.
7. Увеличение спектра международных творческих фестивалей, выставок и т.д.
8. Создание ресурсов, качественно информирующих о национальных исторических ценностях, мировых исторических ценностях и личностях, имевших и имеющих важное культурное значение (национальное и мировое).
9. Проведение этнических шоу (например: рыцарские турниры, фольклорные концерты как часть белорусской культуры).
10. Поддержка развития волонтерских проектов, направленных на реставрацию исторических культурных памятников Беларуси и пропаганду белорусской культуры.

**КОМИТЕТ ГРАЖДАНСКОГО УЧАСТИЯ**

О роли общественных объединений в дополнительном образовании детей и молодежи.

**[…]** Для эффективного решения вышеперечисленных проблем мы рекомендуем:

I. Министерству образования Республики Беларусь и всем заинтересованным общественным организациям:

— создать и внедрить образовательные программы, направленные на развитие навыков гражданского участия детей и молодежи.

— Внедрять опыт стран, с действующей альтернативной системой образования.

II. Учреждениям образования, общественным организациям, местным органам управления:

— содействовать созданию и развитию действующих моделей гражданского участия (детские и молодежные парламенты; органы самоуправления в учреждениях образования и по месту жительства)

III. Молодежным общественным организациям:

— максимально эффективно использовать все возможности доступа к СМИ, в том числе ТВ.

IV. Средствам массовой информации:

— информировать общественность о процессе развития гражданского участия молодежи.

V. Национальному Собранию Республики Беларусь, Министерству образования Республики Беларусь, молодежным общественным организациям:

— инициировать создание национального молодежного представительного органа с правом законодательной инициативы и экспертирования законопроектов при участии молодежных общественных организаций и учреждений образования.

VI. Национальному Собранию Республики Беларусь, Центральной Комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов:

— разработать механизмы реализации права прямой законодательной инициативы.

VII. Департаменту по Делам молодежи Республики Беларусь:

— включить в Республиканский Реестр молодежных и детских организаций, пользующихся государственной поддержкой, все молодежные и детские организации, официально зарегистрированные, с целью создания для них равных условий для получения государственной поддержки.

VIII. Министерству по налогам и сборам Республики Беларусь:

— разработать систему льготного налогообложения для физических и юридических лиц, оказывающих спонсорскую поддержку молодежным общественным организациям.

**КОМИТЕТ ОБРАЗОВАНИЯ**

К вопросу о роли общественных объединений в дополнительном образовании детей и молодежи.

[…] Для решения названных проблем предлагаем Министерству образования РБ, Министерству труда и социальной защиты РБ, Министерству статистики РБ, Министерству юстиции РБ, Белорусскому союзу молодежных и детских общественных объединений «РАДА», общественным объединениям, представителям СМИ:

I. Создать единый банк данных, содержащий информацию о целях, задачах и деятельности общественных объединений; донести данную информацию до потребителей.

II. Создать WEB-сайт как информационный ресурс общественных объединений, оказывающих услуги дополнительного образования.

III. Создать координационный центр и документ, регулирующий взаимоотношения общественных объединений и государственных структур в сфере дополнительного образования.

IV. Общественным объединениям и государственным структурам проводить совместные семинары, конференции, круглые столы и другие мероприятия с целью выработки общего направления деятельности по решению проблем дополнительного образования детей и молодежи.

V. Провести республиканский социологический опрос с целью изучения интересов молодежи и донести итоги до общественных объединений, государственных структур и широкой общественности.

VI. Изыскать возможность государственного финансирования определенных программ (согласно результатам социологического опроса).

VII. Снизить налогообложение на финансирование, получаемое общественными организациями от фондов и спонсоров.

VIII. Организовывать проведение мероприятий по обмену опытом и стажировке людей, занимающихся дополнительным образованием.

IX. Средствам массовой информации обеспечить гласность деятельности общественных объединений.

X. Официально объявить республиканский День общественных объединений.

Призываем всех заинтересованных лиц, общественные организации и представителей государственных структур к сотрудничеству в области развития и совершенствования системы дополнительного образования детей и молодежи в Республике Беларусь.

# пяць год “інфармацыйнай бомбе”

## “Аб’яднаны шлях” рыхтуе новы “Даведнік”

Ян Міхевіч



**На канец восені плянуецца выхад чарговага “Даведніка грамадзкіх аб’яднаньняў Беларусі”. Па традыцыі, выдае яго “Аб’яднаны шлях”, гэткі “інфармацыйны манапаліст”, як любяць казаць пра арганізацыю канкурэнты. Зрэшты, ці ёсьць канкурэнты? За мяжой — так: даведнікі грамадзкіх аб’яднаньняў з Эўропы ёсьць нават у офісе на Ўральскай. Што да Беларусі... У 1997 годзе выхад першага даведніка справакаваў інфармацыйны выбух: усе ахвотныя на ўласныя вочы ўбачылі, колькі ў краіне зарэгістраваных арганізацыяў і, што важна, атрымалі доступ да кантактаў, якія дагэтуль меў толькі Мінюст. Мінула пяць год, а “шляхаўскі” даведнік так і застаецца “адзіным і непаўторным”. З усімі хібамі, недакладнасьцямі, але, як кажуць супрацоўнікі “Аб’яднанага шляху”, “можаце зрабіць лепей — рабіце!”**

На нашыя пытаньні адказвае Іна Чырко, каардынатар выданьня.

**— Хто выступае асноўным партнэрам “Аб’яднанага шляху” пры стварэньні “Даведніка”?**

— Нашыя асноўныя партнэры— Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь і абласныя ўпраўленьні юстыцыі, якія дасылаюць нам рэестры беларускіх НДА.

**— Якім чынам вам удаецца зацікавіць у супрацоўніцтве беларускае чынавенства — інфармацыя, падрыхтаваная дзяржавай, звычайна закрытая для шырокага грамадзтва?**

— Інфармацыя, якую мы атрымліваем, не зьяўляецца закрытай, і ніхто перашкодаў нам ня робіць. Тыя ж чыноўнікі — як і прадстаўнікі НДА, журналісты, замежныя арганізацыі — уваходзяць у склад мэтавай групы “Даведніка”.

**— Асноўная прэтэнзія да даведніка, якую часьцей за ўсё можна пачуць, — нязручнасьць у карыстаньні: цяжка знайсьці арганізацыі па кірунках дзейнасьці, у адну кучу зваленыя спартовыя, праваабарончыя, краязнаўчыя арганізацыі і інш. Ці ўлічаныя нейкім чынам гэтыя прэтэнзіі?**

— Некаторыя зьмены будуць, але трэба разумець, што ў даведніку ёсьць арганізацыі, якія дзейнічаюць у некалькіх накірунках, таму нельга пляснуць у далоні — і адразу выскачаць усе патрэбныя арганізацыі. Зь другога боку, хай іншыя зробяць лепей, мы ня супраць.

Мы ня можам паскардзіцца на тое, што наш “Даведнік” незапатрабаваны. Калі камусьці патрэбная канкрэтная арганізацыя, то ў нас працуе інфалінія: да нас заўсёды можна патэлефанаваць і атрымаць інфармацыю з базы дадзеных беларускіх НДА, якую мы пастаянна абнаўляем.

**— Вядома, што адна з самых вялікіх праблемаў пры складаньні базаў па НДА — несупадзеньне юрыдычнага і фактычнага адрасу, кантактаў.**

— Гэтая праблема вырашаецца вельмі лёгка. У “Даведніку” мы даем адрас, па якім НДА хочуць атрымліваць карэспандэнцыю. У некаторых выпадках ён супадае зь юрыдычным, а ў некаторых — не, шмат арганізацыяў маюць паштовыя скрынкі для карэспандэнцыі.

**— Ці можна будзе ў новым даведніку знайсьці арганізацыю, ведаючы толькі яе назву?**

— Так.

**— Вашыя пажаданьні беларускім арганізацыям з пункту погляду каардынатара даведніка.**

— Мы некалькі разоў рассылалі арганізацыям анкеты і прасілі іх даслаць нам інфармацыю для “Даведніка”. На жаль, ня ўсе адгукнуліся. Ня ўсе разумеюць, што гэта патрэбна ў першую чаргу самім грамадзкім арганізацыям. Мы згубілі шмат часу на тое, каб абзваніць арганізацыі і ўдакладніць інфармацыю.

Магу сказаць адно: тыя, хто даслаў свае анкеты з адказамі, могуць разьлічваць на нашую дапамогу ў першую чаргу. Калі ж да каго-небудзь ня змогуць дазваніцца калегі, фундатары, іншыя зацікаўленыя асобы, то ў гэтым ня нашая віна.

# асновы арганізацыі і вядзеньня СПРАВАВОДЗТВА ў грамадзкіх аб’яднаньнях

Вольга Смалянка,
**ГА “Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў”**
**islr@infonet.by**

Паводле заканадаўства, грамадзкія аб’яднаньні (ГА) як юрыдычныя асобы абавязаныя забясьпечыць зьбіраньне, улік і захаванасьць архіўных дакумэнтаў. Яны павінны прытрымлівацца нормаў і патрабаваньняў, што замацаваныя ў нарматыўна-мэтадычных дакумэнтах Дзяржаўнай архіўнай службы і рэглямэнтуюць вядзеньне справаводзтва і працу архіваў. У адпаведнасьці з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэньнях Рэспублікі Беларусь ад 06.12.1984 г. (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 15 лютага 2002 г.) ГА нясуць адміністрацыйную адказнасьць за парушэньне ўстаноўленага парадку вядзеньня справаводзтва.

Арт. 89/1 прадугледжвае накладаньне штрафу на грамадзяніна ў памеры ад 3 да 5 мінімальных заработных платаў (далей — МЗП) і на службовых асобаў — ад 2 да 20 МЗП за страту ці незаконнае зьнішчэньне дакумэнтаў пастаяннага ці доўгатэрміновага захоўваньня, нанясеньне ім непапраўных пашкоджаньняў.

Арт. 89/2 прадугледжвае вынясеньне папярэджаньня ці накладаньне штрафу на службовых асобаў у памеры ад 15 да 20 МЗП за выдзяленьне памяшканьняў для разьмяшчэньня дакумэнтаў з парушэньнем устаноўленых заканадаўствам нормаў, а таксама за канфіскацыю ў архіваў памяшканьняў і выкарыстаньне іх не па прызначэньні, адмову ад перадачы ва ўстаноўленых законам выпадках дакумэнтаў на дзяржаўнае захоўваньне.

Арт. 89/3 прадугледжвае вынясеньне папярэджаньня ці накладаньне штрафу на службовых асобаў у памеры ад 15 да 20 МЗП за парушэньне заканадаўства ў арганізацыі і вядзеньні справаводзтва. За парушэньні лічыцца:

— невыкананьне дзяржаўных стандартаў пры афармленьні дакумэнтаў;

— невыкананьне патрабаваньняў, што прад’яўляюцца да парадку працы з дакумэнтамі, іх апрацоўкі, абароту і захоўваньня.

Арт. 89/4 прадугледжвае вынясеньне папярэджаньня ці накладаньне штрафу ў памеры ад 15 да 20 МЗП за незаконную адмову службовай асобы ў доступе да архіўнага дакумэнта.

22 сьнежня 1998 г. Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь была зацьверджаная пастанова № 1947 “Аб дзяржаўным наглядзе за выкананьнем заканадаўства па архіўнай справе і вядзеньні справаводзтва ў Рэспубліцы Беларусь”, якой устаноўлена, што дзяржаўны нагляд за выкананьнем заканадаўства па архіўнай справе і вядзеньні справаводзтва ў Рэспубліцы Беларусь ажыцьцяўляе Дзяржаўная інспэкцыя архіваў і справаводзтва Рэспублікі Беларусь (Дзяржархіўнагляд).

Кантроль за вядзеньнем справаводзтва ў ГА ажыцьцяўляе і рэгіструючы (кантралюючы) орган. Вялікая колькасьць папярэджаньняў, якія выносяцца кіруючаму органу ГА рэгіструючымі органамі, зьвязана з парушэньнем парадку вядзеньня справаводзтва.

У адпаведнасьці з вышэйпададзеным, ГА рэкамэндуецца зьвярнуць асаблівую ўвагу на парадак вядзеньня справаводзтва.

Пытаньні працы з дакумэнтамі рэгулююцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, нарматыўна-мэтадычнымі дакумэнтамі Камітэту па архівах і справаводзтве Рэспублікі Беларусь, статутамі арганізацыяў. Трэба зьвярнуць увагу на наступныя дакумэнты:

1. Прыкладная інструкцыя па справаводзтве ў міністэрствах, дзяржкамітэтах і іншых цэнтральных органах кіраваньня, установах, арганізацыях і на прадпрыемствах, зацьверджаная загадам Дзяржаўнага камітэту па архівах і справаводзтве ў Рэспубліцы Беларусь ад 23.05.1995, №13 (далей — Прыкладная інструкцыя).

2. Пералік тыповых дакумэнтаў, якія ўтвараюцца ў выніку дзейнасьці дзяржкамітэтаў, міністэрстваў, ведамстваў і іншых установаў, арганізацыяў, прадпрыемстваў з пазначэньнем тэрмінаў захоўваньня, зацьверджаны кіраўніком Галоўнага архіўнага ўпраўленьня пры Савеце Міністраў СССР 15.08.1988 г.

3. Пералік тыповых дакумэнтаў органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, установаў, арганізацыяў і прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь па арганізацыі сыстэмы кіраваньня, цэнаўтварэньні, фінансах, страхаваньні, кіраваньні дзяржаўнай маёмасьцю, прыватызацыі, зьнешнеэканамічных сувязях. Для іх абавязковае пазначэньне тэрміну захоўваньня і Палажэньне аб парадку яго прымяненьня, зацьверджанае Пастановай Дзяржаўнага камітэту па архівах і справаводзтве Рэспублікі Беларусь 06.08.2001 г., № 38.

4. СТБ 6.38-95 “Уніфікаваныя сыстэмы дакумэнтацыі Рэспублікі Беларусь. Сыстэма арганізацыйна-распарадчай дакумэнтацыі. Патрабаваньні да афармленьня дакумэнтаў” [Набыць нарматыўна-мэтадычную літаратуру, неабходную для правільнага вядзеньня справаводзтва ў ГА, можна ў БелНДІДАС па адрасе: г. Менск, вул. Крапоткіна, 55, каб. 16, тэл. (017) 2686519.][1] .

ГА вядуць справаводзтва самастойна з улікам патрабаваньняў заканадаўства. У мэтах правільнай арганізацыі і вядзеньня справаводзтва ГА можа заключыць дамову пра супрацоўніцтва з Нацыянальным архівам Рэспублікі

Беларусь. У дамове агавораюцца правы, адказнасьць, тэрмін дзеяньня дамовы, тэрмін захоўваньня і перадачы дакумэнтаў на дзяржаўнае захоўваньне.

Да арганізацыі абароту дакумэнтаў у ГА прад'яўляюцца наступныя асноўныя патрабаваньні:

1. У мэтах удасканаленьня, упарадкаваньня працы з дакумэнтамі і забесьпячэньня іх захаванасьці ў ГА загадам кіраўніка прызначаецца асоба, адказная за архіў і вядзеньне справаводзтва[2].

2. Асобай, адказнай за архіў і вядзеньне справаводзтва, распрацоўваецца намэнклятура справаў.

Намэнклятура — гэта сыстэматызаваны пералік назваў справаў, якія ўтвараюцца ў працэсе дзейнасьці арганізацыі з указаньнем тэрмінаў іх захоўваньня, афармленых ва ўстаноўленым парадку. Намэнклятура справаў адлюстроўвае сыстэматызацыю і ўлік справаў, а таксама тэрмін іх захоўваньня. У намэнклятуру справаў уключаюцца ўсе справы пастаяннага ды часовага захоўваньня, якія ўтвараюцца ў працэсе дзейнасьці арганізацыі цягам бягучага каляндарнага году, акрамя друкаваных выданьняў. Яна складаецца штогод. Напрыканцы кожнага каляндарнага году намэнклятура справаў удакладняецца, перадрукоўваецца, зацьвярджаецца кіраўніком арганізацыі, разглядаецца экспэртнай камісіяй[3] арганізацыі і ўводзіцца ў дзеяньне зь 1 студзеня наступнага каляндарнага году.

Узор намэнклятуры справаў глядзіце ў Дадатку № 1.

3. Усе дакумэнты павінны групавацца ў справы ў адпаведнасьці з намэнклятурай справаў. У справы фармуюцца дакумэнты аднаго справаводчага году, за выключэньнем пераходзячых і асабістых справаў. У справу падшываецца ня болей за 250 аркушаў.

4. У мэтах арганізацыі і правядзеньня работы па экспэртызе каштоўнасьці дакумэнтаў і падрыхтоўцы іх да перадачы на архіўнае захоўваньне загадам кіраўніка ў ГА ствараецца экспэртная камісія (ЭК), што дзейнічае пастаянна[4].

Экспэртная камісія арганізуе і праводзіць сумесна з асобай, адказнай за справаводзтва і архіў, штогадовы адбор дакумэнтаў пастаяннага тэрміну захоўваньня і па асабовым складзе ГА для далейшага захоўваньня і для зьнішчэньня справаў са скончанымі тэрмінамі захоўваньня. Экспэртная камісія таксама разглядае і выносіць рашэньні пра ўзгадненьне і прадстаўленьне на зацьвярджэньне ва ўстаноўленым парадку:

— намэнклятуры справаў грамадзкага аб'яднаньня;

— сьпісы справаў пастаяннага захоўваньня і сьпісы справаў па асабовым складзе;

— акты аб выдзяленьні для зьнішчэньня справаў са скончанымі тэрмінамі захоўваньня;

— прапановы аб зьмяненьні тэрмінаў захоўваньня асобных відаў дакумэнтаў, устаноўленых дзеючымі пералікамі, і вызначэньні тэрмінаў захоўваньня дакумэнтаў, не прадугледжаных пералікамі.

У склад экспэртнай камісіі ўключаецца ад 3 да 5 чалавек: намесьнік кіраўніка (пры адсутнасьці кіраўніка — іншы сябар кіруючага органа), бухгальтар і адказны за вядзеньне справаводзтва. Акрамя іх у склад камісіі могуць таксама ўключацца прадстаўнікі дзяржаўных архіваў. Узначальвае экспэртную камісію намесьнік кіраўніка арганізацыі. У ГА павінна быць распрацаванае палажэньне аб экспэртнай камісіі, якое зацьвярджаецца кіраўніком арганізацыі.

5. У мэтах забесьпячэньня захаванасьці, уліку і выкарыстаньня дакумэнтаў, а таксама падрыхтоўкі іх да перадачы на дзяржаўнае захоўваньне ў ГА ствараецца архіў. Для архіву выдзяляецца памяшканьне ці шафы, якія закрываюцца на ключ.

Архіў ГА захоўвае:

— скончаныя справаводзтвам дакумэнты пастаяннага захоўваньня і па асабовым складзе, якія ўтварыліся ў працэсе дзейнасьці ГА;

— навукова-даведачны апарат да дакумэнтаў архіву.

У ГА павінна быць распрацаванае палажэньне аб архіве, якое зацьвярджаецца кіраўніком арганізацыі.

6. ГА павінны весьці справаводзтва на падставе ўласных інструкцыяў па справаводзтве, якія зацьвярджаюцца кіраўніком арганізацыі. Гэтыя інструкцыі распрацоўваюцца на аснове Прыкладнай інструкцыі.

7. Кожная арганізацыя павінна выконваць правілы абароту дакумэнтаў з моманту іх атрыманьня ці стварэньня да заканчэньня выкананьня, адпраўкі ці здачы ў справу. Рэгістрацыі падлягаюць уваходзячыя, зыходзячыя і ўнутраныя дакумэнты. Уваходзячыя дакумэнты рэгіструюцца ў дзень паступленьня, зыходзячыя — у дзень падпісаньня.

Пры рэгістрацыі дакумэнтаў, што паступілі ў ГА, у правым ніжнім куце дакумэнта ставіцца адбітак рэгістрацыйнага штампу, які ўтрымлівае назву арганізацыі, што рэгіструе дакумэнт, дату паступленьня і рэгістрацыйны індэкс (нумар) дакумэнту (у адпаведнасьці з намэнклятурай справаў).

Дакумэнту, што зыходзіць з ГА, прысвойваецца рэгістрацыйны індэкс, які ўтрымлівае нумар справы, дзе будзе захоўвацца дакумэнт (у адпаведнасьці з намэнклятурай справаў), і праз дроб — парадкавы нумар рэгістрацыі, які расьце ў межах году.

8. У кожнай арганізацыі павінны весьціся журналы рэгістрацыі ўваходзячай і зыходзячай дакумэнтацыі ці рэгістрацыйна-кантрольныя карткі. Журналы рэгістрацыі ўваходзячай і зыходзячай карэспандэнцыі вядуцца толькі ў арганізацыях з малым абаротам дакумэнтаў (да 600 на год). Форма рэгістрацыі дакумэнтаў у такіх арганізацыях зацьвярджаецца кіраўніком арганізацыі. У журнале рэгістрацыі ўваходзячых дакумэнтаў пазначаюцца наступныя графы: дата паступленьня і індэкс дакумэнту; карэспандэнт; дата і індэкс дакумэнта, што паступіў у ГА; кароткі зьмест, рэзалюцыя ці каму накіраваны дакумэнт; адзнака аб выкананьні.

У журнале рэгістрацыі зыходзячых і ўнутраных дакумэнтаў указваюцца наступныя графы: дата і індэкс дакумэнту; карэспандэнт; кароткі зьмест дакумэнту; адзнака аб выкананьні дакумэнту.

У ГА таксама павінны весьціся журналы рэгістрацыі дамоваў, загадаў па асноўнай дзейнасьці, выдадзеных даверанасьцяў.

9. ГА неабходна выконваць таксама патрабаваньні да афармленьня дакумэнтаў.

9.1. Асаблівую ўвагу трэба надаць распрацоўцы бланку для лістоў (далей па тэксьце — блянк). Блянк ГА павінен мець абавязковы камплект рэквізытаў. Блянк арганізацыі павінен у абавязковым парадку ўтрымліваць:

— поўную назву арганізацыі (у адпаведнасьці са статутам і пасьведчаньнем аб рэгістрацыі);

— паштовы адрас;

— камунікацыйныя дадзеныя (тэлефон, факс, e-mail і інш.);

— нумар разьліковага рахунку, назва і код банку;

— код ОКПО;

— падлічальны нумар падаткаплацельшчыка (патрабаваньне Нац. архіву).

Эмблема зьмяшчаецца на блянку толькі ў выпадку яго дзяржаўнай рэгістрацыі. Эмблема зьмяшчаецца на левым ці верхнім полі блянку. Заканадаўствам не ўстаноўлены памер эмблемы, што зьмяшчаецца на блянку. Аднак, па меркаваньні Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, дыямэтар выявы мусіць быць ня большы за 17 мм.

Пры стварэньні блянку на некалькіх мовах усе рэквізыты дублююцца.

Пасьля нанясеньня ўсіх пералічаных рэквізытаў пад імі праводзіцца рыска.

Пад рыскай на блянку наносяцца абмежавальныя лініі для наступных рэквізытаў: дата, індэкс справы, спасылка на індэкс і дату ўваходзячага дакумэнту.

9.2. Блянкі дакумэнтаў павінны мець палі: левае — 30 мм, правае — ня меней за 8 мм, верхняе і ніжняе — ня меней за 20 мм.

9.3. Для наданьня юрыдычнай сілы неабходная наяўнасьць абавязковых для дадзенага віду дакумэнтаў рэквізытаў: назва арганізацыі-аўтара; код арганізацыі -аўтара дакумэнту; назва віду дакумэнту ці ўніфікаванай формы дакумэнту (уключна з загалоўкам); код формы дакумэнту; загаловак да тэксту; тэкст; дата; індэкс; візы; подпіс. У лістах назва дакумэнту ня ўказваецца.

10. Зьвяртаем увагу ГА на неабходнасьць вядзеньня кнігі ўліку праверак.[5]

У кнізе ўліку праверак (рэвізіяў) павінны быць наступныя графы: № п/п; назва кантралюючага органа; дата выдачы прадпісаньня; пытаньні, якія падлягаюць праверцы (рэвізіі); подпіс работніка кантралюючага органа; дата заканчэньня праверкі (рэвізіі) і від дакумэнту па выніках праверкі (рэвізіі); подпіс работніка кантралюючага органа. Кніга ўліку праверак (рэвізіяў) павінна быць пранумараваная, прашнураваная ды замацаваная подпісам кіраўніка і пячаткай юрыдычнай асобы.

11. Многія ГА працуюць з грамадзянамі. У сувязі з гэтым неабходна ведаць, што звароты грамадзянаў (прапановы, заявы, скаргі) падлягаюць асобнай рэгістрацыі, уліку і кантролю за выкананьнем[6].

Звароты грамадзянаў, у тым ліку вусныя, падлягаюць рэгістрацыі і абавязковаму разгляду. Усе звароты грамадзянаў, што паступаюць у арганізацыі, павінны быць зарэгістраваныя ў дзень іх паступленьня. Пасьля рэгістрацыі звароты грамадзянаў перадаюцца на разгляд у дзень іх паступленьня.

Зварот павінен быць разгледжаны напрацягу аднаго месяца з дня яго паступленьня, а той, што не патрабуе дадатковага вывучэньня і праверкі — не пазьней за 15 дзён. Пры неабходнасьці правядзеньня адмысловай праверкі ці запыту дадатковых матэрыялаў кіраўнік арганізацыі, у якую паступіў зварот, можа працягнуць вызначаны тэрмін, але ня больш як на два месяцы, адначасова паведаміўшы пра гэта заяўніку. Тэрмін разгляду звароту вылічваеца ў каляндарных днях ад даты атрыманьня яго арганізацыяй.

Адказы на звароты грамадзянаў даюць упаўнаважаныя службовыя асобы арганізацыі. Адказ можа быць дадзены ў пісьмовай ці вуснай форме. У выпадку вуснага адказу робіцца адпаведны запіс у падлічальных дакумэнтах.

Кіраўнікі арганізацыяў абавязаныя таксама не радзей як раз на месяц праводзіць асабісты прыём грамадзянаў. Асабісты прыём праводзіцца ва ўстаноўленыя дні і гадзіны, графік прыёму зацьвярджаецца кіраўніком арганізацыі і даводзіцца да ўсеагульнага ведама.

Пры асабістым прыёме грамадзянаў іх вусныя і пісьмовыя звароты таксама падлягаюць рэгістрацыі ва ўстаноўленым парадку.

Звароты грамадзянаў і дакумэнты, зьвязаныя зь іх разглядам і вырашэньнем, у тым ліку па асабістым прыёме грамадзянаў за пэрыяд каляндарнага году, фармуюцца ў справы ў адпаведнасьці з зацьверджанай намэнклятурай справаў арганізацыі.

12. ГА, якія прымаюць супрацоўнікаў на работу, неабходна зьвярнуць увагу на вядзеньне кадравай дакумэнтацыі. Дакумэнты, якія ствараюцца пры афармленьні прыёму, звальненьня работнікаў, прадастаўленьня адпачынку і г.д., складаюць кадравую дакумэнтацыю, асноўнай часткай якой зьяўляецца група дакумэнтаў па асабовым складзе. Да такіх дакумэнтаў адносяцца: працоўная дамова (кантракт), загад па асабовым складзе, асабістая заява работніка, аўтабіяграфія, характарыстыка (гэтыя два дакумэнты не зьяўляюцца абавязковымі), працоўная кніжка, асабістая картка, графік адпачынкаў, табэль выкарыстаньня працоўнага часу, дакладная запіска, а таксама ўсе дакумэнты, якія ўваходзяць у асабістую справу[7].

**ГЛ. ДАДАТАК НА СТАР. 44-47.**

### КАМЭНТАРЫ Й ЗАЎВАГІ:

[1] Набыць нарматыўна-мэтадычную літаратуру, неабходную для правільнага вядзеньня справаводства ў ГА, можна ў БелНДІДАС па адрасе: г. Менск, вул. Крапоткіна, 55, каб. 16, тэл. (017) 2686519.

[2] Тэкст загаду можа быць наступны: "У мэтах удасканаленьня, упарадкаваньня працы з дакумэнтамі і забесьпячэньня іх захаванасьці ў грамадзкім аб'яднаньні "_______" загадваю прызначыць адказнага за архіў і вядзеньне справаводства ____________, выконваючага абавязкі__________.

Падстава: рашэньне кіруючага органа грамадзкага аб'яднаньня "_________".

[3] Афармляецца пратакол паседжаньня экспэртнай камісіі аб узгадненьні і зацьвярджэньні намэнклятуры справаў.

[4] Тэкст загаду можа быць наступны: "У мэтах арганізацыі і правядзеньня работы па экспэртызе каштоўнасьці дакумэнтаў і падрыхтоўцы іх

да перадачы на архіўнае захоўваньне загадваю стварыць у грамадзкім аб'яднаньні "______" пастаянна дзеючую экспэртную камісію ў складзе 3 чалавек:

1. ___________ – намесьнік старшыні праўленьня ГА «________»;

2. ___________ – бухгальтар ГА «_________»;

3. ___________ – адказны за справаводзтва ў ГА «________».

Падстава: рашэньне кіруючага органа грамадзкага аб'яднаньня «_________».

[5] Нарматыўныя акты:

1) Правілы вядзеньня юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі кнігі ўліку праверак (рэвізіяў), зацьв. Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22.02.2001, №248 (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 15 красавіка 2002 г.).

2) Палажэньне аб парадку здачы юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі на захоўваньне ў архіў кнігі ўліку праверак (рэвізіяў), зацьв. Пастановай Дзяржаўнага камітэту па архівах і справаводзтве Рэспублікі Беларусь ад 08.08.2001, № 39.

[6] Вядзеньне справаводзтва па зваротах грамадзянаў рэгулюецца наступнымі нарматыўнымі актамі:

1) Закон Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзянаў" ад 06.06.1996 г., № 407-XIII.

2) Палажэньне аб парадку вядзеньня справаводзтва па зваротах грамадзянаў, зацьв. Пастановай Кабінэту Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 01.10.1996 г., № 643.

3) Мэтадычныя рэкамэндацыі аб парадку вядзеньня справаводзтва ў дзяржаўных органах, органах грамадзкіх аб'яднаньняў, установах, арганізацыях, на прадпрыемствах па зваротах грамадзянаў, зацьв. Загадам Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь ад 11.12.1996 г., № 530.

[7] Больш падрабязна аб працоўных адносінах у грамадзкіх аб'яднаньнях і аб парадку вядзеньня кадравай дакумэнтацыі чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў "Бюлетэня".

## а б в е с т к і

**Шчырая падзяка Праграме Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт (САР), ГА "Зваротная сувязь" за дапамогу ў арганізацыі і правядзеньні IV Кангрэсу Асамблеі НДА.**

**АСАБЛІВАЯ падзяка спн. Ларысе Шутко.**

**Калегам з Праграмы Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт, рэдактару "Новага рэсурсу" Зьміцеру Станюту:**

**Ад імя сябраў Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі віншуем Вас з гадавінай выхаду першага нумару "Новага рэсурсу".**

**"Новы рэсурс" – адно зь нешматлікіх беларускіх выданьняў для НДА – цягам усяго мінулага году засьведчыла перш за ўсё свой прафэсіяналізм. На жаль, беларускі «трэці сэктар» не "разбэшчаны" зьместоўнымі, сур'ёзнымі спэцыялізаванымі выданьнямі, якія б з аднаго боку інфармавалі пра падзеі ў грамадзкіх арганізацыях і ініцыятывах краіны, а з другога – навучалі, давалі карысныя парады, аказвалі мэтадычную дапамогу лідэрам і шараговым сябрам НДА.**

**Шаноўныя калегі! Апроч "стандартных" пажаданьняў – даўгалецьця, вялікіх накладаў і посьпехаў у дзейнасьці – жадаем "Новаму рэсурсу" і ўсім супрацоўнікам менскага офісу Праграмы Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт і надалей заставацца гэткімі ж актыўнымі і прафэсійнымі.**

**Выканаўчае бюро Асамблеі віншуе Жэню Місілевіч і Юрася Палякова з нараджэньнем сына Стасіка. Зычым маламу здароўя і шчасьця, а маладым бацькам — цярплівасьці і любові.**

**Приложение № 1**

Общественное объединение

"___"
(далее ОО "___")

УТВЕРЖДАЮ

Председатель Правления
_______________

_______________ г.

НОМЕНКЛАТУРА ДЕЛ
__________№________

г. Минск
на 2002 год

| Индекс Дела | Наименование раздела, заголовок дела (тома. части) | Кол-во дел (томов, частей) | Срок хранения дела (тома, части) и № статей по перечню | Примечание |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |

**Руководство-01**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 01-01 | Законы Республики Беларусь, постановления Национального собрания Республики Беларусь, Декреты, указы Президента Республики Беларусь, постановления Совета Министров Республики Беларусь | | До минов. надобн. ст. 1.2, 3.2 | |
| 01-02 | Устав и свидетельство о регистрации ОО "___" | | Пост. ст. 8.1, 11 | Переходящее |
| 01-03 | Протоколы заседаний Общего Собрания ОО "___" и документы к ним | | Пост. ст. 14 | |
| 01-04 | Протоколы заседаний Правления ОО "___" и документы к ним | | Пост. ст. 14 | |
| 01-05 | Приказы Председателя Правления ОО "___" по основной деятельности и документы к ним | | Пост. ст. 16.1 | |
| 01-06 | Отчет ОО "___" о реализации проектов за 2002 год | | 10л. ЭПК ст. 965 | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-07 | Документы об организации и проведении семинаров, круглых столов, совместных и др. проектов ОО "___" (программы, отчеты, сведения и др) | | Пост. ст. 66а | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-08 | Документы о сотрудничестве с Центром _________ по правовым вопросам (переписка, информация) | | Пост. ст. 968 | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-09 | Документы о сотрудничестве с ________ __________________________________ __________________________________ (приглашения, информация, анкеты, переписка) | | Пост. ст. 968 | Перечень типовых документов, М., 1989 |



**Зьвярніце ўвагу на тое, што ў дадзенай прыкладнай намэнклятуры адсутнічае разьдзел "Кадры". ГА, якія прымаюць на работу супрацоўнікаў, неабходна яе дапоўніць.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 01-10 | Сведения ОО “___” об общественных организациях | До минов. надобн. б/ст. | В электронном виде |
| 01-11 | Переписка с Министерством юстиции Республики Беларусь, и другими государственными органами и учреждениями Республики Беларусь по вопросам уставной деятельности | Пост. ст. 25 | |
| 01-12 | Переписка с общественными организациями по вопросам уставной деятельности | Пост. ст. 25 | |
| 01-13 | Переписка с __________________________ __________________________ по вопросам уставной деятельности | Пост. ст. 25 | |
| 01-14 | Переписка с Министерством по налогам и сборам Республики Беларусь, банками и др. по вопросам финансово-хозяйственной деятельности | 3г. ст. 26 | |
| 01-15 | Заявления о вступлении и выходе из членов ОО “___” | 3г. ЭПК ст. 1242 | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-16 | Списки членов ОО “___” ” | 75л. ст. 511 | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-17 | Информационные подборки из периодических печатных изданий по вопросам деятельности ОО “___” и др. общественных объединений | Пост. б/ст. | |
| 01-18 | Журнал регистрации приказов ОО “___” по основной деятельности | Пост. ст. 106а | В госархив не передается. Перечень - типовых документов, М., 1989 |
| 01-19 | Журнал регистрации входящей корреспонденции | 3г. ст. 106а | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-20 | Журнал регистрации исходящей корреспонденции | 3г. ст. 106а | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 01-21 | Журнал регистрации выданных доверенностей | 3г. ст. 512 | После проведения налоговой проверки |
| 01-22 | Журнал регистрации договоров, соглашений | 3г. ст. 338 | Перечень типовых документов, М., 1989 |

Бухгалтерия – 02

| | | | |
|---|---|---|---|
| 02-01 | Инструкции, методические рекомендации Министерства финансов Республики Беларусь, Министерства по налогам и сборам Республики Беларусь по финансово- экономическим вопросам и налогообложению | До минов. надобн. ст. 4.2 | В электронном виде |
| 02-02 | Протоколы заседаний Ревизионной комиссии ОО “___” и документы к ним | 10л. ЭПК ст. 123б | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| 02-03 | Бухгалтерский баланс ОО “___” за 2002 год и пояснительная записка к нему | Пост. ст. 452.1 | |
| 02-04 | Отчеты ОО “___” (перечислить какие отчеты) | 5л. ст. 293, 294 | |
| 02-05 | Бухгалтерские документы кассового и мемориального характера (извещения и выписки банка, накладные по учету товарно- материальных ценностей, авансовые отчеты, платежные поручения, приходно-расходные, кассовые ордера и др). | 3г. ст. 462 | При условии завершения ревизии, после проведения налоговой проверки |
| 02-06 | Документы об инвентаризации и учете имущества, товарно-материальных ценностей (протоколы, акты, сличительные ведомости и др.) | 3г. ст. 508, 507 | После проведения налоговой проверки |
| 02-07 | Документы о проведении документальных ревизий финансовой деятельности (справки, акты, пояснительные записки и др.) | 5л. ст. 531 | После проведения налоговой проверки |
| 02-08 | Договоры хозяйственные | 3г. ст. 513 | После завершения ревизии, после истечения срока действия |
| 02-09 | Договоры о купле-продаже _______________ и документы ним | 20л. ст. 240 | После истечения срока договора |
| 02-10 | Договоры подряда и документы к ним | 5л. ст. 531 | После проведения налоговой проверки |
| 02-11 | Главная книга | 3г. ст. 469 | После проведения налоговой проверки В электронном виде |
| 02-12 | Кассовая книга | 3г. ст. 467 | После проведения налоговой проверки |
| 02-13 | Журнал-ордер | 3г. ст. 469 | После проведения налоговой проверки |
| 02-14 | Журналы, карточки и оборотные ведомости по учету материальных ценностей | 3г. ст. 467 | После проведения налоговой проверки В электронном виде |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 02-15 | Журнал учета проверок, проводимых в ОО “___” | 3г. ст. 540 | |

**Архив А**

| | | | |
|---|---|---|---|
| А-01 | Инструкции, методические указания Государственного учреждения “Национальный центр по архивам и делопроизводству” по вопросам организации и ведения работы с документами в общественных объединениях и др. вопросам | Пост. ст. 12.2 | |
| А-02 | Положение об архиве ОО “___” | Пост. ст. 10 | |
| А-03 | Положение о постоянно действующей экспертной комиссии ОО “___” | Пост. ст. 10 | |
| А-04 | Протоколы заседаний экспертной комиссии | Пост. ст. 14 | |
| А-05 | Дело фонда ОО “___” (историко-архивная справка, описи дел постоянного хранения, по личному составу, акты о выделении дел к составу, акты о выделении дел к уничтожению) | Пост. ст. 115, 1117 | Перечень типовых документов, М., 1989 |
| А-06 | Номенклатура дел ОО “___” на 2002 год | Пост. ст. 95 | Перечень типовых документов, М., 1989 |

Ответственный за делопроизводство Ф.И.О.

При составлении номенклатуры дел использован “Перечень типовых документов, образующихся в деятельности госкомитетов, министерств, ведомств и других учреждений, организаций, предприятий с указанием сроков хранения” (М., 1989) и “Перечень типовых документов органов государственной власти и управления, учреждений, организаций и предприятий Республики Беларусь по организации системы управления, ценообразованию, финансам, страхованию, управлению государственным имуществом, приватизации, внешнеэкономическим связям с указанием сроков хранения. Мн., 2001

СОГЛАСОВАНО

Протокол ЭК ОО “___”

________________№_____

Предселатель ЭК

_______Ф.И.О.

СОГЛАСОВАНО

Протокол ЭМК Национального архива Республики Беларусь

________________№______

Председатель ЭМК

________ Л.И. Мурмыло

Итоговая запись о категориях дел, заведённых в 2001 году в ОО “___”

| По срокам хранения | Всего | В том числе | |
|---|---|---|---|
| | | Переходящих | с отметкой ЭПК |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Постоянного | | | |
| Временного (свыше 10 лет) | | | |
| Временного (до 10 лет включительно) | | | |
| Итого: | | | |

Ответственный за делопроизводство Ф.И.О.

# Асамблея НДА

## абвяшчае пра пачатак працы Сыстэмы калектыўнай абароны няўрадавых арганізацыяў Беларусі

**Наваствораная сыстэма накіраваная на ўмацаваньне законнасьці ва ўзаемаадносінах дзяржавы і няўрадавых арганізацыяў, захаваньне і абарону права чалавека на ўдзел у саюзах і асацыяцыях, абарону няўрадавых арганізацыяў ад неабгрунтаванага перасьледу, павышэньне ўзроўню прафэсійнай падрыхтоўкі супрацоўнікаў "трэцяга сэктару", распаўсюд інфармацыі аб прававым стане ў гэтай сфэры.**

19 студзеня 2002 году прадстаўнікі дваццаці грамадзкіх арганізацыяў узялі ўдзел у круглым стале "Калектыўная абарона няўрадавых арганізацыяў". Гэтае мерапрыемства праходзіла ва ўмовах, калі НДА краіны трапілі пад жорсткі ціск з боку дзяржавы: нягледзячы на пратэсты грамадзкасьці, былі ліквідаваныя МІЦ і ЗБС, каля двух дзясяткаў арганізацыяў былі абвінавачаныя ў парушэньні Дэкрэту № 8, а іх сябры прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці. Некалькі месяцаў не зьбіралася Камісія па рэгістрацыі і перарэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў (тым самым было блякаванае стварэньне новых грамадзкіх аб'яднаньняў).

Удзельнікі круглага стала канстатавалі, што становішча прававой неабароненасьці беларускіх НДА перад нэгатыўным стаўленьнем дзяржавы да несанкцыянаванай грамадзянскай актыўнасьці зьяўляецца недапушчальным. Удзельнікі паседжаньня вырашылі стварыць на базе Выканаўчага бюро Асамблеі рабочую групу юрыстаў, якая распрацуе захады па самаабароне няўрадавых арганізацыяў ад неабгрунтаванага перасьледу і ціску з боку дзяржавы.

Гэтая група, у склад якой увайшлі праваабаронцы і юрысты, што займаюцца аказаньнем дапамогі грамадзкім аб'яднаньням, выпрацавала канцэпцыю сыстэмы калектыўнай абароны няўрадавых арганізацыяў. Згодна з плянам, яна мусіць абапірацца на ўжо існуючыя праваабарончыя структуры, каардынаваць іх дзейнасьць у кірунку абароны няўрадавых арганізацыяў, весьці маніторынг парушэньняў і сыстэматызаваць досьвед абароны NGO. Таксама ўдзельнікі групы прыйшлі да высновы, што гэтая праца павінна весьціся па некалькіх накірунках: і "хуткая дапамога" арганізацыям, якія трапілі пад перасьлед, і павышэньне агульнага ўзроўню прававой падрыхтаванасьці кіраўнікоў і сябраў няўрадавых аб'яднаньняў.




У межах гэтага праекту ў абласьцях Беларусі ствараецца юрыдычная сетка, мэта якой — кансультацыя NGO (зарэгістраваных / незарэгістраваных, сябраў / ня-сябраў Асамблеі), прадстаўленьне іх інтарэсаў у судзе і іншых органах дзяржаўнай улады і кіраваньня, дапамога ў падрыхтоўцы рэгістрацыйных і іншых дакумэнтаў.

Таксама распрацаваныя дапаможнікі, якія павінны адказаць на найбольш распаўсюджаныя пытаньні, што паўстаюць перад грамадзкімі аб'яднаньнямі (правілы паводзінаў падчас праверак, атрыманьне ліцэнзіі, парады па падаткаабкладаньні, складаньне дамоваў і інш.).

У рэгіёнах пройдзе шэраг сэмінараў, на якіх будуць разглежаныя пытаньні юрыдычнага боку стварэньня і дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў.

У бліжэйшы час адбудуцца сэмінары ў Віцебску (30 лістапада) і Гомлі (8 сьнежня). На гэтыя сэмінары запрашаюцца кіраўнікі грамадзкіх аб'яднаньняў і грамадзянскіх ініцыятываў, юрысты арганізацыяў і асобы, адказныя за справаводзтва і юрыдычнае забесьпячэньне дзейнасьці NGO.

**КАНТАКТНЫЯ АСОБЫ:**

**Каардынатар Сыстэмы калектыўнай абароны**
ЮРЫ ЧАВУСАЎ,
Выканаўчае бюро Асамблеі НДА
(017) 2255110, (017) 2065909
ngo@user.unibel.by

**Менск і Менская вобласьць**
УЛАДЗІМЕР ЛАБКОВІЧ,
(029) 6516126, (017) 2310844
labkovic@yahoo.com

**Магілёўская вобласьць**
БАРЫС БУХЕЛЬ,
(0222) 444210
viasna@tut.by

**Гарадзенская вобласьць**
АЛЯКСАНДР АНТАНЮК,
(029) 6564163, (0152) 446143
bhc_hrodna@yahoo.com

**Віцебская вобласьць**
ПАВАЛ КАЧАН
(029) 6010397
abarona_viciebsk@torba.com

**Берасьцейская вобласьць**
ВІКТОРЫЯ САСТРАЎЧУК,
(0162) 201395
wiktoria@tut.by

**Гомельская вобласьць**
ЮЛІЯ ІВАНОВА,
(029) 6481396
dapamoga2002@yahoo.com